М. Абрамчук

# Больш увагі да палітвучобы

Задачы, якія стаяць перад рабочай дзяржавай, высунутыя XV парт. зьездам і XI зьездам КП (б) Б:

Рацыяналізацыя прамысловасьці і кіраўніцтва, арганізацыя буйнай калектыўнай сельскай гаспадаркі і соцыялістычная перабудова вёскі.

Разгортваньне самакрытыкі, як сродку вылечваньня нашых балючак, і ўцягненьне рабочых мас у соцыялістычнае будаўніцтва, барацьба з бюрократызмам, кантроль над работай дзяржаўнага апарату.

Пытаньні культурнай рэвалюцыі—практычнай задачы сёньняшняга дню, выклікаемай соцыялістычным будаўніцтвам і неабходнасьцю ўцягненьня шырокіх рабочых, бядняцка-серадняцкіх мас у кіраўніцтва дзяржавай і вырабаткі пралетарскіх кадраў для соцыялістычнага будаўніцтва.

Далейшае наступленьне на капіталістычныя элемэнты—супроць кулака, нэпмана, папоў усіх масьцей і інш.—востра патрабуюць ад сяброў партыі *разгарнуць вялізарную працу па палітычнай асьвеце, культурнаму ўздыму і соцыялістычнаму перавыхаваньню мас.*

Ускладненьне палітычных, гаспадарчых, культурных задач партыі патрабуе падвышэньня ідэёва палітычнага і культурнага ўзроўню партыі; разьвіцьця марксысцка-ленінскага сьветапогляду, узбраеньня іх неабходнымі ведамі: а) для разгортваньня самакрытыкі, б) каб рашуча адбіць напор буржуазнай ідэалёгіі і яшчэ больш узмацніць наступленьне на капіталістычныя элемэнты, в) каб стаяць моцна на чале гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, г) для хутчэйшага выхаваньня кадраў рацыяналізатараў вытворчасьці, кіраўніцтва і соцыялістычнай перабудовы вёскі, д) для ўзмацненьня працы па замацаваньню саюзу рабочай клясы, беднаты з серадняком. Партыйная асьвета павінна ў выпаўненьні гэтых задач адыгрываць вялізарнейшую ролю, а партыйныя арганізацыі прызначыць ёй больш увагі і сіл.

Першапачатковай партыйнай асьветай за апошнія годы ахоплена амаль ня ўся партарганізацыя. У мінулым годзе навучалася ў школах і гуртках 14,617 членаў і кандыдатаў КП(б)Б, што складае 49,6% усяе КП(б)Б. Акрамя гэтага у розных навучальных установах (Камвузе Савпартшколах, ВНУ, Рабфаках, вячэрніх школах падвышанага тыпу, вячэрніх рабочых нядзельных унівэрсытэтах розных курсах). Навучалася 2,813 чал., што складае разам 17,430 чал. альбо 59,1% на 1 студзеня 1928 г.

Узросшы ўзровень партмасы за апошніх 2 гады адбіўся ў партасьвеце тым, што з кожным годам пачынаюць узрастаць сярэднія і вышэйшыя формы партвучобы, за кошт першапачатковых. У параўнаньні з 1926-27, у 1927-28 годзе зьменшылася навучаючыхся ў першапачатковых школах і гуртках на 2,769 чалав. і ўзрасло ў сярэдніх

зьвеньнях на 440 чал., у вышэйшых на 353 чал. і ў розных гуртках самаадукацыі на 1,758 чал., што сьведчыць аб узросьце запатрабаваньняў партыйнай масы і што першапачатковая партвучоба застаецца, галоўным чынам, толькі для кандыдатаў партыі. Партыйная маса патрабуе ад партвучобы больш высокіх і гібкіх форм партвучобы, якія задавальнялі-б яго запатрабаваньні, выклікаемыя ўскладненымі задачамі партыі ў розных галінах работы.

Асноўным недахопам у арганізацыі партвучобы зьяўляецца недастатковая гібкасьць форм яе. Дырэктыва ЦК мінулага году аб дабрахвотнасьці у выбару форм партвучобы і навучаньня ня ўсюды выконвалася. Партыец хацеў навучацца ў гуртку, а яго пасылалі ў школу, альбо ён хацеў навучацца якому-небудзь асобнаму тэарэтычнаму пытаньню, а яму адказвалі: „ёсьць гурток марксысцка-ленінскі" або „палітграматы"... і кропка. Тэматычныя гурткі, амаль што адсутнічалі, з актывам не наладжана праца.

Парт. сетка ня была прыстасавана да ўмоў працы (зьмены) і быту партыйцаў. Такая нягібкасьць адбілася адмоўна на партвучобе, у выніку чаго назіраўся адсеў на 35%.

У партасьвеце ў 1927-28 годзе ёсьць цэлы шэраг палепшаньняў і дасягненьняў у зьмесьце партвучобы; апошняя ў значнай меры садзейнічала ленінскаму выхаваньню членаў партыі ў адносіне Ленінскага прысваеньня палітыкі партыі і згуртаваньня вакол Ленінскага ЦК Усе КП(б) і дружнаму адпору апазыцыі; узвысіўся тэарэтычны ўзровень; ахоплен поўнасьцю кастрычнікаўскі заклік. Але ў мінулым годзе было досыць і недахопаў, на якіх патрэбна застанавіцца, каб унікнуць іх надалей. Галоўнае, як ужо падкрэсьлена, гэта недастатковае выкананьне дырэктыў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП (б) Б аб разьвіцьці больш разнастойных форм і дабрахвотнасьці ў выбару форм партвучобы; узросшыя запатрабаваньні партыйцаў не заўсёды знаходзілі задавальненьне партвучобай; мелі мейсца пры ўкамплектаваньні школ і гурткоў фармалізм і парушэньне дырэктыў партыі аб партвучобе, зусім слаба была разгорнута грамадзкая думка ўсіх партыйцаў вакол партвучобы і зацікаўленасьць партвучобай.

Пытаньні сучаснасьці, задачы і практыку партыйнай, гаспадарчай, савецкай, прафсаюзнай працы партасьвета недастаткова адбівала; на хвалючыя пытаньні сёньняшняга дню на прадпрыемствах і вёсцы слухач-партыец у школах і гуртках не заўсёды атрымлівалі адказ. У мэтадах выкладаньня яшчэ ня выжыта трафарэтнасьць і фармальнае бяскрытычнае прысваеньне кніжных ведаў без набыцьця навыкаў працы над творамі клясыкаў марксызму і ленінізму, бяз крытыкі поглядаў ідэёвых ворагаў марксысцка-ленінскага вучэньня. Часта назіраліся падмены папулярызацыі вульгарызацыяй, замест пераконваньня— прымус. Непадрыхтаванасьць кіраўнікоў школ, гурткоў да заняткаў: выходзілі на авось—„авось крывая вывезе". Усё гэта перашкаджала партыйцам набыць асновы ведаў рэвалюцыйнай тэорыі, а часам адбівала ўсялякую ахвоту вучыцца ў школах і гуртках. У гэтым годзе было слабое высоўваньне новых прапагандыстых з рабочых ад варстату і работа з імі нерашучая Толькі зараз некаторыя акругкомы арганізавалі такія курсы (Менск—60 чал. Гомель). Работа з прапагандыстамі праз апагабінэты палепшылася, але далёка яшчэ не наладжана.

Завочнае навучаньне і самаадукацыя не разьвіваецца; завочнікаў вылучылі, а разгрузіць трохі і дапамагчы літаратурай, кансультацыяй ніхто не паклапаціўся. Арганізаваць гурток—арганізавалі, запісалі ў райкоме, а як ён працуе, чым яму патрэбна дапамагчы ніхто і ня думае. Такія адносіны прывялі да кампрамэтацыі самой самаадукацыі.

Выходзячы з задач, стаячых перад партыяй і партвучобай, і тых недахопаў, якія назіраліся ў гэтым годзе, неабходна рашуча правесьці шэраг мерапрыемстваў як у галіне арганізацыі, так і ў палепшаньні зьместу партвучобы.

## У галіне арганізацыі партвучобы

Мінулы год паказаў, што добрахвотнасьць форм партвучобы дала станоўчыя вынікі, а таму ў гэтым годзе рашуча праводзіць на справе прынцып поўнай добрахвотнасьці партвучобы для членаў партыі як у самым навучаньні, таксама і ў выбару форм навучаньня. Абавязковасьць навучаньня ў пачатковай партыйнай школе захаваць толькі для кандыдатаў КП(б)Б, пры чым, для асобных таварышоў, якім цяжка праходзіць курс школы палітграматы, арганізоўваць спэцыяльна прыстасаваныя да іх узроўню разьвіцьця, формы (гурткі чытак, газэтныя гурткі і інш.). Таксама аслабляць ад абавязковага навучаньня ў пачатковай партшколе таварышоў, якія навучаюцца ў школах малапісьменых і іншых агульна-адукацыйных школ Наркамасьветы, забясьпечыўшы іх добрую пастаноўку грамадазнаўства.

Каб выканаць дырэктыву партыі аб добрахвотнасьці партвучобы, дамагчыся поўнага абхопу партыйцаў партвучобай на падставе зацікаўленасьці і запатрабаваньняў партыйнай і камсамольскай масы; партарганізацыям шырока разгарнуць своечасовае высьвятленьне пытаньняў партвучобы на сходах ячэек у газэтах, насьценных газэтах і інш., асабліва разнастойных форм яе, арганізаваўшы самакрытыку недахопаў. Кампаніі камплектаваньня і растлумачваньня задач палітвучобы, партыйныя арганізацыі павінны аддаць такую ўвагу, як і іншым палітычным кампаніям.

Добрахвотнасьць у камплектаваньні і разнастайнасьць форм партвучобы павінна садзейнічаць зьнішчэньню такіх зьявішч, як адсеў, да канца вучобы, ненаведваньне школ і павінна садзейнічаць большаму абхопу палітвучобай партыйнай масы, асабліва сярэднімі і вышэйшымі зьвеньнямі.

Добрахвотнасьць патрабуе гібкасьці агітпропаў, чуласьці да запатрабаваньняў парт. і камсам. масы, вучоту гэтых запатрабаваньняў, вучоту паліт. і агульна-адукацыйнага ўзроўню і хуткага рэагаваньня на іх, таму неабходна кожнаму працаўніку быць знаёмым з праграмамі розных школ і гурткоў, курсаў і інш. Калі пры добрахвотнасьці партвучобы зьменшыцца лік навучаючыхся ў партшколах, дык значна павінна павялічыцца ў гуртках, у самаадукацыйнай сыстэме, тэматычных гуртках, у завочным навучаньні і іншых больш цяжкіх і складаных для арганізацыі формах палітвучобы. Таму дабраахвотнасьць вымушае ад работнікаў агітпропаў у першую чаргу *быць арганізатарамі і масавікамі,* штодзённа ведаць запатрабаваньні, узровень разьвіцьця партыйнай і камсамольскай масы.

Пры правільным камплектаваньні (ведаючы індывідульныя запатрабаваньні, узровень палітычнага і агульна-адукацыйнага разьвіцьця, знаёмства з рознастайнымі праграмамі форм палітвучобы з боку АПА-работнікаў, вучот жаданьняў парт. і камс. масы і інш.), парт. і камсамольскія организацыі павінны ўцягнуць у партпалітасьвету ня менш навучаючыхся ў гэтым годзе і па якасьці вучоба павінна стаць лепшай, чым у гэтым годзе.

Задачы рэгуляваньня і росту складу партыі патрабуе шырока ўцягваць у партшколы, беспартыйных рабочых, батракоў і беднякоў, не абмяжоўваючыся лікам, % да партскладу слухачоў школ і гурткоў.

Для абслугоўваньня партыйцаў і камсамольцаў, раскіданых па глухіх кутках вясковых раёнаў, арганізаваць перасоўкі па праграме першапачатковай адзінай школы прадметныя марксыцка-ленінскія гурткі вячэрніх саўпартшкол, якія прывіліся і замацаваліся, шырока распаўсюдзіўшы іх у 1928-29 годзе.

Для задавальненьня дыфэрэнцыраваных запатрабаваньняў актыву шырока разгарнуць сетку разнастойных тэматычных гурткоў па вывучэньню асобных тэарытычных і практычных праблем. На кіраўніцтва тэматычнымі гурткамі патрэбна вылучаць найбольш ініцыятыўных кваліфікаваных рукаводаў. Магчыма таксама арганізоўваць тэматычныя гурткі па мэтадах самаадукацыі.

Вячэрнія савпартшколы за апошнія гады прывіліся як ні адна форма партвучобы,—трэба іх пашырыць, арганізаваць ня толькі агульныя гарадзкія, але і пры асобных прадпрыёмствах, альбо групы прадпрыёмстваў, каб лепш увязаць яе работу з практычнай работай прадпрыёмства і каб зрабіць яе больш гібкай і прыстасаванай да запатрабаваньняў актыву, арганізоўваць яе двух тыпаў—аднагадовую і двухгадовую.

Для абслугоўваньня вясковага партактыву прыступіць у гэтым годзе ў больш буйных раёных цэнтрах да арганізацыі савпартшкол. Для гэтага скарыстаць сямігодкі, школы сялянскай моладзі, тэхнікумы і другія навучальныя ўстановы раёну.

Да агульна-адукацыйных прадметаў маецца вялікае імкненьне; трэба пайсьці насустрэч гэтым імкненьням і ў праграму вячэрніх савпартшкол увесьці агульнаадукацыйныя прадметы і зрабіць яе камбінiраванай формай палітычнай і агульна-адукацыйнай асьветы.

Арганізацыя ў гэтым годзе сыстэматычна па нядзелях пэрыядычных лекцый для падвышэньня тэарэтычнага ўзроўню акругавага і раённага актыву ў Менску і Гомелі (нядзельныя Камвузы) сябе поўнасьцю апраўдала, як адна з форм работы з актывам; трэба гэтую форму вучобы актыву распаўсюдзіць і па другіх акруговых цэнтрах, наладзіўшы кіраўніцтва з боку Камвузу Беларусі імя Леніна.

Акрамя гэтага трэба арганізаваць цыклявыя лекцыі па важнейшых праблемах марксыцка-ленінскай тэорыі і практыкі сацыялістычнага будаўніцтва.

У адносінах да членаў партыі і камсамолу, навучаючыхся ў ВУЗ‘ах, неабходна шырэй арганізоўваць марксыцкія гурткі і сэмінары для ўнядрэньня марксыцкай мэтадалёгіі ў розныя спэцыяльныя дысцыпліны, лічачы гэту работу абавязкам камуніста-студэнта і навуковага работніка. Гурткі арганізоўваць пры катэдрах навукова-дасьледчых устаноў і інш. Акрамя гэтага у ВУЗ‘ах арганізоўваць гурткі бягучай палітыкі гурткі па праработцы партыйных дырэктыў і паасобных тэарэтычных праблемах.

Усе гэтыя гурткі бязумоўна ў добраахвотным парадку.

## У галіне самаадукацыі

Адзначаючы слабае разьвіцьцё самаадукацыйнай работы асабліва ў вёсцы і ўлічваючы ўзросшыя запатрабаваньні шырокіх партыйных, камсамольскіх і беспартыйных рабочых гушчаў у падвышэньні свае палітычна-тэорытычнае, агульнаадукацыйнае і прафтэхнічнай кваліфікацыі, неабходна пасіленьне масавага размаху самаадукацыйнай работы, асабліва на сярэдніх зьвеньнях. Самаадукацыйная работа павінна разгортвацца пад кіраўніцтвам агітпропаў пры клюбах, хатах-чытальнях, бібліятэках і асабліва па сыстэме сеткі школ, курсаў, тэхнікумаў, рабфакаў, вузаў, савпартшкол і камвуза.

Неабходна ўзмацніць самаадукацыйную работу як палітычную пры АПА, так агульнаадукацыйную і профтэхнічную пры іншых органах, неабходнымі сродкамі і кваліфікаванымі сіламі (кансультантамі, рэцэнзэнтамі і арганізатарамі гэтай справы), пасіліць інструктаж як жывы, так і праз друк. Трэба дамагчыся на кожны раён па аднаму платнаму перасоўнаму кансультанту.

Першым спробам завочнага навучаньня ў гэтым годзе з боку партorганаў, прафорганаў і органаў НКАсьветы, недастаткова аддавалася ўвагі. Не давалася дапамогі вылучаным для завочнага навучаньня; апогабінэты, бібліятэкі ня мелі належнай літаратуры, патрэбнай па праграмах завочная навучаньня (Камвузы, Савпартшколы, тэхнікумы, рабфакі і інш.). Партыйцы ад нагрузкі не разгружаліся, ня вылучаліся пры бюро самаадукацыі кансультанты і інш.

Надаючы вялікае значэньне завочнаму навучаньню як палітычнаму, так агульнаадукацыйнаму і прафтэхнічнаму, неабходна шырока інфармаваць ім грамадзкасьць зараз-жа распачаць складаць і публікаваць рэкамэндавальныя сьпісы існуючых у цэнтры і на мясцох завочных курсаў, школ, растлумачваючы іх праграмы, адрасы, праспэкты. Забясьпечыць апогабінэты і бібліятэкі неабходнымі падручнікамі і літаратурай па завочнаму навучаньню, вылучаць таварышоў для дапамогі на мясцох завочнікам пры кансультацыйных пунктах (апогабінэтах, АПА райкомаў, бібліятэках).

Вылучыць спэцыяльных, пры буйных ячэйках, арганізатараў самаадукацыйнай работы, якія-б арганізоўвалі гэтую справу на прадпрыёмствах і ў вёсцы. Практыкаваць пэрыядычныя канфэрэнцыі самавучак і завочнікаў для абмену і падагульваньня вопыту работы, а таксама ўцягваць работнікаў па самаадукацыі на курсы па перападрыхтоўцы.

Членаў партыі і камсамолу, якія займаюцца самаадукацыяй, разглядаць як грамадзкую нагрузку ўпоравень з таварышамі, якія займаюцца ў школах партасьветы.

## У галіне зьместу палітвучобы

Неабходна: дабіцца чоткага высьвятленьня асноўных агульна-тэарэтычных, палітычных і гаспадарчых праблем, высоўваемых бягучым этапам сацыялістычнага будаўніцтва СССР і разьвіцьця міжнароднай рэвалюцыі.

Для гэтага неабходна:

а) Пасіліць вывучэньне ў сыстэме партасьветы наступных пытаньняў: зьніжэньне сабекошту, капітальнага будаўніцтва, рацыяналізацыі вытворчасьці і кіраўніцтва, калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

Больш увязваць праработку асноўных пытаньняў марксыцка-ленінскай тэорыі з вывучэньнем практыкі рацыяналізацыі, практыкі калектывізацыі сельскай гаспадаркі і пытаньняў культурнай работы.

Пытаньні рацыяналізацыі і практыкі калектывізацыі сельскай гаспадаркі увесьці у навучальныя пляны гарадзкіх і вясковых пачатковых адзінак і савпартшкол.

Асаблівую ўвагу зьвярнуць на вясковую партсетку, у якой пытаньні калектывізацыі сельскай гаспадаркі неабходна ўвесьці ў пляны ўсіх тыпаў школ і гурткоў.

Разам з гэтым паставіць, як чарговую задачу, неабходнасьць абслугоўваньня вясковых камуністых лекцыямі, арганізацыяй экскурсій, кансультацыяй па пытаньнях сельскай гаспадаркі, а таксама арганізацыяй курсаў і гурткоў у савгасах і калектыўных гаспадарках.

б) Забясьпечыць праработку ў партсетцы пытаньняў, праводзімых кампаній (перазаключэньне дагавароў, перавыбары мясцкомаў, перавыбары саветаў, каапэрацыі і інш.). Для гэтага неабходна абмяркоўваць папярэдня гэтыя пытаньні з прапагандыстымі шляхам спэцыяльных сходаў пропкалактываў у школьных саветах, шляхам выданьня спэцыяльных праграм і мэтадычных матар'ялаў.

Наладзіць сыстэматычнае вывучэньне пытаньняў міжнароднага рабочага руху і задач Комінтэрну, організоўваючы на прадпрыёмствах побач з існуючымі гурткамі, спэцыяльныя гурткі міжнароднага рабочага руху.

в) Дамагчыся большага падвышэньня тэорытычнага ўзроўню вучобы, накіроўваючы яе як па лініі далейшага разаблачэньня дробнабуржуазных скажэньняў бальшавізму, так і па лініі крытыкі поглядаў ворагаў марксызму-ленінізму з буржуазнага лягеру, а таксама завастрэньня ўвагі навучаючыхся членаў партыі і камсамолу на сучасных задачах ідэолёгічнай барацьбы; мабілізаваць увагу іх да выпрацоўкі марксыцкага сьветапогляду, падвышаючы актыўнасьць іх на ўсіх вучастках барацьбы з буржуазнай ідэалёгіяй.

Разьвіць клясавую большавіцкую нязьміронасьць да буржуазна-нацыяналістычнай, клерыкальна-рэлігійнай, кулацка-нэпманскай ідэалёгіі. Аднэй з форм падрыхтоўкі партыйцаў у гэтым напрамку зьяўляюцца гурткі дыялектычнага матэрыялізму.

Пытаньні нацыянальна-культурнага будаўніцтва займалі і займаюць шмат увагі і часу ў КП(б)Б. Зьезды і Пленумы ЦК КП(б)Б ня раз падкрэсьлівалі, што КП(б)Б на чале нацыянальна-культурнага будаўніцтва, таму парт. асьвета ня можа абыйсьці гэтых дырэктыў партыі і павінна падрыхтоўваць партыйную масу да актыўнага ўдзелу ў вырашэньні гэтай задачы. Пытаньні культурнай рэволюцыі ставяць перад партыяй шэраг практычных задач па культурнаму выхаваньню шырокіх мас рабочых і сялян у напрамку соцыялістычнага перавыхаваньня іх. Усё гэта патрабуе, каб партыец у школах і гуртках атрымаў належную падрыхтоўку для правядзеньня ў жыцьцё пастаноў і задач партыі. У рабоце школ і гурткоў павінны займаць вялікае месца пытаньні літаратуры, тэатру, кіно і інш., адводзячы для гэтага спэцыяльна пазашкольныя гадзіны.

Усе гэтыя задачы будуць пасьпяхова праведзены ў жыцьцё і дадуць добрыя вынікі тады, калі партыйныя камітэты створаць належную грамадзкую партыйную думку ўсяе партарганізацыі, калі на пропагандысцкую работу будуць высунуты і падрыхтованы сотні новых пропагандыстых з рабочых ад варстату, зьвязаных з шырокімі масамі рабочых, калі непасрэдна апаработнікі праявяць больш актыўнасьці і яшчэ больш арганізацыйных здольнасьцяй для правільнай і сваечасовай арганізацыі парт. асьветы, больш актыўнасьці ў падрыхтоўцы як новых сіл, так і існуючых пропагандыстых.

---

М. Гольман

# О реформистских блужданиях в марксистской теории

При факультете хозяйства и права существуют высшие экономические курсы. Естественно, что одним из *основных* предметов на этих курсах является политическая экономия, которая и преподается здесь известным научным работником БГУ доцентом Г. в обще-распространенной форме популярных лекций. Последние тщательно застенографированы и заботливо размножены в достаточном количестве экземпляров для индивидуального пользования слушателей.

Мы не ставим себе задачей подвергать критической оценке систему построения названного курса лекций, его общий об'ем и содержание, а тем более его внешнее оформление. Само собой разумеется, что к издаваемой на правах рукописи поверхностно отредактированной стенограмме лекций марксистская критика не может пред'явить тех строгих требований, которые принято считать *обычными* для периодических или непериодических печатных изданий. Но и в подобном случае существует известный минимум оказываемого в той или иной мере снисхождения. Спускаться ниже этого минимума в нашей критике вышеупомянутых записок можно лишь с риском быть заподозренным в умышленном сокрытии от читателя или слушателя имеющейся в этих записках *клеветы на Маркса*, беззастенчивой по своей форме и примитивной—оппортунистической по содержанию.

На странице 382 названных записок находим следующие строки:

> „Становясь на нашу точку зрения, *на марксистскую*, мы должны указать, что заработная плата имеет известные *пределы*. Эти пределы определяются классовой борьбой и *определяются производительностью труда*. При чем мы должны указать, как общее правило, которое в настоящее время нигде явлениями жизни не было опровергнуто: с повышением производительности труда повышается заработная плата, но заработная плата повышается в гораздо меньшей мере, чем производительность труда“. *(Курсив мой. М. Г.)*

Чтобы исчезли всякие колебания по поводу того, нет ли здесь описки или вырванной из общего контекста случайной фразы, заранее предваряем читателя, что вся 382 и последующие страницы посвящены тщательному разбору вышеприведенной формулировки—о пределах колебаний заработной платы при капитализме.

Если допустить, что сам лектор был *искренне убежден* в своей солидарности в этом вопросе с Марксом, то тогда неминуемо было-бы заподозрить, по всей справедливости, не только нашего лектора, но и самого Маркса, на авторитет которого сослался лектор, в *недвусмысленной апологетике*, т.-е. в идеологическом оправдании капиталистической эксплоатации.

Приведенное утверждение из стенограммы лекций может основываться на том, на первый взгляд на самоочевидном факте, что с ростом капиталистической техники возрастает и заработная плата пролетариата. Как с логической, так и с методологической стороны легче всего вскрыть всю примитивную фальшь этого мнимомарксистского взгляда на колебания заработной платы, если попытаться обратиться к такому надежному перво-источнику, как Маркс, именем которого без всяких предварительных ссылок и цитат так предусмотрительно „окрестил" свои утверждения наш уважаемый лектор.

Рассматривая в 23 главе первого тома „Капитала" то влияние, которое оказывает технический прогресс или увеличение органического строения капитала (т. е. рост производительной силы труда) на судьбу рабочего класса, Маркс чрезвычайно популярно и неоднократно, как бы имея в виду интересы особо понятливой и рассеянной категории читателей, раз'ясняет основной вывод из сформулированного им закона относительного перенаселения: [1])

> „Чем больше общественное богатство, функционирующий капитал, размеры и энергия его возрастания, а следовательно чем больше абсолютная величина пролетариата и производительная сила его труда, тем больше промышленная резервная армия... Чем выше производительная сила труда, тем больше давление рабочих на средства и занятия, следовательно тем необеспеченнее—необходимое условие их существования,—продажа собственной рабочей силы для увеличения чужого богатства и для самовозрастания капитала".

В той же 23 главе приводятся примеры из промышленной истории Англии, которые полностью подтверждают, что: [2])

> „Чем больше возрастает производительная сила их труда, тем более ненадежной становится для них даже их функция, как средство самовозрастания капитала".

Мы вынуждены были так пространно цитировать Маркса для того, чтобы показать читателю, почему Маркс приводит нас к неопровержимому заключению о возрастании при капиталистическом применении машин эксплоатации пролетариата и, как общее правило, о понижении его жизненного уровня.

Как известно, „стоимость рабочей силы определяется у нас рабочим временем, необходимым для существования не только отдельного взрослого рабочего, но и его семьи". (Капитал том I, стр. 359, изд. 1909 г.) При чем, размеры средств существования рабочего зависят от его исторически сложившегося культурного уровня и жизненных потребностей: „Итак в противоположность другим товарам—определение стоимости рабочей силы включает в себя исторический и моральный элемент" („Капитал", т. I, 135 стр.). С самого начала введения машин мужской труд вытеснялся и заменялся женским и детским трудом, что приводило к увеличению резервной армии пролетариата, пополняемой разоряющимися мелкими товаро-производителями, что, в свою очередь, вызывало понижение стоимости рабочей силы и увеличение нормы эксплоатации:

---

[1]) „Капитал", том I, стр. 608, изд. 1909 г.
[2]) Там-же, стр. 603.

„Выбрасывая всех членов рабочей семьи на рынок труда, машины распределяют стоимость рабочей силы мужчины между всеми членами его семьи. *Поэтому они понижают стоимость его рабочей силы...* Таким образом, машины вместе с человеческим материалом эксплоатации, этой настоящей ареной капитала, с самого начала увеличивают и степень эксплоатации (Капитал том I, гл. 13, стр. 359, изд. 1909 г.). (*Курсив мой. М. Г.*).

С самого начала капиталистического применения машин, увеличение эксплоатации пролетариата посредством удлинения рабочего дня и снижения стоимости рабочей силы имело повсеместный характер не только в Англии, но и во всей Западной Европе:

„Отсюда тот экономический парадокс, что самое мощное средство для сокращения рабочего времени превращается в надежнейшее средство для того, чтобы все время в жизни рабочего и его семьи обратить в рабочее время, предоставляемые капиталу для увеличения его стоимости" (Там-же стр. 372).

Т. к. заработная плата есть превращенная форма стоимости рабочей силы, то, поэтому, снижение стоимости рабочей силы вследствие применения машин означает вместе с тем *сокращение заработной платы*:

„Чем больше возрастает производительный капитал, тем больше расширяется разделение труда и применение машины, тем больше увеличивается конкуренция между рабочими, тем *больше сокращается* их зарплата" (Маркс „Наемный труд и капитал" стр. 66). (*Курсив мой. М. Г.*)

Читатель видит по ходу мысли Маркса, что на самом деле существует *обратная*, а *не прямая*, как полагает наш лектор, зависимость между ростом производительности труда и колебаниями заработной платы. Поэтому мы возвращаемся к поставленному в начале статьи вопросу: если наш уважаемый лектор искренне предполагал, что его точка зрения по вопросу о зарплате *совпадает с* воззрениями Маркса, то не в праве ли мы признать такого рода точку зрения апологетикой капиталистической эксплоатации?.. Если-же наш лектор ***не знал*** о вышеприведенных взглядах Маркса, известных всякому его *ортодоксальному* последователю, то как надо было-бы квалифицировать желание лектора выдать свои *противоречащие марксизму взгляды*, за *подлинно марксистские?* Не иначе—как убогой мистификацией, вероятно совершенно неуловленной кем-либо из аудитории. Если-же лектор *знал* о *действительных* взглядах Маркса на этот важнейший вопрос, тогда он совершил *ревизионистское шарлатанство* в марксистской теории, да еще под прикрытием социалистической фразеологии.

Спора нет, быть может у лектора были самые чистые побуждения „углубить" Маркса, проявить хоть где-либо *оригинальность* в интерпретации учения Маркса. Но в том-то и дело, что в интересующем нас случае многоуважаемому лектору *совсем не повезло*: в вопросе о заработной плате он не только *оказался не прав*, но и не блещет *оригинальностью. С ученической пунктуальностью наш лектор преподнес* советской аудитории, желающей учиться *подлинному* марксизму, *либерально-вульгарные взгляды известного фальсификатора марксист-*

*ской теории господина Туган-Барановского,* формулировки которого *для документального сличения* мы и приводим полностью:

„С точки зрения социальной теории распределения [1]) высота зарплаты в данном обществе определяется двумя факторами-*производительностью общественного* труда, определяющей, как велик общественный продукт, подлежащий разделу между общественными классами, и *социальной силой рабочего класса,* от которой зависит доля общественного продукта, поступающего в распоряжение рабочего [2]). *(Курсив мой М. Г.).*

А вот еще более точное определение:

„*Поднятие* техники производства обычно *повышает* реальную зарплату, но не в таком размере, как повысилась производительность труда“ [3]). (*Курсив мой. М.* Г.).

Читателю не трудно обнаружить трогательное сходство взглядов Тугана и нашего лектора, а в отдельных формулировках прямо-таки умилительное совпадение целых фраз. Мы, пожалуй, ничего не имели бы против, если наш лектор *открыто* считал бы себя и „твердокаменным“ последователем господина Туган-Барановского. Но тогда ведь нужно было-бы лошадь называть лошадью, а свинью—свиньей, а не столь старательно заниматься хлебосольным угощением советской аудитории *либерально-эклектической похлебкой.*

За неимением места мы не можем подробно останавливаться на критической оценке социологических основ политической экономии Туган-Барановского [4]).

Не мешает все-же и слушателям нашего уважаемого лектора справиться у Ленина насчет тугановской экономической науки:

„Читатель спросит, пожалуй в недоумении и как могло быть, чтобы ученый либеральный профессор позабыл *эти азбучные истины,* известные всякому из любого изложения взглядов социализма. Ответ простой: *личные* особенности современных профессоров таковы, что среди них можно встретить даже редкостно *тупых* людей вроде Тугана [5]).

А. Бухарин следующим образом охарактеризовал тугановскую теорию ценности:

„Если здесь есть какая-нибудь логика, то исключительно лишь логика *теоретического жульничества,* которая не брезгает ничем, если нужно оправдать его величество Капитал“ [6]).

Теперь мы предоставляем возможность самому читателю судить о том, *почему* царский либеральный профессор и его запоздавший эпигон ставят рост заработной платы *в прямую* зависимость от роста производительности труда на капиталистических предприятиях.

---

[1]) Эта теория рассматривает распределение независимо от закона стоимости, а в тесной связи с соотношением классовых сил;

[2]) *Туган-Барановский.* „Соц. теория распределения“, 1913, стр. 48.

[3]) Там-же стр. 52.

[4]) См.: 1) Бухарин „Полит. Экономия рантье“; 2) М. Гольман. Туган-Барановщина—1926. Стр. 403.

[5]) Ленин т. XII, ч. 2.

[6]) „Империализм и накопление капитала“. Стр. 75. (Курсив мой. М. Г.)

Что касается утверждения Тугана и его современного ученика—нашего лектора—*о втором факторе* колебаний зарплаты-социальной мощи классовых организаций пролетариата, то в данном случае, действительно, можно было бы опереться на следующий бесспорный исторический факт. Зарплата пролетариата Западной Европы и в особенности Америки, начиная, примерно, со второй половины XIX века в результате *классовой борьбы*, все время повышалась, *несмотря* на беспрерывный рост капиталистической техники, развитие которой, как было показано выше, *снижает* стоимость рабочей силы, увеличивая резервную армию. Но суть дела в том, что *действительная* роль профсоюзов как раз сводится к активному и планомерному воздействию на *спрос и предложение* рабочей силы,—путем бойкотов, стачки и т. д.

А спрос и предложение, как известно, лишь *реализуют* отклонение рыночных цен *от стоимости* рабочей силы. Так, напр., в силу исторически-сложившихся условий (огромные пространства незанятых земель, облегчающих превращение рабочего в фермера, отсутствие феодальных пережитков и др.) предложение рабочей силы в С.-А. С.Ш. было очень незначительным, а спрос неравномерно возрастал, поэтому и зарплата в Северной Америке стояла на много выше стоимости рабочей силы, в то время как в колониях *с их аграрным перенаселением* на много ниже, на что в свое время обратил внимание Маркс (См. „Капитал", т. I, изд. 1920, стр. 794-997; „Цена, зар. плата и прибыль"; „Письма", 1922 г., стр. 10. Таким образом, и здесь действует закон трудовой стоимости—в этом вся суть проблемы колебаний *зарплаты вокруг стоимости* рабочей силы. Очень ясно представлена эта сторона дела у Маркса:

> „Когда рабочие открывают тайну того, каким образом могло случиться, что чем больше они работают, чем больше производят чужого богатства и чем больше возрастает производительная сила их труда, тем более ненадежной становится для них даже их функция, как средство самовозрастания капитала, когда они открывают, что степень интенсивности конкуренции между ними самими зависит всецело от давления относительного перенаселения; когда они в виду этого посредством *тред-юнионов* организуют *планомерное воздействие между занятыми и незанятыми*, чтобы уничтожить или смягчить разрушительное для их класса следствие этого закона капиталистического производства и т. д.".
>
> (Капитал т. I, стр. 601, изд. 1909 г. Курсив мой. М. Г.)

Мы предпочли и здесь привести большую цитату из Маркса, дабы показать читателю, что, *во-первых*, в основе заработной платы лежит закон стоимости товаро-рабочей силы; *во-вторых*, колебания заработной платы вокруг стоимости рабочей силы определяются *теми же* условиями, что и колебания рыночных цен вокруг рыночных стоимостей всяких *других* товаров, т.-е. спросом и предложением, на которые планомерно воздействуют в *данном* случае профсоюзы и союзы предпринимателей (путем стачек, локаутов и др.); *в-третьих*, в основе *широких* колебаний заработной платы лежит сокращение и увеличение промышленной резервной армии. „Следовательно относительное перенаселение есть тот фонд, на котором движется закон спроса и предложения труда" (Капитал т. I, стр. 602).

Итак, социальная сила пролетариата и капиталистов оказывает влияние *на повышение* или *понижение* заработной платы, но *лишь* в смысле организованного воздействия на *слепые* законы капиталистического производства.

*Ограниченность* профсоюзных методов борьбы за повышение заработной платы *на базисе* капитализма тем и об'ясняется, что как бы ни было велико планомерное воздействие эксплоатируемого пролетариата на стихийные законы капитализма, *без уничтожения последнего* не возможно *ни* повысить долю рабочего класса в национальном доходе *ни* удержать на *долгое* время достигнутый уровень заработной платы. Вот почему капиталистам в период кризисов, *несмотря* на необычайное возрастание производительности труда *всегда* удается снизить заработную плату основных масс пролетариата. В настоящее время, при проведении в Германии и Франции технической и организационной рационализации, на *много* увеличивающей промышленно-резервную армию с одновременным *повышением производительности труда*, капиталистам все же *удалось* значительно *снизить* заработную плату занятых на производстве рабочих. Социал-демократы всех толков и направлений еще *до* начала рационализации *на весь мир трубили о* том, что *только* поднятие производительности труда вызовет *естественное* повышение заработной платы. А на самом деле вышло наоборот.

Стало быть, рассматривая колебания заработной платы, как *частный* случай колебания рыночных цен товара вокруг его стоимости, в зависимости от спроса и предложения (на фоне относительного перенаселения) подвергаемых воздействию рабочего класса, не так уж трудно понять всю диалектику движения этих *общих* закономерностей колебаний зарплаты в *конкретных* условиях разных эпох капитализма. На *заре* капитализма *технический переворот в промышленности сопровождался колоссальным ростом резервной армии*, пополняемой *вытесняемыми* машиной рабочими, а поэтому снижался *жизненный* уровень пролетариата *и сокращалась его заработная плата*. В период *расцвета* капитализма, когда возникли и сложились первичные формы классовых организаций пролетариата (после 48 года), спрос и предложение рабочей силы подвергается планомерному воздействию рабочего класса, а величина резервной армии то увеличивается, то уменьшается под влиянием *расширения размеров капиталистического* производства, неизбежно сопровождающего *падение нормы прибыли* вследствие беспрерывно совершающихся технических переворотов и повышения органического строения капитала. На закате капитализма технический прогресс уже *не может* сопровождаться стремительным расширением производства, вследствие монополистического раздела всех рынков, а потому *единственный* путь удержания нормы прибыли от падения—*путь снижения жизненного уровня пролетариата*, увеличения нормы эксплоатации, *уменьшения заработной платы*. Таким образом, как при рождении, так и при умирании капитализма, технический прогресс сопровождается *сокращением заработной платы*, но с той разницей, что в первом случае, при перспективе *подымающегося* капитализма, даже при *росте техники с беспрерывно* расширяющимися размерами производства и рынка классовые организации пролетариата *могли* еще посредством планомерного воздействия на закон спроса и предложения рабочей силы, *заставить* капиталистов пойти на значительные уступки *без подрыва* самых основ капиталистического производства. Теперь же, в рамках *загнивающего* капитализма и монопольно-застойного развития производства, *даже удержание* достигнутого после упорной многолетней борьбы уровня не может быть обеспечено, как показал опыт английской стачки, *без постановки* на очередь *насильственного уничтожения* всей капиталистической системы.

В заключение, можно было бы проявить, пожалуй, известную долю снисхождения, *если-бы* в рассматриваемых нами записках не ока-

залось-бы на лицо и *других* „перлов“ оппортунистического творчества нашего уважаемого лектора. Так, например, на стр. 452 *невозмутимо* повествуется *о смягчении кризисов* и о переходе их в *депрессию* в период монополий, благодаря планированию картелей и трестов. При чем лектор предусмотрительно ссылается на такого рода „авторитет“ в этом вопросе, как Гильфердинг. Спора нет, открытие важное. Но почему-бы в порядке научной добросовестности не проверить. Оправдалось ли это открытие на деле?

Не задавался ли, напр., почтенный лектор небесполезным вопросом о том, почему, именно, кризис 1900 г. с *необычайной силой* разразился в Германии, где картели к этому времени достигли своего *могущественного* развития, а грандиозный кризис 1907 г. свирепствовал как-раз в стране, где господство трестов было классическим. Обще-известно, что диспропорциональность между монополизированными отраслями промышленности в одной и в разных странах, между промышленностью и сельским хозяйством, между производством в целом и потреблением—достигает *при империализме* своего *наивысшего* напряжения. Поэтому „устранение кризисов, есть сказка буржуазных экономистов, оправдывающих капитализм во что бы то ни стало“ (Ленин, том ч. XIV, 2, стр. 352).

Об‘ективный смысл утверждения нашего лектора о смягчении кризисов и превращении их в депрессию не вызывает сомнения: он, лектор, хотел-бы „пригладить, причесать“, *притупить обостряющиеся* в период монополии противоречия капитализма, и этим самым показать изумленным слушателям, что империализм это *не загнивающий, не умирающий,* а, наоборот, *оживляющийся и исцеляющийся* от своих противоречий капитализм. На стр. 552 так прямо и говорится о том, что если-бы победила бы тенденция планирования при капитализме, то капиталистическое хозяйство *само по себе* перестало-бы быть таковым: „оно может быть было-бы плохим плановым, но во всяком случае капитализм с его законами *немедленно исчез бы*“. (Курсив мой. М. Г.). Лектору должно быть известно, что в Германии в военные годы существовал государственный капитализм. При чем руководство Народным Хозяйством осуществлялось специальным плановым органом, Военным Комитетом с соответствующими отделами и секциями (см. Артур Дикс „Народное Хозяйство в Германии в годы войны“ 1926). И вот это-то обстоятельство давало повод немецким социал-лакеям империализма протрубить на весь мир о том, что в Германии—де вводится государственный социализм, который, заметим кстати, вполне заслуженно был назван Лениным „военной каторгой для рабочих, военной охраной капиталистов“ (том XIV ч. I, стр. 207). Все же капитализм в Германии в военные годы *не исчез,* хотя „единый“ плановый орган беспрепятственно функционировал, распределяя присваиваемую прибавочную стоимость среди продолжавшего оставаться у власти *капиталистического класса.* Капитализм будет уничтожен не посредством *создания единого государственного треста,* а только лишь *путем пролетарской революции,* что несколько раз пытались сделать немецкие рабочие. Наш лектор мог-бы нам, пожалуй, возразить: такая, мол, неприятная „мелочь“, как революционное свержение буржуазии при государственном Капитализме—это, ведь, сущие пустяки и чистейший вздор, никакого отношения к социализму не имеющий; *главное,* чтобы был создан единый плановый орган, а тогда капитализм уж не заставит себя долго упрашивать и „немедленно“ исчезнет. А на самом то деле при таком „плановом“ капитализме *буржуазия оставалась бы у власти* и продолжала бы уже *не* путем *конкуренции,* а при помощи *плана*

распределить между членами своего класса произведенную пролетариатом прибавочную стоимость (в форме дивидендов, процентов и т. д.). Иначе говоря, капиталистическая эксплоатация продолжала-бы оставаться *определяющим признаком подобного „планового“ хозяйства*, которое именно по этой причине не потеряло бы своей капиталистической сущности. В действительности же „социализм есть ни что иное, как государственно-капиталистическая монополия, обращенная *на пользу народа* и постольку перестающая быть капиталистической монополией“ (Ленин том XIV, ч. 2, стр. 208), т.-е. государственный капитализм, хотя есть самая близкая ступень к социализму, но только *при свержении буржуазии*, при *диктатуре пролетариата* он может перестать быть государственным капитализмом.

На той же 552 стр. слушателям дано обещание попытаться сделать вывод, насколько те или другие законы капиталистического хозяйства „могут быть применены у нас в СССР. Далее высказывается сожаление о том, что теория советского хозяйства еще не создана, так как прошло очень мало времени: всего пять лет НЭП‘а, „в эти пять лет выясниться все тенденции не могли“ (552 стр.). Наш уважаемый лектор может, понятно, и не соглашаться с теми результатами теоретических изысканий, которые уже достигнуты по вопросам модификации закона стоимости, ценообразования и проч. Но он *обязан* был бы сообщить слушателям хотя бы ту *азбучную* истину, что в советском хозяйстве, как в переходном от капитализма к социализму, *стихийные законы товарного хозяйства подвергнуты плановому ограничению*, а наши планы, в свою очередь, *подвергаются некоторому воздействию* стихийных элементов мелкотоварного хозяйства. Проще говоря, лектору *нужно* было бы сказать, что план и рыночная стихия находятся у нас в состоянии непрерывной борьбы и взаимодействия, с ясно обозначившимся *за пять лет нэп‘а преобладанием плана над рынком*, а не наоборот, элементарным доказательством этого является бесспорный успех, достигнутый нами в политике регулирования товарных цен. Вместо всех этих элементарных фактов и их добросовестной оценки мы встречаемся в записках с жалко-двусмысленными намеками на то, что „за эти пять лет выясниться все тенденции еще не могли“.

Стоит ли продолжать дальше критический обзор стенографированных лекций по основным проблемам теоретической экономии? Мы полагаем, что не стоит. Приведенных материалов больше, чем достаточно для об‘ективного суждения о том, насколько *оппортунистическая фальсификация в марксистской теории* сложилась у нашего лектора, как *руководящий* метод преподавания теоретической экономии, а также и о том, что пропаганде с советской кафедры в устной и письменной форме такого рода Туган-реформистских взглядов давно уже пора положить конец.

Не мешало бы вместе с тем полюбопытствовать, *кто, где, когда* и *как* был „утружден“ непосредственной ответственностью за печатание и распространение подобного рода меньшевистской каррикатуры на марксизм?

М. Катушкін

# Ітогі партыйнай асьветы за 1927-28 нав. год.

## I. Падрыхтоўчая работа

На аснове дырэктыў ЦК УсеКП(б) ад 16 мая 1927 году і пастановы Бюро ЦК КП(б)Б ад 2 верасьня таго-ж году, аб палепшаньні якасьці партвучобы шляхам ужываньня больш рознастайных форм і камплектаваньня іх на началах дабрахвотнасьці, падрыхтоўка да вучобы праводзілася на лініі:

а) растлумачэньня гэтых дырэктыў шырокім партыйным масам;
б) выяўленьня запатрабаваньняў партыйцаў да форм вучобы;
в) падбору і падрыхтоўкі кіраўнікоў для намечаных форм учобы;
г) набыцьця неабходнай літаратуры і вырашэньня пытаньня аб сродках.

У парадку падрыхтоўкі, пытаньня арганізацыі і камплектаваньня сеткі партасьветы разьбіраліся на Бюро акруговых Камітэтаў, а ў некаторых і на пленумах, на АПА, нарадах пры ЦК і пры акругкомах, на нарадах сакратароў райкомаў, на пленумах і на агульных сходах райкомаў і на сходах парт'ячэек.

Але, ня гледзячы на ўсё гэта, падрыхтоўчая праца не папярэдзіла наступных недахопаў: а) тлумачэньне на мясцох па свойму дырэктыў ЦК, скажэньне іх у адносінах дабрахвотнасьці вучобы, б) у час падрыхтоўкі недастаткова растлумачаны шырокай партыйнай масе і недастаткова папулярызаваны ўсе формы вучобы, в) недастаткова былі вывучаны запатрабаваньні партыйцаў і ступень іх агульнага—і палітычнага разьвіцьця, у выніку чаго пры камплектаваньні ў шмат выпадках назіралася мэханічнае залічэньне партыйцаў у школы і гурткі, г) спазьненьне зацьверджаньня сьметы на партасьвету затрымала разгортваньне сеткі і не дало магчымасьці сваечасова набыць падручнікі, д) нарэшце несваечасовы выпуск падручнікаў на беларускай мове.

Усе гэтыя недахопы падрыхтоўчай працы адбіліся як на арганізацыі і камплектаваньні сеткі партасьветы, так і на яе працы на працягу ўсяго навучальнага пэрыяду.

## II. Арганізацыя і камплектаваньне сеткі партасьветы

У выніку падрыхтоўчай працы, сетка партасьветы была складзена з наступных форм: у горадзе—1) скарочаныя і нармальныя школы палітграматы, 2) вячэрнія савпартшколы, вячэрні Камвуз (у Менску) і нядзельныя Камунівэрсытэты—(у Менску, Барысаве і Гомелі), 3) гурткі палітграматы і марксыцка-ленінскія прадметныя ды гурткі бягучай палітыкі, 4) самаадукацыя (гурткі і індывідуалы) і 5) завочныя совпартшколы і камунівэрсытэты.

У вёсцы: 1) стацыянарныя і рухомыя школы палітграматы, 2) прымітыўныя вячэрнія савпартшколы ў некаторых буйных райасяродках (з 2-ма прадметамі—гісторыя партыі і палітэканомія), 3) гурткі: палітграматы, марксыцка-ленінскія і бягучай палітыкі, 4) самаадукацыя (гурткі-індывідуалы) і 5) завочныя савпартшколы і камунівэрсытэты.

Усёй гэтай сеткай партасьветы, ня лічачы адсеяўшыхся за пэрыяд навучаньня, ахоплена 14617 членаў і кандыдатаў КП(б)Б, што складае 49,6% КП(б)Б. На 1/I—28 г. 4524 камсамольцаў і 4024 беспартыйных.

Акрамя таго членаў і кандыдатаў КПБ у бягучым годзе было ахоплена:

| | |
|---|---|
| Камунівэрсытэтам Беларусі і Совпартшколамі . . . | 583 |
| ВНУ, рабфакамі і тэхнікумамі . . . . . . | 1279 |
| Вячэрнімі школамі дарослых павыш. тыпу . . . . | 600 |
| Вячэрнім і нядзельным рабочым унівэрсытэтам . . . | 50 |
| Вячэрнімі школамі рабочай і сялянскай моладзі . . . | 49 |
| Юрыдычнымі курсамі і курсамі грамадазнаўства . . . | 57 |
| Профтэхшколамі і фабзавучамі . . . . . | 52 |
| Доўгатэрміновымі праф. курсамі . . . . . | 26 |
| На розных кароткатэрміновых курсах спэцыялізацыі. : . | 117 |
| А ўсяго ахоплена членаў і кандыдатаў КП(б)Б не партсеткай. | 2813 |

А разам з сеткай партасьветы навучалася 17430 чал., што складае 59,1% КП(б)Б на 1/I—28 г.

## Аналіз сеткі партасьветы

Агульны абхоп школьна-гуртковай сеткай членаў і кандыдатаў КПБ камсамольцаў і беспартыйных, у параўнаньні з мінулым годам:

| | Колькасьць школ і гурткоў | | Колькасьць слухачоў. | | У тым ліку камуністых | | Камсамольцаў | | Беспартыйных | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. |
| У горадзе . | 317 | 259 | 7798 | 7400 | 5736 | 5550 | 1036 | 922 | 1026 | 928 |
| %% . | — | — | 100 | 100 | 73,6 | 75,0 | 13,3 | 12,5 | 13,1 | 12,5 |
| У вёсцы . . | 1240 | 498 | 1472 | 8094 | 5193 | 4008 | 4112 | 2202 | 2167 | 1884 |
| %% . | — | — | 100 | 100 | 45,3 | 49,6 | 35,8 | 27,2 | 18.9 | 23,2 |
| Разам . | 1557 | 757 | 19270 | 15494 | 10929 | 9558 | 5148 | 3124 | 3193 | 2812 |
| %% . | — | — | 100 | 100 | 56,7 | 61,7 | 26.7 | 20,2 | 16,6 | 18,1 |

| | Абхоп жанчын | | | | Склад слухачоў па роду заняткаў | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Усіх | | У тым ліку бес-парт. | | Рабочых | | Батрак. і с-г. раб. | | Сялян зап. у сваёй і кал. гасп. | | Усіх іншых. | |
| | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. |
| У горадзе . . . | 1501 | 1393 | 267 | 282 | 4380 | 4873 | 121 | 7 | 120 | 16 | 3177 | 2504 |
| %% . . . . | *) 19,2 | *) 18,8 | *) 17.7 | *) 20,2 | 56.2 | 65,9 | 1,6 | 0,1 | 1,5 | 0,2 | 40,7 | 33,8 |
| У вёсцы . . . | 1750 | 1221 | 457 | 457 | 1471 | 1624 | 758 | 534 | 5699 | 2333 | 3544 | 3603 |
| %% . . . . | **) 15,2 | **) 15,1 | **) 26,1 | **) 37,4 | 12,8 | 20,0 | 6,6 | 6,6 | 49.7 | 28,9 | 30,9 | 44,5 |
| Разам . . | 3251 | 2614 | 724 | 739 | 5851 | 6497 | 879 | 541 | 5819 | 2349 | 6721 | 6107 |
| %% . . | 16,8 | 16,8 | 22,2 | 22.7 | 30,4 | 41,9 | 4,5 | 3,5 | 30,2 | 15,2 | 34,9 | 39,4 |

Асноўны вывад, які выцякае з прыведзеных лічбаў, гэта тое, што рабочыя як у горадзе, так і ў вёсцы на справе даказалі непатрэбнасьць ніякай абавязковасьці ў партыйнай вучобе. Пры камплектаваньні школ і гурткоў на началах дабрахвотнасьці яны далі на 11,5% прырост у параўнаньні з мінулым годам, памяншэньні абхопу ў гэтым годзе, якое падае, галоўным чынам, на сялян, а па партыйнасьці на камсамольцаў, адбілася з прычы скарачэньня рухомых школ палітграматы, якія у мінулым годзе ахаплялі асноўную масу ўсіх вучняў у вясковай сетцы. Гурткі-ж, якія ствараліся з мэтаю замяніць рухомыя школы, не маглі прыцягнуць да сабе ўвагі партыцаў і асабліва камсамольцаў і беспартыйнага актыву, а значная частка з арганізаваных гурткоў з прычыны адсутнасьці належнага кіраўніцтва развалілася і не ўвайшле ў распрацоўку. Другім выцякаючым з прыведзеных лічбаў вывадам зьяўляецца нікуды ня вартае абслугоўваньне сеткай партасьветы сельска-гаспадарчага пралетарыяту. Вялікае памяншэньне ахопу сеткай партасьветы батракоў і сель.-гасп. рабочых нельга разглядаць інакш як нядбайныя адносіны да гэтай справы мясцовых партарганізацый.

**Задачы:** адмовіцца ад якога-б ня было прымусу да партвучобы. Камплектаваць усю сетку партасьветы на началах поўнай дабрахвотнасьці за выключэньнем статутнай школы палітграматы, прахаджэньне якой для кандыдатаў партыі, якія ня меюць адпаведных ведаў—абавязкова.

Не абмяжоўваць колькасьць беспартыйных рабочых батракоў у сетцы партасьветы, жадаючых у ёй вучыцца.

Заставіць і надалей як форму вучобы рухомую школу палітграматы для абслугоўваньня, галоўным чынам, вясковых камсамольцаў і адзіночак-партыйцаў, а таксама батракоў і бедняцка-серадняцкага вясковага актыву і павялічыць колькасьць стацыянарак на вёсцы.

*) Процант да гульнага ліку слухачоў.

**) Процант да агульнага ліку жанчын.

Шляхам уцягненьня ў сетку партасьветы і арганізацыі асобных гурткоў падняць ва што-б ні стала палітвыхаваўчую працу сярод батракоў і сель.-гасп. рабочых.

Склад слухачоў па нацыянальнасьці ў $^0/_{00}/_0$ у параўненьні з мінулым годам.

| | Усяго | Беларусоў | | Яўрэяў | | Усіх іншых | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. |
| У партшколах | | | | | | | |
| У горадзе . . | 100% | 41,7 | 50,0 | 39,0 | 37,0 | 19,2 | 12,3 |
| „ вёсцы . . | 100% | 70,0 | 65,4 | 18,4 | 21,4 | 11,6 | 13,2 |
| У гуртках | | | | | | | |
| У горадзе . . | 100% | 44,2 | 48 8 | 29,4 | 39,3 | 26,4 | 11.9 |
| „ вёсцы. . . | 100% | 73,4 | 76,8 | 14.6 | 15,7 | 12,0 | 7,5 |

Лічбы паказваюць, што ахоп беларусоў школьнай сеткай у горадзе ў параўнаньні з мінулым годам павялічыўся, ня гледзячы не агульнае скарачэньне яе, а процант яўрэяў і асабліва усіх іншых паменшыўся. У вёсцы-ж, наадварот, процант ахопу беларусоў паменшыўся, а яўрэяў і ўсіх іншых павялічыўся, што тлумачыцца скарачэньнем у гэтым годзе рухомых школ палітграматы і павялічэньнем стацыянарак, якія ў большасьці арганізоўваліся ў мястэчках.

Процант ахопу гурткамі беларусоў і асабліва яўрэяў у параўнаньні з мінулым годам павялічыўся за кошт усіх іншых нацыянальнасьцяй як у горадзе, так і ў вёсцы.

## Суадносіны ахопу партыйцаў ніжэйшымі, сярэднімі і вышэйшымі звеньнямі партасьветы ў параўнаньні з мінулым годам

| Зьвеньні партасьветы | 1926-27 г. | | 1927-28 г. | | Павялічэньне або памяншэньне |
|---|---|---|---|---|---|
| | Лік школ. гурт. | Невуч. у іх | Лік школ. гурт. | Невуч. у іх | |
| 1. НІЖЭЙШЫЯ (скароч., нармальн. рухомыя і стацыянарн. школы п/гр. ды гурткі па палітграм.) . . . | 944 | 10278 | 673 | 7509 | 2769 |
| 2. СЯРЭДНІЯ (марксыцк., ленінскія гурткі, гурткі бягуч. палітыкі і вячэрнія савпартшколы . . . . | 107 | 1609 | 144 | 2049 | +440 |
| 3. ВЫШЭЙШЫЯ (вячэрні і нядзельны Камунівэрсытэты) . . | 1 | 175 | 4 | 528 | +353 |
| 4. РОЗНЫЯ (гурткі, індывід. самаадукацыі) | 350 | 2773 | 553 | 4531 | +1758 |
| УСЯГО . . | 1402 | 14835 | 1374 | 14617 | —218 |

Як відаць з табліцы, мы маем у 1927-28 годзе, пры нязначным памяншэньні ахопу ўсёй сеткай (на 218 асоб), вялікае памяншэньне ахопу ніжэйшымі зьвеньнямі. Затое сярэднія зьвеньні і самаадукацыя даюць значны прырост. Памяншэньне ахопу ніжэйшымі зьвеньнямі у гэтым годзе тлумачыцца галоўным чынам тым, што, папершае, да апошняга году партасьвета была накіравана на ліквідацыю першапачатковай палітычнай няпісьменнасьці, у выніку чаго на бягучы навучальны год засталася нязначная частка партыйцаў, не маючых першапачатковай палітычнай падрыхтоўкі, ды кандыдаты, уступіўшыя за апошні год, у прыватнасьці Кастрычнікавы заклік. А падругое—што камплектаваньне сеткі партасьветы ў гэтым годзе, згодна дырэктыў ЦК, усё-ж у асноўным праводзілася на дабрахвотных началах, у выніку чаго на другі год у нізавых зьвеньнях засталося партыйцаў менш, чым у мінулым годзе.

Гэтыя дзьве ўмовы вызначалі сабою і пашырэньне абхопу сярэднімі і вышэйшымі зьвеньнямі, чаму таксама садзейнічала ўжываньне больш разнастойных форм партасьветы.

Што датычыцца некаторага абсалютнага памяншэньня абхопу партыйцаў сеткай партасьветы, пры значным росьце арганізацыі, дык гэта тлумачыцца з аднаго боку уходам значнай часткі партыйцаў у агульна-адукацыйныя школы і з другога—тым, што дабрахвотны прынцып камплектаваньня ўсё-ж ня мог не адбіцца на колькасьці абхопу, пры існуючым слабым кіраўніцтве разнастойнымі формамі вучобы.

Павялічэньне абхопу сярэднімі зьвеньнямі партасьветы ў горадзе ішло выключна за кошт вячэрніх савпартшкол і курсаў партактыву пры памяншэньні абхопу гурткамі; на вёсцы-ж з прычыны адсутнасьці савпартшкол за кошт гурткоў, што відаць з наступнай табліцы:

**Ахоплена партыйцаў бяз курсаў партактыву**

| | Школьнай сеткай | | | | Гурткамі | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1926-27 г. | | 1927-28 г. | | 1926-27 г. | | 1927-28 г. | |
| | | % да ахопу | | % да ахопу | | % да ахопу | | % да ахопу |
| У горадзе . . . | 5105 | 89,0 | 4844 | 90,8 | 631 | 11,0 | 491 | 9,2 |
| „ вёсцы . . . | 3400 | 65.4 | 1903 | 47.5 | 1793 | 34,6 | 2105 | 52,5 |
| Разам . . | 8505 | 100 | 6747 | 100 | 2424 | 100 | 2595 | 100% |

Гэтая-ж табліца гаворыць нам і аб тым, што ў горадзе недастаткова было ўдзелена ўвагі арганізацыі разнастойных гурткоў, у прыватнасьці арганізацыі тэматычных гурткоў па вывучэньню асобных праблем. А ў весцы большасьць гурткоў складаюць гурткі палітграматы, якія ўтвараліся толькі таму, што немагчыма было ахапіць гэтых партыйцаў школьнай формай з прычыны скарачэньня рухомых школ палітграматы. Стацыянарных-жа школ палітграматы, якія павінны былі замяніць рухомыя, было арганізавана недастаткова.

**Вывады.** Разьвіваць яшчэ больш разнастойныя формы партвучобы, у прыватнасьці тэматычныя гурткі і паляпшаць кіраўніцтва іх працай. Арганізаваць ува ўсіх акруговых і раён. гарадох і ў буйных райцэнтрах вячэрн. СПШколы, як цалкам апраўдаўшую форму партвучобы, у прыватн. нізавога партактыву.

## IV. Вучоба партактыву

Ужываньне больш разнастайных форм вучобы, арганізацыя марксыцка-ленінскіх гурткоў і гурткоў бягучай палітыкі, стварэньне вячэрніх савпартшкол у акруговых гарадох, вячэрняга Камунівэрсытэту ў Менску і нядзельных Камунівэрсытэтаў у Менску, Барысаве і Гомлі і арганізацыя завочнага навучаньня, далі магчымасьць уцягнуць у сыстэматычную вучобу значную частку партактыву. Прырост ахопу сярэднімі, і так званымі, вышэйшымі зьвеньнямі партасьветы ў параўнаньні з мінулым годам адбыўся пераважна за кошт уцягненьня ў вучобу нізавога, раённага і часткова акруговага партактыву. У справе падняцьця тэорэтычнага ўзроўню партактыву ў гарадох, значную дапамогу аказалі арганізаваныя ў гэтым годзе габінэты Агітпрапработы, ня гледзячы на яшчэ слабую, у агульным, іх работу.

Пры ўсіх гэтых дасягненьнях у галіне вучобы партактыву, задача па павышэньню дзелавой тэорытычнай падрыхтоўкі партактыву і асабліва кіруючага раённага і акруговага, застаецца яшчэ ня вырашаной. Галоўнымі прычынамі, якія затрымліваюць гэту работу зьяўляюцца:

1) Вялікая перагрузка штодзённай працай гэтай катэгорыі актыву. не даючых магчымасьці сыстэматычна вучыцца.

2) Адсутнасьць адпаведных кіраўнікоў на мясцох работы гэтага актыву ў саміх агітпропах.

3) Недахоп літаратуры наогул, а на мясцох ў асаблівасьці, па асобным галінам дзелавой тэорэтычнай падрыхтоўкі.

### Вывад:

Разгрузіць, на колькі магчыма, партактыў, і асабліва слабай тэорэтычна-падрыхтаваную частку яго. Падабраць, адпаведна падрыхтаваць і разгрузіць ад усіх іншых партыйных і грамадзкіх нагрузак кіраўнікоў вучобы парт актыву.

Вызначыць неабходныя сродкі для набыцьця габінэтамі АПА адпаведнай літаратуры для вучобы партактыву.

## V. Характарыстыка

складу кіраўнікоў школ і гурткоў, працаваўшых у 1927-28 годзе.

| | Колькасьць кіраўнікоў | Па партыйнасьці | | | | | Па адукацыі | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Члены парт. уступіўшыя | | Кандыдаты | Камсамольцы | Беспартыйныя | Агульнай | | | Палітычнай | | | |
| | | | | | | | Скончылі | | | | | | |
| | | Да 1920 г. | З 1921 і пазьн | | | | Ніж. | Сяр. | Выш. | Сама-ад. | СПШ 1 ст. | СПШ 2 ст. | Кам. ВНУ |
| У горадзе: | 367 | 161 | 160 | 41 | 2 | 3 | 210 | 140 | 17 | 200 | 30 | 85 | 52 |
| % да агульнага ліку | 100 | 43,8 | 43,7 | 11,2 | 0,5 | 0,8 | 57,2 | 38,3 | 4.5 | 54,5 | 82 | 23,2 | 14,1 |
| У вёсцы: | 431 | 98 | 274 | 52 | 4 | 3 | 328 | 98 | 5 | 241 | 90 | 71 | 29 |
| % да агульнага ліку | 100 | 22,4 | 63,6 | 12,6 | 0,8 | 0,6 | 76,4 | 22,4 | 1,2 | 56 | 20 | 15,5 | 7,9 |
| Разам | 798 | 259 | 434 | 93 | 6 | 6 | 538 | 238 | 22 | 441 | 120 | 156 | 81 |
| % да ітогу: . . . | 100 | 32,5 | 54,5 | 11,6 | 0,7 | 0,7 | 67,4 | 29,8 | 2,8 | 55,2 | 15,0 | 19.6 | 10,2 |

| | Маюць вопыт прапагандыцкай працы | | | | Па роду заняткаў | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Займаліся ў першыя | Займал. менш 1 г. | Ад 1 да 2-х год | 2 і больш гадоў | Рабочыя ў вытвор. | Зан. вык. проп. працай | Усе іншыя |
| У горадзе | 93 | 16 | 88 | 170 | 26 | 99 | 242 |
| % да агульнага ліку . | 25,3 | 4,4 | 23,9 | 46,4 | 7,2 | 26,9 | 65,9 |
| У вёсцы: | 192 | 67 | 94 | 78 | 14 | 87 | 330 |
| % да агульнага ліку . | 44,5 | 15,5 | 21,8 | 18,2 | 3,2 | 20,2 | 76,6 |
| Разам | 285 | 83 | 182 | 240 | 40 | 186 | 572 |
| % да ітогу . . . . | 35,7 | 10,4 | 22,8 | 31,1 | 5,1 | 23,3 | 71,6 |

Як вядома, у партасьветнай рабоце рашаючае значэньне мае якасьць прапагандыстых. Усе іншыя ўмовы могуць толькі дапаўняць сабою гэту асноўную ўмову ў тэй ці іншы бок. Прыведзеныя-ж лічбы ў агульным характэрызуюць склад нашых прапагандыстых: папершае —як малады па партыйнаму стажу і асабліва вясковай часткі; падругое—з нізкай агульнай і палітычнай марксыцка-ленінскай падрыхтоўкай, і зноў, асабліва вясковай часткі, і патрэцяе—вельмі вялікая колькасьць прапагандыстых ня мела ніякага вопыту парт. пэдагогічнай працы. Нарэшце, нельга задаволіцца і складам па роду заняткаў. З 798 улічаных прапагандыстых мы маем ўсяго толькі 40 рабочых з вытворчасьці, што складае 5,1%. Галоўнай прычынай, таго, што прапагандыцкі кадр застаецца ў большасьці нездавальняючым, зьяўляецца яго цякучасьць. Да палову прапагандыстых, якія кіравалі школамі і ґурткамі у 1926-27 г., сайшлі з гэтай працы, а вылучэньне і падрыхтоўка рабочых-прапагандыстых, ня гледзячы на трохгадовую працу ў ґэтым напрамку, пакуль што засталася яшчэ ня вырашанай задачай.

## Вывады:

Склад прапагандыстых напалову ня можа задаволіць узросшых запатрабаваньняў да партвучобы партыйнай масы без належнай падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі. Адгэтуль—нізкая якасьць вучобы ў значнай частцы школ і гурткоў, пацягнуўшая за сабою зьніжэньне зацікаўленасьці да вучобы партыйцаў, адбілася на наведваньні і ўцямляемасьці заняткаў і на адсеве. Задача—замацаваць на прапагандыцкай працы усіх апраўдаўшых сябе кіраўнікоў школ і гурткоў. „Арганізаваць для больш слабых з іх адпаведныя курсы перападрыхтоўкі і стварыць умовы даючыя ім магчымасьць папаўняць і паглыбляць свае веды. Рашуча павесьці работу па вылучэньню і падрыхтоўцы рабочых-прапагандыстых, ствараючы для іх спэцыяльныя курсы і гурткі“.

## VI. Праработка рашэньняў XV Зьезду УсеКП(б) і XI Зьезду КП(б)Б

Ва ўнутрывыхаваўчай рабоце КП(б)Б у 1927-28 г. значнае месца займала праработка рашэньняў XV зьезду УсеКП(б) і XI-га зьезду КП(б)Б. „Сваечасова праведзеная работа па растлумачэньню пастаноў XV зьезду УсеКП(б) забясьпечыла партыі ідэёвае Ленінскае згуртаваньне яе шэрагаў, поўны ідэёвы палітычны і арганізацыйны разгром апазыцыі“ (Рэзалюцыя Лютаўскага Пленуму ЦК КП(б)Б 1928 г.). Асабліва яна была шырока разгорнута ў першай палове навучальнага году пасьля агалашэньня тэзісаў аб пабудове пяці-гадовага пляну і аб рабоце на вёсцы. Але ўся партыйная маса была ахоплена толькі праработкай памянёных тэзісаў яшчэ да зьезду ды ітогавымі дакладамі пасьля зьезду на сходах партактыву і на агульных сходах ячэек і раённых арганізацый. Меншая ўжо частка арганізацыі, але больш стала прапрацоўвала гэтыя рашэньні ў сетцы партасьветы. Шляхам увязкі іх з праграмамі пытаньнямі і адводу ад 1 да 4 заняткаў спэцыяльна на вывучэньне рашэньняў зьездаў.

Значная частка партыйцаў вывучала рашэньні зьездаў у спэцыяльна арганізаваных для гэтай мэты гурткоў, але з прычыны надышоўшых кампаній большая частка гэтых гурткоў спыніла заняткі не абмеркаваўшы намечанай праграмы.

Такім чынам, ня гледзячы на разнастайныя формы праработкі рашэньняў зьездаў, значная частка партыйцаў усё-ж абмежавалася толькі прапрацоўкай асноўных, апублікаваных яшчэ да зьезду, тэзісаў, ды заслухоўваньнем і абгаварэньнем дакладаў аб ітогах зьездаў, што зьяўляецца недахопам.

## VII. Зьмест і якасьць партвучобы

Асноўным момантам, які вызначаў зьмест партвучобы ў бягучым годзе, акрамя праграм і адпаведных падручнікаў, зьяўляліся рашэньні XV зьезду УсеКП(б) і XI-га зьезду КП(б)Б.

Але фактычна, з прычыны слабасьці часткі кіраўнікоў, гэты зьмест здавальняюча адбіўся толькі ў частцы школьнай сеткі. Не атрымалі таксама належнага адлюстраваньня на мясцох і дырэктывы АПА ЦК УсеКП(б) і АПА ЦК КП(б)Б аб правядзеньні партвучобы у зьвязку з бягучымі палітычнымі кампаніямі і чарговымі задачамі ды мерапрыёмствамі партыі, а таксама, аб выхаваўчым характару ўсёй партвучобы. Праграмныя пытаньні разьбіраліся без увязкі з мясцовымі матар'яламі, з мясцовым жыцьцём і з чарговымі задачамі партыі наогул і свае арганізацыі (райкомы, ячэйкі) у прыватнасьці. Рашэньні XV-га зьезду УсеКП(б) і XI-га зьезду КП(б)Б хаця і ўвязваліся з праграмнымі пытаньнямі, і прапрацоўваліся асобнымі гурткамі, але ня з пункту гледжаньня правядзеньня іх у жыцьцё праз работу (наогул школы і гурткі палітграматы не зьяўляліся сапраўднай формай партыйнага выхаваньня).

Такі зьмест партвучобы ня мог здаволіць партыйцаў і камсамольцаў з прычыны чаго значная частка з іх праяўляла нявер'я ў магчымасьць навучыцца чаму-небудзь у школах і гуртках і імкнецца ў Камуністычныя навучальныя ўстановы. Гэты настрой выявіўся: 1) у адсеве, які па асобных школах і гутках дасягае 40% пры 19% агульнага адсеву. Пры чым сярод адсеяўшыхся, самае большае мейсца займаюць: камсамольцы (48,9% па школах і каля 70% па гуртках у горадзе і 23% па стацыянарках у вёсцы), што тлумачыцца ўжо ня

толькі нездавальняючай пастаноўкай заняткаў, але і адсутнасьцю ў значнай часткі камсамольцаў належнай дысцыпліны; 2) у наведваньні заняткаў, якое ў сярэднім каля 60%, а ў асобных выпадках даходзіла да 25%; 3) у пасыўнасьці большай часткі слухачоў на занятках і ў самастойнай прапрацоўцы матэрыялаў па заданьням кіраўнікоў.

Адгэтуль вывад: Па масаваму палітвыхаваньню партыйцаў і камсамольцаў маецца шэраг дасягненьняў як па лініі арганізацыі партвыхаваўчай работы, так і па паляпшэньню яе зьместу, але ўсё яшчэ зьмест і якасьць яе адстае ад узрослых запатрабаваньняў партыйных і камсамольскіх мас і ад стаячых перад партыяй задач.

Задачы: падняць якасьць і ідэёвы зьмест партвучобы. Зрабіць яе больш цікавай і каштоўнай для штодзённай практычнай дзейнасьці партыйцаў, зрабіць школу палітграматы сапраўднай формай бальшавіцкі-ленінскага выхаваньня новых кадраў партыйцаў і камсамольцаў.

## VIII. Кіраўніцтва партвучобай

Пытаньням партасьветы ў бягучым годзе дастаткова было ўдзелена ўвагі з боку ўсіх партарганізацый КП(б)Б. Усьлед за пастановай Бюро ЦК ад 2/IX-27 г. адпаведныя рашэньні былі вынесены ўсімі акругкомамі і на працягу навучальнага пэрыяду акруговыя камітэты яшчэ разглядалі пытаньні па 2-3 разы; Райкомамі таксама была праведзена вялікая работа па падрыхтоўцы, арганізацыі і камплектаваньню сеткі партасьветы.

Парт'ячэйкі, асабліва вясковыя, арганізоўвалі гурткі, вылучалі кіраўнікоў гурткоў, сачылі за вучобай сваіх членаў. Але ўсё гэта, бязумоўна, каштоўнае і неабходнае не магло даць належнага выніку пры адсутнасьці штодзённага жывога кіраўніцтва партасьветай, з боку парт'ячэек, райкому і непасрэдна партработнікаў... У горадзе праводзіліся сэмінары кіраўнікоў і канфэрэнцыі вучняў, даваліся мэтадраспрацоўкі, рабіліся абсьледаваньні і інструктаваньне. Школы і гурткі забясьпечваліся магчымымі сродкамі і літаратурай.

Усё гэта адбывалася ў тэй ці іншай меры ва ўсіх акругах, але нічога, або амаль нічога, гэтага ня было ў вёсцы, дзе ў дадатак да гэтага надышоўшыя з другой паловы год кампаніі адцягнулі ад кіраўніцтва вучобай і райкомы і ячэйкі, дзякуючы чаму уся партыйнаасьветная работа на вёсцы праводзілася без усякага кіраўніцтва з боку партарганізацый.

Нарэшце, у кіраўніцтве партвучобай, роўна як і ў непасрэднай партасьветнай рабоце, нельга не адзначыць значную дапамогу прапгрупы ЦК УсеКП(б).

## IX. Дапасаваньне партвучобы да нацыянальных умоў

Нацыянальныя моманты ў партасьветнай рабоце адбіліся:

а) у выданьні на белмове, з адлюстраваньнем беларускіх момантаў, падручнікаў;

б) у пераводзе ўсёй нізавой сеткі партасьветы вёскі, за выключэньнем Гомельшчыны, на беларускую мову і часткова гурткоў, па гісторыі партыі і па палітэканоміі, па якім былі на беларускай мове падручнікі і значнай часткі скарочаных і нармальных школ палітграматы, у горадзе.

в) ва ўвядзеньні ў нізавой сетцы партасьветы ў горадзе і ў вёсцы Гомельшчыны беларусазнаўства, як прадмета.

г) у арганізацыі і 17 рухомых школ палітграматы для абслугоўваньня на роднай мове нацменшасьцяй (яўрэяў, палякаў, латышоў і літоўцаў).

Галоўнымі недахопамі ў адносіне дапасаваньня партасьветы да нацыянальных умоў зьяўляюцца:

1) Несваечасовы выпуск падручнікаў для партсеткі на беларускай мове (для гарадзкіх школ палітграматы выпушчаны у другой палове навучальнага году), што не дазволіла адразу перавесьці нізавую гарадзкую сетку на беларускую мову.

2) Адсутнасьць неабходнай колькасьці кіраўнікоў, ведаючых беларускую мову, асабліва ў горадзе.

3) Слабое ўкараненьне беларускай мовы ў гарадзкой сетцы.

4) Рухомыя школы палітграматы нац. меншасьцяй, зьяўляючыся вельмі карыснымі, як форма палітычнага выхаваньня камсамольцаў і беспартыйнага грамадзкага актыву, не абслугоўвалі партыйцаў ў абслугоўваемых раёнах з прычыны адсутнасьці адпаведнага кантынгенту.

**Вывад:**

Дабіцца ў што б ні стала сваечасовага забясьпячэньня сеткі партасьветы літаратурай на беларускай мове. Узяць рашучы курс на падбор прапагандыстых, ведаючых беларускую мову, і на абавязковае вывучэньне беларускай мовы існуючым кадрам прапагандыстых у горадзе перавесьці ўсю нізавую сетку партасьветы на беларускую мову, за выключэньнем гарадзкой сеткі Гомельшчыны, дзе беларускую мову ўвесьці, як прадмет.

Працягваючы і на далей работу рухомых школ, нацменаўскіх школ палітграматы з мэтаю палітычнага выхаваньня камсамольцаў і грамадзкага актыву з нацмешасьцяй, арганізаваць пры акругкомах курсы-канфэрэнцыі для партыйцаў з нацменшасьцяў з мэтаю бальшавіцка-ленінскага выхаваньня іх і падрыхтоўкі да кіраўнічай і выхаваўчай работы сярод адпаведных нацыянальнасьцяй.

---

А. Жук

# Пытаньні рацыяналізацыі ў прамысловасьці БССР.

XIV Партзьезд УсеКП(б) у рэзалюцыі па дакладу ЦКК—РСІ падкрэсьліў на неабходнасьць, побач з мерапрыемствамі эканамічнага рэгуляваньня, партыі і ўладзе зьвярнуць належную ўвагу на тэхнічную і арганізацыйную рацыяналізацыю нашага сацыялістычнага будаўніцтва, як забясьпечыць максымальна хуткае разьвіцьцё вытворчых сіл і пераход прамысловасьці і сельскай гаспадаркі на новую тэхнічную базу,—і далей, што практычныя рацыянізатарскія мерапрыемствы будуць мець большы посьпех тады, калі яны будуць праводзіцца ў жыцьцё самімі кіраўнікамі адпаведных частак дзяржаўнага апарату пры актыўным самадзейнічаньні з боку шырокіх рабочых колаў.

Праблема рацыяналізацыі мае асабліваe значэньне ў прамысловасьці, як галоўнейшым вучастку савецкага будаўніцтва і дзе яна можа і павінна даць найбольшыя вынікі.

Пленум ЦКК па пытаньні рацыяналізацыі ў прамысловасьці вынес наступную прапанову:

„Перад нашай краінай стаяць дзьве асноўныя задачы ў галіне рацыяналізацыі: а) дабіцца максымальна-магчымага выкарыстоўваньня існуючага абсталяваньня, шляхам правільнай арганізацыі вытворчасьці (машын, працы, тэрыторыі, транспарту, і г. д.); б) дабіцца таго, каб у выніку пабудовы новых заводаў і капітальнага пераабсталяваньня існуючых, мы атрымалі эфэктыўнасьць і адпаведны сабекошт па меншай меры набліжаючыйся да заходня-эўрапэйскіх і амэрыканскіх ўзораў.

Як-жа праводзіцца гэта важная дырэктыва органамі прамысловасьці ў БССР.

Матар'ялы выбарчага абсьледваньня НКРСІ па 4-м прадпрыёмствам, рэспубліканскай прамысловасьці—заводам: „Дзеравaапрацоўвачнік“ (мэблявая і лесапільная вытворчасьць), „Пралятары“ (дражджаная), „Чырвоны Мэталіст“ (с.-г. прылад і машын) фабрыцы „Чырв. Бярэзіна“ (сярніковая і фанерных вырабаў для крэслаў)—паказваюць, што ў гэтай галіне работа пастаўлена далёка не на належную вышыню.

Рацыяналізацыя праводзіцца аднабакова: галоўным чынам, у напрамку тэхнічнай рацыяналізацыі, шляхам пераабсталяваньня і мэханізацыі прадпрыёмстваў; у гэтым напрамку маюцца значныя дасягненьні. Па гэтаму шляху, улічваючы ролю прамысловасьці ў нашым сацыялістычным будаўніцтве, яе нязначную вагу ў гаспадарцы нашай краіны тэхнічны ўзровень, мы павінны будзем ісьці, але ён патрабуе вялікіх сродкаў, у якіх мы абмяжованы.

У напрамку-ж паляпшэньня арганізацыі вытворчасьці, г. з. максымальнага скарыстаньня абсталяваньня, матар'ялаў, рабочае сілы і г. д.

робіцца вельмі мала, з боку кіраўнікоў не наглядаецца належнай ініцыятывы. Сярод большасьці з іх існуе погляд, што рацыяналізацыю вытворчасьці можна правесьці толькі за лік рэканструкцыі існуючых і пабудовы новых прадпрыёмстваў, абсталяваных па апошняму слову тэхнікі. Гэты вузкі погляд паказвае, што ідэі рацыяналізацыі не папулярызаваны ня толькі сярод шырокіх рабочых колаў, але і сярод кіраўнікоў нашых гаспадарчых устаноў, што апошнія мала знаёмы з тымі практычнымі рацыяналізатарскімі дасягненьнямі, якія маюцца ў капіталістычных краёх, а таксама і на некаторых прадпрыёмствах у нашым саюзе.

У галіне тэхнічнай рацыяналізацыі на нядаўна абсьледваных прадпрыемствах можна адзначыць наступнае: а) па дражджаной вытворчасьці (зав. „Пралятары") уведзен загранічны мэтад выпрацоўкі, шляхам пераходу вырабу дрожджаў з простага (зёрнавога) на хлебапыточны і потым на мелясавы спосаб работы, дзеля чаго праведзена адпаведнае пераабсталяваньне заводу; у выніку прадукцыя ўзрасла на 1,15%, і сабекошт чыстых дрожджай за кілёграм з 49,24 кап. у 25-26 г. зьнізіўся да 35,54 кап. (на 18%), за красавік м-ц гэтага году, калі завод цалком перайшоў на мелясавы выраб. Пры пераходзе на новы спосаб работы адпалі некаторыя працэсы, як саладжэньне збожжа, варка, драбленьне,—дзякуючы чаму значна пашыбчэў працэс вытворчасьці. Па зьніжэньню сабекошту завод „Пралятары" і другія дражджаныя заводы БССР, якія таксама пераходзяць на мелясавы спосаб ідуць у ліку першых па СССР.

б) Завод „Чырвоны Мэталіст". У выніку пераабсталяваньня (пабудован рад новых карпусоў, пашыран стары будынак, устаноўлен шэраг новых варстатаў і машын, праведзены вузкакалейкі і інш.), прапускная здольнасьць заводу павялічылася ў два разы: за 25|26 г. вытворчасьць складала 1.461.950 р., а па вытворчай праграме (пры зьніжаным сабекошту) на 27|28 г. намечана к вырабу на суму 3.001.200 р. Пры пабудове карпусоў і ўстаноўцы варстатаў бралася пад увагу рацыянальнае іх разьмеркаваньне з разьлікам нейменшага руху паўфабрыкату ў працэсе вытворчасьці.

З мерапрыемстваў у галіне палепшаньня арганізацыі вытворчасьці можна адзначыць наступныя моманты:

а) па зав. „Чырвоны Мэталіст" побач з капітальным пераабсталяваньнем праведзен рад рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў у галіне арганізацыі працы, менавіта:

*Ліцейны цэх.* Раней кваліфікаваныя ліцейшчыкі выконвалі ўсе стадыі работ цалкам; у сучасны момант ліцейшчыкі вытвараюць толькі фармоўку, а разьліўка чыгуна і выбарка мэталю з формаў вытвараецца малакваліфікаванай рабсілай; акрамя таго, і ў самай фармоўцы праведзена спэцыялізацыя працы, што дае магчымасьць у больш кароткі тэрмін падрыхтоўваць кваліфікаваных ліцейшчыкаў. Дзякуючы рацыянальнаму скарыстоўваньню рабочае сілы адліўка чыгунных частак павялічылася больш чым на 100%.

*Зборачны цэх.* Шляхам прыладу ручнога конвэйеру зборка веялак падзелена на 13 стадый і сабекошт зборкі на адзінку прадукцыі панізіўся на 60 кап. (з 1 р. 85 к. да 1 р. 25 к.). Праведзена раздрабленьне працы па стадыях, таксама і па зборцы малатарань і прывадоў, пры чым на зборку прывадоў замест кваліфікаванай рабсілы пастаўлены маладыя рабочыя з незакончыўшых курс брыгаднага вучнёўства, пад кіраўніцтвам і наглядам кваліфікаванага рабочага, дзякуючы чаму сабекошт зборкі прываду паменшыўся з 4 р. 50 к. да 1 р. 10 кап.

Амаль што ўсе паказаныя мерапрыемствы запазычаны з досьледаў работы іншых заводаў СССР.

Выраб адпаведных штампаў дазволіў стандартызаваць і нармалізаваць паасобныя часткі прылад і машын.

Адходы вытворчасьці (дробныя кавалкі жалеза) выкарыстоўваюцца для вырабу ключоў і нутэрак між тым, як раней, гэтыя рэчы купляліся і абыходзіліся ў 2-3 разы даражэй.

У выніках тэхнічнага пераабсталяваньня і лепшай арганізацыі працы, палепшылася якасьць і паменшыўся сабекошт:

| | За 1925/26 г. | За II кварт. 27/28 г. | % зьніжэньня |
|---|---|---|---|
| Малатарня па тыпу „Ланца" | 112—67 | 99 - 30 | 11,9 |
| Веялка | 69—69 | 57 - 41 | 17,6 |
| Прывад па тыпу „Бадзеня" | 124—59 | 105—87 | 15,0 |
| Плуг маркі 5—В | 9 - 57 | 7—81 | 18,4 |

б) зусім другі малюнак мы маем па заводу „Дзеравапрацоўвачнік“ і фабрыцы „Чырвоная Бярэзіна“, дзе на працягу апошніх гадоў не праводзілася значных пераабсталяваньняў, тут рацыяналізацыя зьвялася да адхіленьня дробных недалікаў вытворчасьці і істотных вынікаў не дала. На гэтых прадпрыемствах асабліва кідаецца ў вочы нерацыянальнае разьмяшчэньне варстатаў і машын, адсутнасьць пад'ёмнікау (завод „Дзеравапрацоўвачнік“) і інш. Мерапрыёмстваў каб зьнішчыць гэта не рабілася, часткова ад таго, што гэтыя мерапрыемствы патрабавалі некаторых выдаткаў, а галоўным чынам па прычыне. будучага пераводу вытворчасьці ў бліжэйшы час у новае памяшканьне.

З перашкоду правядзеньні рацыяналізацыі неабходна адзначыць наступнае:

Неадпаведнасьць у прапускной магчымасьці паасобных частак абсталяваньня паміж сабой: побач з навейшымі і ўдасканаленымі варстатамі, уладаючымі вялікай вытворчасьцю, работа праводзіцца на старых варстатах, часам адноўленых з закінутага хламу, сьледам чаго работа на адных станках праводзіцца ў адну зьмену, а на другіх у дзьве і нават ў тры зьмены; частка кваліфікаванай рабсілы выконвае часам і простую работу як-то: падноска і кладка матар'ялаў і інш., ці перакідываюцца з аднэй работы на другую; асабліва гэта нагляддаецца па заводах „Чырвоны Мэталіст“ і „Дзеравапрацоўвачнік“, на апошнім акрамя таго з-за разнастойнага асартымэнту вырабаў.

Цесната заводзкіх памяшканьняў і тэрыторыі і нягоднасьць памяшканьняў з пункту погляду аховы працы: частка старых памяшканьняў ня мае досыць сьвятла і паветра, і работа ў якіх амаль што ўсе суткі праводзіцца пры электрычным асьвятленьні;

На прадпрыёмствах атсутнічае ў дастатковай колькасьці патрэбны кадр тэхнічных сіл, у выніку чаго апошні апрача свае асноўнае работы па вытворчасьці займаецца звычайна іншымі абавязкамі, часам гэтакімі, якія могуць выконваць і менш кваліфікаваныя працаўнікі, так напрыклад: на заводзе „Чырвоны Мэталіст“ загадчык вытворчасьцю, інжэнэр, большую частку рабочага часу бывае заняты ня ў цэхах, а ў канцылярыі за складаньнем спэцыфікацыі і малюнкаў, ня ў курсе работы прадпрыёмства і ня мае магчымасьці адхіліць маючую няўвязку паміж работай паасобных цэхаў.

З прычыны адсутнасьці бракаўшчыкоў на заводзе „Дзеравaапр.“ часткі вырабу (мэблевая вытворчасьць) маючыя брак, ужо пры першай стадыі работы часта падпадаюць далейшым працэсам абработкі і ў выніку гатовыя вырабы даводзіцца перарабляць.

Цяпер як-жа фактычна маецца справа з кіраўніцтвам і дзейнасьцю з боку гаспадарчых установ і рабочых колаў у галіне рацыяналізацыі?

Папершае, трэба адзначыць, што завастрэньне ўвагі на рацыяналізацыю насіла толькі часовы кампанейскі характар; сыстэматычнай работы па ўкараненьню ў штодзеннае жыцьцё гэтага важнага прынцыпу ў наступны час няма. Кіраўніцтва з боку ВСНГБ у гэтай справе адсутнічае, у самых-жа трэстах рацыяналізацыя праводзіцца не па ініцыятыве кіраўніцтва трэстаў, паасобных работнікаў.

Спэцыяльных штатных работнікаў—рацыяналізатараў як у апараце прадпрыёмстваў, так і ў трэстах і ў ВСНГБ ня маецца, і акрамя таго сярод некаторых кіраўнікаў гаспадарчых арганізацый існуе погляд, што нам спэцыяльных рацыяналізатараў зусім не патрэбна, што гэтая работа павінна праводзіцца існуючым штатам інжэнэрна-тэхнічных сіл (г. з., што саматужная, бяссыстэмная работа, якой займаюцца быццам ўсе, а як сьлед ніхто, павінна застацца і на далей).

З боку некаторых трэстаў (Лясбел, Белзапалтрэст) маецца попыт да правядзеньня тых ці іншых рацыяналітарскіх мерапрыёмстваў на навуковай падставе, напрыклад, хранамэтраж, але-ж бяз усякай сыстэмы. Матар'ялы праведзенага хранамэтражу па заводу „Дзеравaапрацовачнік“ і ф-цы „Чырвоная Бярэзіна“ не скарыстаны ні адміністрацыяй прадпрыёмстваў, ні трэстамі. Вынікі хранамэтраваньня таксама не асьвятляюцца сярод рабочых з прычыны чаго яны і разважаюць, што хранамэтраваньне зьяўляецца дарэмнай выдумкай адміністрацыі. З-за адсутнічаньня адпаведных працаўнікоў хранамэтраваньне даручаецца звычайна прысылаемым на час стажу і практыкі студэнтам вузаў і тэхнікумаў.

Правядзеньне ў жыцьцё таго ці іншага рацыяналізатарскага праэкту не папярэджваецца падрабязным вывучэньнем і аналізам працэсаў вытворчасьці. Якой небудзь плянавасьці і пасьлядоўнасьці па вывучэньню працэсу вытворчасьці таксама ня маецца, атсутнічае правідловы навуковы падыход да прызначэньня нормаў выдаткаў сырцу, апалу, вытворчасьці варстатаў і нормаў вырабу.

Прызначэньне нормаў вырабу пры ўстанаўленьні расцэнак робіцца на вока, дзякуючы чаму маецца шэраг нездавальненьняў з боку рабочых і шмат канфліктных спраў у РКК і др. вышэйшых канфліктных установах.

Тарыфна-нарміровачныя бюро існуюць толькі на адзіночных прадпрыёмствах, пры чым апошнія камплектуюцца не дастаткова кваліфікаванымі працаўнікамі.

Вялізарную ролю ў правядзеньні рацыяналізатарскіх мерапрыёмстваў павінны мець вытворчыя камісіі і нарады. Роля апошніх у палепшаньні вытворчасьці ў апошні час наогул (за выключэньнем некаторых прадпрыёмстваў—зав. „Чырвоны Мэталіст“) палепшылася, гэта відаць хоць бы з таго, што з боку рабочых паступае шмат заяў з прапановамі па палепшаньню вытворчасьці.

З другога боку трэба ўсё-ж такі адзначыць, што вытворчыя камісіі і нарады да гэтага часу працуюць яшчэ часта бясплянава, прынятыя прапановы не правяраюцца, вучот дасягненьняў не падлічваецца і г. д.; з боку заўкомаў і саюзаў няма належнага кіраваньня ў гэтай найважнейшай прафэсыянальнай рабоце.

Наглядаюцца таксама выпадкі несваечасовага правядзеньня ў жыцьцё прынятых адміністрацыяй прапаноў, часта па фармальных прычынах (не атраманьне пратаколаў), што выклікае нездавальненьне рабочых, якія імкнуцца каб іх прынятыя прапановы праводзіліся безадкладна.

Арганізацыя абмену вопытам пастаўлена нездавальняюча; у камандыроўкі і экскурсіі для азнаямленьня з пастаноўкай работы на лепшых прадпрыёмствах СССР пасылаюцца толькі адміністрацыйна-тэхнічныя працаўнікі, а кваліфікаваныя рабочыя не; на нарадах і зьездах, склікаемых прафсаюзнымі і гаспадарчымі арганізацыямі, пытаньні рацыяналізацыі абгаварваюцца выпадкова, між іншым, і г. д.

Вельмі слаба праяўляюць сваю дзейнасьць камісіі па разгляду прапаноў па ўдасканаленьню і вынаходніцтву; на заводзе „Дзерава-апрацовачнік“ і ф-цы „Чырвоная Бярэзіна“, яны існуюць пакуль-што толькі на паперы; разгляд уносімых прапаноў на прадмет узнагароды зацягваецца на цэлыя м-цы. Бязумоўна, што такое становішча зьніжае ініцыятыву рабочых.

Пытаньні соцыялістычнай рацыяналізацыі не папулярызуюцца сярод рабочых у выніку чаго бываюць выпадкі пасыўнага супраціўленьня правядзеньню тых ці іншых рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў. Кружкавых заняткаў па вывучэньню вытворчасьці і падвышэньню кваліфікацыі рабочых не вядзецца, ня гледзячы на тое, што ў апошніх маецца вялікае жаданьне. Літаратура па рацыяналізацыі і наогул папулярная тэхнічная літаратура на прадпрыёмствах адсутнічае.

Урэшце падрыхтоўкі кадраў рацыяналізатараў амаль што зусім ня відаць, а без належнага кадру дасканала падрыхтаваных рацыяналізатараў праводзіць правільна і на навуковых падставах рацыяналізацыю немагчыма. Канцэнтрацыя навуковай думкі і пастаноўка дасьледчай работы ў галіне рацыяналізацыі прамысловасьці пачынае ажыцяўляцца Менскам—асацыяцыяй НОТ, якая арганізавала курсы па падрыхтоўцы кадраў рацыяналізатараў прамысловасьці. Але-ж гэтая работа належным чынам не разгорнута (навучаецца толькі 5-6 чалавек), ініцыятыва не падтрымана ВСНГБ і Наркамасьветы.

У мэтах зьнішчэньня паказаных недахопаў і правільнай і пасьпяховай работы па рацыяналізацыі, калегіяй РСІ вынесен шэраг прапаноў. Палічана мэтазгодным выдзеліць у апараце ВСНГБ, кіраўніцтва трэстаў і на найбольш буйных прадпрыёмствах спэцыяльных штатных работнікаў, якія маглі-б праводзіць сыстэматычную штодзённую рацыяналізатарскую работу ў прамысловасьці, аслабаніўшы іх ад ўсякай іншай работы.

Рацыяналізатары падпарадкуюцца непасрэдна кіраўнікам гаспадарчых устаноў і прадпрыёмстваў, якія павінны нясьці асноўную адказнасьць за пастаноўку рацыяналізатарскай работы. Рацыяналізатары на прадпрыёмствах павінны працаваць у поўным кантакце з вытворчымі камісіямі і нарадамі, сыстэматычна даваць справаздачу перад імі ў сваёй рабоце і праводзіць на выпадках неабходнасьці, тыя ці іншыя мерапрыёмствы з дапамогай часовых рабочых камісій.

Для большага ўцягненьня шырокіх рабочых колаў у работу па-рацыяналізацыі, ад актыўнасьці якіх залежыць пасьпяховасьць гэтай работы, прызнана мэтазгодным арганізаваць на буйных прадпрыёмствах гурткі рацыяналізацыі і па падвышэньню тэхнічных ведаў рабочых, прыцягнуўшы для кіраўніцтва гэтымі гурткамі інжэнэрна-тэхнічны пэрсанал; забясьпечыць прадпрыёмствы належнай літаратурай і г. д.

ВСНГБ прапанована ў хуткім часе распрацаваць неабходныя мерапрыёмствы і правясьці іх у жыцьцё.

**Пав. Шаліма**

# Эканамічнае становішча рабочай моладзі.

Рабочая кляса, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, за апошнія гады дасягнула вельмі значных пасьпехаў. Мы бачым, гэта асабліва прыкмячаецца зараз, што пры ўзросьце нашай дзяржаўнай прамысловасьці; пры павялічэньні вытворчасьці працы, барацьбы за рэжым эканоміі, палепшаньні асобных відаў і працэсаў работ у вытворчасьці палепшылі становішча рабочае клясы ў цэлым і ў прыватнасьці становішча рабочай моладзі. Узрасла заработная плата, палепшыліся матар'яльна-бытавыя ўмовы, узрастае паступова палітычны і культурны ўзровень асноўных кадраў рабочае моладзі.

Камсамол, як масавая палітычная арганізацыя рабочае моладзі, зьяўляецца выказьнікам волі яе абаронцам на справе штодзённых інтарэсаў шырокіх пластоў працоўнай моладзі і ў першую чаргу пралетарскай рабочай моладзі.

Камсамол на працягу апошняга часу працаваў на фронце гаспадарчага будаўніцтва пад лёзунгам: *„удзел у гаспадарчым будаўніцтве ёсьць стрыжань работы камсамолу"*.

ЛКСМБ зрабіў вельмі многа як у справе сапраўднага прыцягненьня мас рабочай моладзі да ўдзелу ў социялістычным будаўніцтве нашай гаспадаркі і прамысловасьці, так і па ахове эканамічных, матар'яльна-бытавых умоў маладых пралетарыяў. Аб гэтым сьведчыць цэлы шэраг жывых прыкладаў творчай штодзённай работы нашых вытворчых ячэек у шэрагу прадпрыемстваў.

Сучаснае эканамічнае становішча рабочае моладзі БССР можна азначыць *устойчывым становішчам рабочае моладзі ў вытворчасьці з палепшаньнем яе матар'яльна-бытавых умоў.* Наогул палепшылася пастаноўка ўсяе работы ў сэнсе штодзённага абсугоўваньня моладзі з боку прафсаюзных і камсамольскіх арганізацый, штодзённых запытаньняў моладзі, яе эканамічных і культурных запатрабаваньняў.

### 1. Броня падросткаў прамысловасьці

Нельга даць усіх падрабязных лічбаў і даных аб становішчы ўсяе рабочае моладзі да 23-х гадовага ўзросту, якая знаходзіцца як у дзяржаўнай, так і ўва ўсёй прамысловасьці, па недахопу матар'ялаў. Але і тыя лічбы якія будуць паказаны, могуць характарызаваць ступень уцягненьня моладзі ў вытворчасьць. Вырашаць пытаньні, зьвязаныя з эканамічным і матар'яльна-бытавым становішчам раб. мол. камсамолу прыходзілася пад абстрэлам апазыцыі, якая ў свой час абвінавачвала партыю і камсамол у здачы кастрычнікавых заваёў рабочае моладзі. Усім вядома, што гэтыя абвінавачваньні былі неабрунтаваныя, наскрозь ілжывыя. Бязумоўна, што рацыяналізацыя прамысловасьці ўнесла шэраг некаторых—часовых—затрудненьняў у галіне працы і адукацыі рабочае моладзі, паколькі яна патрабавала некаторага напружаньня сіл і часовых частковых ахвяр з боку некаторых груп рабочае клясы.

Затрудненьні ў галіне працы моладзі выклікаліся некаторай рэарганізацыяй юнацкае працы і прыцёкам рабочага маладняка ў вытворчасьць.

Мы правялі па прамысловасьці ВСНГ,—іх часовае паменшаньне нормы броні на 30% да выданьня аб броні падросткаў новага закону ва ўсесаюзным маштабе. І калі мы праводзілі гэта, дык агаварылі, што частку пераросшых падросткаў неабходна разбраніраваць перавёўшы іх у штаты адпаведных прадпрыёмстваў, а там, дзе процант броні будзе меншы згодна новых часова ўстаноўленых распараджэньняў, трэба будзе правесьці дабор яе. У выніку ўсяго гэтага і правядзеньня калектыўнае дагаварное кампаніі, мы маем наступнае становішча па прамысловасьці ВСНГ.

(Без пераросткаў) *)

| Д а т а. | Кольк. рабоч. | Кольк. падростк. | %% |
|---|---|---|---|
| На 1/IX —26 г. . . . | 15023 | 1045 | 6,9 |
| „ 1/XII —26 г. . . . | 15519 | 1215 | 7,6 |
| „ 1/IV —27 г. . . . | 16965 | 1206 | 7,1 |
| „ 1/VIII—27 г. . . . | 21199 | 1165 | 5,5 |
| „ 1/I —28 г. . . . | 23251 | 1388 | 6,0 |
| „ 1/IV —28 г. . . . | 25479 | 1369 | 5,3 |

У ліку броні падросткаў на 1/I—28 г. лічыцца 576 дзяўчат.

Агульная колькасьць броні падросткаў разам з пераросткамі лічыцца на 1-е кастрычніка 27 г. па ВСНГ—1964 чал., альбо 9% у адносінах да агульнага складу рабочых і служачых вытворчасьці. Пераросткаў у броні па прамысловасьці ВСНГ на 1/X—27 г. лічыцца—799 чал. ці 40,6% агульнага ліку броні падросткаў.

Па асобных галінах прамысловасьці броня падросткаў разьмяркоўваецца:

(Па лічбах ВСНГБ).

| Назва прамысл. | Д а т а. | Кольк. рабоч. | Кольк. падлет. | %% |
|---|---|---|---|---|
| Шкляная . | 1/IV—26 г. . . . | 2642 | 428 | 16,2 |
| „ . . | 1/I —28 г. . . . | 3341 | 390 | 11,7 |
| Мэталюргічная . | 1/IX – 26 г. . . . | 1597 | 79 | 4,9 |
| „ „ | 1/I – 28 г. . . . | 2478 | 180 | 7,3 |
| Дзераваапрацов. | 1/IX —26 г. . . . | 4223 | 131 | 5,4 |
| „ . | 1/I —28 г. . . . | 3214 | 172 | 5,4 |
| Запалкавая . . | 1/IX —26 г. . . . | 1029 | 41 | 4,0 |
| „ . . | 1/I —28 г. . . . | 3537 | 190 | 5,4 |
| Скураная . . | 1/IX – 26 г. . . . | 592 | 21 | 3,5 |
| „ . . | 1/I —28 г. . . . | 1125 | 29 | 2,6 |
| Папяровая . . | 1/IX – 26 г. . . | 1650 | 106 | 6,4 |
| „ . . | 1/I —28 г. . . . | 3224 | 92 | 2,9 |
| Тэкстыльная . | 1/IX —26 г. . . . | 2292 | 105 | 4,6 |
| „ . | 1/I —28 г. . . . | 2454 | 192 | 7,8 |

*) Лічбы па даных ВСНГБ.

Гэтыя лічбы нам сьведчаць аб тым, што нормы броні падросткаў па ўсіх галінах прамысловасьці цалкам не запоўнены і процантныя суадносіны паміж дарослымі рабочымі і падросткамі ў прамысловасьці ўсё паменшваюцца.

Вышэй паказаныя лічбы лішні раз падцьвярджаюць нам аб тым, што калі няма яшчэ новага закону, які-б абавязваў гаспадарчыя органы трымаць акрэсьленую колькасьць маладых рабочых для падрыхтоўкі з іх кваліфікаванай рабочай сілы, для нашай прамысловасьці (а ў бліжэйшы час будзе недахоп кваліфікаванай рабочай сілы), што паступова зьмяншаецца колькасьць раб. падросткаў у вытворчасьці (я тут не кажу аб дарослым юнацтве, бо справа з ім больш менш лепш).

Былі выпадкі, калі паасобныя профэсыянальныя і гаспадарчыя органы асабліва на мясцох у пытаньнях камплектаваньня броні падросткаў ня прымалі ніякіх мер, у выніку чаго па некаторых галінах прамысловасьці (папяровай, скураной, шчаціннай і асабліва мясцовай прамысловасьці),—броня падросткаў складаецца з адзінак у той час, калі маецца агульны прырост рабочай сілы па гэтых галінах вытворчасьці.

Надта востра стаіць пытаньне з разбраніраваньнем перарosткаў, якіх у броні налічваецца звыш 40%. Ня гледзячы на шэраг пастаноў, гаспадарчыя органы на мясцох вядуць лінію найменшага супраціўленьня ў пытаньнях разбраніраваньня перарosткаў і мы не гарантаваны, што пры ўвядзеньні новага закону аб броні падросткаў, гаспадарчыя арганізацыі могуць паставіць пытаньне аб скарачэньні ўсіх перарosткаў з прамысловасьці, бо нормы броні, па папярэдніх праэктах, будуць значна ніжэй існуючых цяпер.

Камсамолу, прафсаюзам, органам ВСНГ і НКП давядзецца шмат папрацаваць над выработкаю новых норм броні падросткаў па ўсіх відах прамысловасьці БССР па атрыманьні новага закону. Камсамол лічыць, што новыя нормы броні вучняў-падросткаў павінны вызначацца, *выходзячы з патрэб аднаўленьня як натуральнай страты рабочай сілы, так і патрэб у новых рабочых у сувязі з пашырэньнем і рацыяналізацыяй прамысловасьці, а таксама процант натуральнай страты павінен вызначацца ў сярэднім па шэрагах вытворчасьці паасобных галін прамысловасьці.* Гэта наша прынцыповая ўстаноўка, у адносінах да новых норм броні. Практычна неабходна будзе дабіцца ад гаспадарчых і законадаўчых органаў каб: а) пры ўвядзеньні закону аб новых нормах броні падросткаў, яго таксама распаўсюдзіць і на прамысловасьць мясцовага значэньня, пры чым па дробнай прамысловасьці павінен існаваць мясцовы закон, які-б прадугледжваў нормы броні падросткаў у прадпрыёмствах з колькасьцю рабочых да 15 чал.; б) у сувязі з тым, што закон аб броні падросткаў будуецца выключна на патрэбах прамысловасьці ў кваліфікаванай рабочай сіле, неабходна, каб гаспадарчыя органы прынялі-б шэраг мерапрыемстваў, накіраваных да больш рацыянальнага скарыстаньня ў вытворчасьці організаванымі формамі навучаньня падросткаў-бранявікоў, для гэтага трэба пашырыць ахоп броні школамі ФЗВ, а таксама і брыгаднымі формамі навучаньня;

в) дамагчыся хутчэйшага выданьня дырэктыў аб разбраніраваньні перарosткаў, якія лічыліся ў броні на працягу бліжэйшых 2-3 месяцаў і ўвядзеньня іх у штаты рабочых прадпрыёмстваў, у адпаведнасьці з тэй кваліфікацыяй, якой яны навучаліся, пры чым неабходна асабліва завастрыць увагу на тым, што пры разбраніраваньні перарosткаў не павінна быць мэханічнага скарачэньня падросткаў з вытворчасьці; г) прафсаюзным органам неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу

на камплектаваньне броні падросткаў і ўнутранае іх разьмеркаваньне ў вытворчасьці; д) ня гледзячы на тое, што ў броні падросткаў наліч- ваецца дзяўчат 37 проц., пры чым яны, галоўным чынам, працуюць у швачнай, сернікавай, шкляной і тэкстыльнай вытворчасьці. Неаб- ходна будзе ўжыць захады да большага ўцягненьня дзяўчат у вытвор- часьць, на скураной і мэталёвай прамысловасьці.

## 2. Зарплата

Становішча зарплаты рабочай моладзі па БССР характарызуецца наступнымі даннымі ЦСУ.

**Зарплата рабочых па цэнзавай прамысловасьці па даных выбарачнага абгляду дыфэрэнцыяльнай зарплаты (ЦСУ).**

| ПЭРЫЯДЫ: | Сярэдн. месячн. зарпл. у раб. | | Процант. адносн. к сярэдн. мес. зар. I/III—26 г. | | % аднос. зарпл. пад. к дар. раб. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | даросл. | падр. | даросл. | падр. | даросл. | падр. |
| Сакавік 1925 г. | 34,73 | 15,98 | 100 | 100 | 100 | 46 |
| „ 1926 г. | 43,92 | 22,95 | 126,4 | 143,6 | 100 | 52,2 |
| „ 1927 г. | 50,26 | 30,48 | 144 | 190,7 | 100 | 60,6 |

Зарплата па Віцебскіх прадпрыёмствах: сярэдні разрад моладзі на прадпрыёмствах 5-ты і 6-ы. Зарплата моладзі ўзрасла. Стаўка 1-га разраду па ўсіх амаль прадпрыёмствах, дзе праходзіла тарыфная рэформа зарплаты, павялічылася. Заработак моладзі на ф-цы „Двина“ па 2-му разраду быў 18 р., цяпер 26 р. 50 кап. Акулярная ф-ка сярэдні заработак з прыбыткамі быў 45 р., зараз 65 руб. Швачная ф-ка „Профінтэрн“—быў 80 р., зараз 98 р., Мэдпром № 3 быў—65 р. зараз—70 р. Па Гомельскіх прадпрыёмствах: зарплата па галоўнейшых прадпрыёмствах моладзі і падросткаў складае:

Завод „Пролетары“—моладзь—55-50 р. падросткі—25-30 р.
Ф-ка „Везувий „ 42 р. „ 30 р.
Шчацінная ф-ка (пры няпоўнай нагр.) 49 р. „ 23 р.

Заработная плата рабочай моладзі паступова расьце. Моладзь удзельнічае ў прыработцы ўпоравень з дарослымі рабочымі. Але вучні падросткі ў выработцы ня ўдзельнічаюць за выключэньнем асобных прадпрыёмстваў, пачынаючы з 2-4-га разраду і аплачваюцца яны па разрадах.

Зарплата ў працкалектывах да сёньняшняга дня застаецца яшчэ нізкай. Калі ўзяць працкалектывы шчотачнікаў, па цацках, дзе занята значная колькасьць падросткаў і моладзі, дык там мы маем наступнае: з агульнага ліку 168 падросткаў атрымліваюць дзярж. мінімум 9 р. 144 чал., астатнія вучні атрымліваюць у сярэднім па 12-15 р. у м-ц. Ёсьць шэраг фактаў, калі зарплата падросткаў у працкалектывах, ня гледзячы на тое, што яны на аднолькавай рабоце з дарослымі застаецца надта нізкаю. ЦК ЛКСМБ праз органы Наркампрацы даў дырэктывы аб урэгуляваньні зарплаты ў працкалектывах, аднак вынікаў яшчэ ня мясцох ня відаць.

Зарплата падросткаў у саматужнікаў застаецца таксама нізкаю. Ёсьць выпадкі калі вучні заседжваюцца ў разрадах на тэрмін больш за год. Ня гледзячы на тое, што закон аб вучнёўстве ў саматужнай

прамысловасьці прадугледжваў сталыя моманты аб устанаўленьні разрадаў заработнай платы, усё-ж дзякуючы раскіданасьці саматужных прадпрыёмстваў, прафсаюзы ня ў поўнай меры рэгулююць пытаньнямі зарплаты. У мястэчках, а таксама і ў некаторых гарадох ёсьць масавыя выпадкі дармовага і даплатнога вучнёўства, з чым неабходна распачаць рашучую барацьбу.

У пытаньнях заработнай платы неабходна будзе весьці далейшую работу па палепшаньню матар'яльнага становішча рабочай моладзі, а таксама дамагацца пераводу вучняў з разраду ў разрад у залежнасьці ад іх кваліфікацыі.

Пры падцягваньні зарплаты адстаўшых груп рабочых на прадпрыёмствах неабходна ўключыць таксама і вучняў у гэтую групу.

Пры ўвядзеньні тарыфных сетак па ўсіх саюзах, неабходна дамагчыся застаўленьня таго ўзроўню заработнае платы, які маецца.

## 3. Вучнёўства

У сучасны момант у нас у Беларусі пераважнай формай навучаньня рабочае моладзі, кваліфікацыі на прадпрыёмствах зьяўляецца індывідуальнае вучнёўства, у якое ў сярэднім ахопвае 75—80 проц. усіх вучняў. Акрамя індывідуальнага навучаньня існуе брыгаднае. Але ня гледзячы на тое, што форма брыгаднага навучаньня поўнасьцю сябе апраўдала, яна да гэтага часу не знайшла свайго шырокага прыстасаваньня на прадпрыёмствах, дзякуючы няўважлівай адносіне да яе гаспадарчых органаў. Становішча навучаньня вучняў, асабліва ў індывідуальных формах застаецца вельмі дрэнным няма да гэтага часу сталых праграм навучаньня, няма належнае адказнасьці за навучаньне як па лініі трэстаў, так і па лініі прадпрыёмстваў і майстроў. Кампэнсацыя майстроў, мэтавая ўстаноўка якое была палепшыць навучаньне падросткаў,—у большай частцы прадпрыёмстваў не дае належнага эфэкту, дзякуючы таму, штоператвараецца ў простую надбаўку да зарплаты майстра. Прафсаюзныя і камсамольскія арганізацыі навакол пытаньня кампэнсацыі майстроў не стварылі належнае грамадзкае думкі сярод рабочых і вучняў. Адміністрацыя не патрабуе ад майстроў справаздачы і, такім чынам, значная колькасьць грошай выкідаюцца без належнае карысьці. Становішча брыгадных форм навучаньня застаецца дрэнным па тых прычынах, што да гэтага часу з боку ВСНГ не акрэсьлены тыя галіны прамысловасьці, у якіх павінны быць уведзены брыгадныя формы навучаньня, а таксама не распрацованы тыпавыя праграмы навучаньня, і дрэнна падабраны ў брыгадах склад інструктароў. Тэхнічнай адукацыі вучні брыгады амаль што не атрымліваюць. Унутранае разьмеркаваньне вучняў па прадпрыёмствах застаецца нездавальняючым, дзякуючы таму, што гаспадарчыя органы, а таксама і прафсаюзныя ячэйкі на мясцох не цікавяцца гэтым пытаньнем. Апошняе падцьвярджаецца тым, што, напрыклад, па броварнай вытворчасьці маецца востры недахоп спэцыялістых бравароў, а на броварным заводзе ў Віцебску замест бравароў рыхтуюць стальмахоў. На мэталюргічных заводах у Менску ёсьць выпадкі, калі рыхтуюць кладаўшчыкоў, стальмахоў і інш. спэцыялістых, ня ўлічваючы патрэб прадпрыёмства ў кваліфікаванай рабочай сіле на бліжэйшы час.

Па выбарачнаму абсьледваньню завод. „Энэргія", „Мэталь", „Эльвод" і с.-г. майстэрні з 80 вучняў рыхтуюцца наступныя кваліфікацыі: ліцейшчыкаў 9, мадэльшчыкаў—3, сьлёсараў—51, такароў—7, кладаўшчык—1, кавалёў—няма, кацельшчыкаў—1, электраводаў—7, сталяроў—0—1.

Значная частка падросткаў рыхтуецца па кваліфікацыі сьлёсараў у той час, калі на такароў і кавалёў маецца недахоп на рынку працы. На Эльводу рыхтуецца 17 чал. сьлёсараў, якія ўнутры прадпрыёмства ня могуць быць скарыстаны ў той час, калі ў асноўных цэхах, як напрыклад, электра-мантажны, падрыхтоўваецца толькі 7 чал.

### 4. Вучнёўства ў працкалектывах і ў саматужнікаў

Па працкалектывах налічваецца звыш 500 чал. падросткаў, што ў адносіне да агульнага ліку рабочых у працкалектывах складае 7,2 проц. На пашырэньне і арганізацыю вучнёўскіх брыгад пры працкалектывах Наркампрацы ў гэтым годзе з сродкаў барацьбы з беспрацоў'ем адпусьціў 20.000 руб. У мінулым годзе было вылучана спэцыяльна 33.000 руб. На арганізацыю вучнёўскіх брыгад пры Віцебскіх працкалектывах і накіравана туды падросткаў—120 чал. Колькасьць падросткаў у працкалектывах, дзякуючы ўзятай лініі на павялічэньне, бязумоўна павялічваецца, але-ж суадносіны паміж колькасьцю падросткаў у працкалектывах і іх удзельнай вагой на біржы працы не супадаюць (на біржы працы падросткі да агульнага ліку беспрацоўных складаюць 11 проц., у працкалектывах занята 7,2 проц. Трэба адзначыць, што з пытаньнем пастаноўкі вучнёўства падросткаў у працкалектывах—справа дрэнная. Вучні скарыстоўваюцца ў большай частцы на падсобных работах і аплачваюцца па нізкіх стаўках. Пасьля сканчэньня навучаньня за імі не замацоўваецца некаторы тэрмін прабываньня ў працкалектывах для замацаваньня свае кваліфікацыі. Кампэнсацыя майстроў за навучаньне вучняў у большасьці калектывах не вытвараецца.

Па прыблізнаму падліку колькасьць вучняў па саматужнай прамысловасьці, акрамя арцеляй прам. каапэрацыі, складае блізка 2.000 чал. Навучаньне вучняў застаецца нездавальняючым з прычыны адсутнасьці належнага нагляду за пастаноўкай вучнёўства з боку прафэсыйных арганізацый і органаў Наркампрацы. У арцелях прамысловае каапэрацыі, ня гледзячы на шырокае іх разьвіцьцё, колькасьць вучняў застаецца нязначнай. Трэба ў бліжэйшы час узмацніць узаемаадносіны камсамолу з органамі Белкустпромсаюзу і распрацаваць шэраг мерапрыёмстваў, якія-б спрыялі большаму ўцягненьню вучняў у гэтую галіну прамысловасьці. Адначасова трэба праз законадаўчыя органы распрацаваць матар'ялы аб парадку найму вучняў у арцелі прамысловае каапэрацыі, бо ёсьць выпадкі, калі туды пралазяць толькі члены саматужніцкіх сем'яў.

У пытаньнях вучнёўства мы можам зрабіць наступны вывад, што па *пытаньнях вучнёўства да гэтага часу як гаспадарчыя, так і прафэсыянальныя органы ня выканалі дырэктыў сэкратарыяту ЦК КПБ, якія зводзіліся да лепшага скарыстаньня вучняў у вытворчасьці, вызначэньня цьвёрдых формаў і мэтадаў навучаньня, захаваньня і нават магчымага пашырэньня сеткі школ ФЗВ.*

Практычна на бліжэйшым часе неабходна распрацаваць шэраг мерапрыемстваў, накіраваных на палепшаньне пастаноўкі вучнёўства і да зьнішчэньня ніжэйпаказаных недахопаў.

1. ВСНГ да гэтага часу ня ведае колькі яму патрабуецца кваліфікаванае рабочае сілы, якое спэцыяльнасьці і як ён будзе падрыхтоўваць яе, г. з. праз якія формы навучаньня; 5-ці гадовы плян патрэбнасьці кваліфікаванай рабочай сілы да гэтага часу ня складзены.

2. Гаспадарчыя органы да гэтага часу ня вывучылі пытаньня каштоўнасьці навучаньня і ня прынялі мер да зьніжэньня сабекаштоў-

насьці яго, таксама не распрацован матар'ял аб тэрмінах навучаньня вучняў па паасобных галінах прамысловасьці, што затрудняе работу па пастаноўцы ўсяе сыстэмы навучаньня падросткаў.

3. З боку гаспадарчых, а таксама прафсаюзных органаў маюцца тэндэнцыі да зьнішчэньня школ ФЗВ і скарачэньня іх сеткі. Гэта відаць з таго, што ЦП саюзу хімікаў і Шклотрэст выкінулі з догавару пункт аб адчыненьні школы ФЗВ шкляное вытворчасьці. ЦП саюзу скуранікаў і Белкустрэст пастанаўляюць зачыніць існуючую школу ФЗВ. Лесбел і ВСНГ выносяць рашэньне аб зачыненьні школы ФЗВ лесапільнай прамысловасьці. Белдзяржвыдавецтва зачыняе школу ФЗВ Паліграфвытворчасьці. Такія дзеі гаспадарчых арганізацый нэрвіруюць вучняў і ствараюць дрэнныя настроі.

4. Да гэтага часу ня вызначаны галіны прамысловасьці, у якіх павінна існаваць брыгаднае навучаньне, а таксама ня вызначаны тып брыгады, які павінен існаваць у БССР. Дзякуючы гэтаму, брыгаднае вучнёўства ў БССР не знайшло свайго разьвіцьця.

5. Ня гледзячы на тое, што на кампэнсацыю майстроў за навучаньне падросткаў адпушчаецца значная колькасьць сродкаў, усё такі яна належнае карысьці не дае, дзякуючы таму камсамольскія і прафсаюзныя арганізацыі не стварылі наваколь гэтага пытаньня шырокай грамадзкай думкі, у выніку чаго яна ператвараецца ў простую надбаўку да зарплаты майстра.

6. Органы Наркампрацы пры абсьледваньні прадпрыемстваў мала аддаюць увагі пытаньням вучнёўства, у выніку чаго маецца шэраг ненармальнасьцяй.

7. Наркамасьветы і яго мясцовыя органы слаба кіруюць як з мэтадычнага, так і арганізацыйнага боку пастаноўкай індывідуальных і брыгадных форм вучнёўства. Адсутнічаюць тыпавыя праграмы, слаба пабудавана мэтодыка выкладаньня: тэорыя кепска зьвязваецца з практыкаю.

8. Адносіны гаспадарчых і прафсаюзных органаў да работы вучнёўскіх камісій застаюцца фармальнымі і вучнёўскія камісіі на прадпрыёмствах амаль што не работаюць.

## 5. Ахова працы і здароўя рабочае моладзі

Апошні масавы мэдыцынскі агляд здароўя рабочае моладзі ў 26—27 г. і праведзеная дыспансэрызацыя яе ў 28 г. паказалі шэраг ненармальнасьцяй у становішчы здароўя рабочай моладзі, ён паказаў, што прыблізна блізка 40% усяе рабочае моладзі зьяўляецца хвораю на розныя хваробы.

Трэба адзначыць, што ахоп прафілактычнымі ўстановамі рабочай моладзі яшчэ досыць нізкі.

Кватэрныя ўмовы рабочае моладзі надта дрэнныя; так, па матар'ялам масавага мэтадычнага агляду, з агульнага ліку рабочае моладзі, у дрэнных кватэрах жывуць 50,8%. Харчаваньне таксама кепскае— 40% моладзі харчуецца ў сухамятку.

У адносінах аховы працы за апошнія гады мы маем бязумоўна некаторае палепшаньне ў сэнсе выкананьня на больш буйных прадпрыёмствах асноўных законадаўстваў аб працы моладзі, але-ж па матар'ялах масавага мэд. агляду мы яшчэ ў БССР маем прыблізна 30—35% падросткаў, якія знаходзяцца на шкодных і начных работах. Гэта асабліва заўважана ў шкляной прамысловасьці. Рабочы дзень моладзі, асабліва ў саматужных прадпрыёмствах, поўнасьцю ня выконваецца і маюцца нарушэньні блізка на 30%.

Усё гэта ставіць перад намі задачу палепшаньня кватэрных умоў рабочае моладзі, павялічэньня сярод яе грамадзкага харчаваньня, павялічэньня ахопу рабочай моладзі прафілактычнымі ўстановамі Наркамздраву.

## 6. Беспрацоўе сярод падросткаў

Беспрацоўе сярод падросткаў у БССР за апошнія гады прыняла застойны характар і мае тэндэнцыю да далейшага росту. Сярэднія гадавыя лічбы беспрацоўных у БССР складаюцца прыблізна такім чынам. У 25—26 г. сярэдняя лічба беспрацоўных падросткаў на вучоце біржы працы складала 2945 чал. з іх жанчын—1.476, сяброў прафсаюзу—100 чал. За 26—27 г. сярэднія лічбы ўжо даюць 2989 чал. з якіх жанчын—1.398, сяброў прафсаюзу—83; за першае паўгодзьдзе 27—28 г. маем 3221 ч. з якіх жанчын—1.682 чал., сяброў прафсаюзу—няма. Па сацыяльнаму складу беспрацоўныя падросткі разьмяркоўваюцца прыблізна на наступныя групы: дзеці рабочых і служачых—75%, бяспрытульныя—5%, батракі—8%, сяляне з вёсак—5%, дзеці саматужнікаў і іншых груп насельніцтва—7%. Попыт на рабочую сілу падросткаў у параўнаньні з прапановамі працы зусім нязначны. У красавіку 27 г. попыт—157, прапановы—658. У сьнежні—252,—407. Попыт галоўным чынам, падае на дзяржаўныя прадпрыёмствы і саматужныя адзінкі, якія складаюць 80% усіх спажыўцоў рабочае сілы падросткаў.

Матар'яльнае становішча беспрацоўнай моладзі вельмі цяжкае. ЦК ЛКСМБ сумесна з органамі Наркампрацы рабіў захады да зьнішчэньня яго. Галоўнай формай барацьбы з беспрацоўем сярод падросткаў зьяўляліся: пасылка ў броню, перакваліфікацыя. За гэты год у броню паслана—1.079 ч. Перакваліфікавана на курсах ЦІП каля 200 чал.:—у 26—27 бюджэтным годзе органы Наркампрацы па фонду дакваліфікацыі і перакваліфікацыі адпусьцілі 80.000 руб. Акрамя гэтага адпушчана 14.000 р. на арганізацыю вучнёўскіх брыгад пры працкалектывах. У 27—28 г.—100.000 р. на перакваліфікацыю беспрацоўных, з якіх спэцыяльна на перакваліфікацыю падросткаў было вызначана на адчыненьне вытворчай майстэрні ў Добрушы,—3.000 р., на адчыненьне вытворчай майстэрні у Полацку--15.000 р. на арганізацыю вучнёўскіх брыгад прыпрацкалектывах—20.000 р. Акрамя таго, органы сацстраху адпушчаюць 400 броньпайкоў, што у год складае 38.000 р. Усяго ўсімі мерапрыёмствамі па перакваліфікацыі і дакваліфікацыі у гэтым годзе будзе ахоплена прыблізна 500 чал. беспрацоўных падросткаў, што бязумоўна мала.

На далей мы лічым, што ў пытаньнях барацьбы з беспрацоўем трэба будзе: прыняць рашучыя меры да ўцягненьня большай колькасьці беспрацоўнага некваліфікаванага юнацтва ў прамысловасьць пры звычайным найму для выкананьня работ не патрабуючых працяжнай падрыхтоўкі, што ў умовах рацыяналізацыі прамысловасьці зьяўляецца магчымым (правядзеньне разьмежаваньня працы і г. д.); пашырыць арганізацыю вучнёўскіх брыгад пры працкалектывах, а таксама павялічыць уцягненьне моладзі ў іх; больш ахапіць падросткаў і беспрацоўную моладзь усімі мерапрыёмствамі органаў Наркампрацы па барацьбе з беспрацоўем (грамадзкія работы, таннае харчаваньне і інш.); разьвіць шырокую работу па ўнядрэньню вучнёўства ў саматужную прамысловасьць і арцелі прам. каапэрацыі; у будучым бюджэтным годзе павялічыць асыгнаваньні на барацьбу з беспрацоўем сярод падросткаў з агульнага фонду барацьбы з беспрацоўем; пры ўвядзеньні новага закону аб броні падросткаў небходна правесьці

работу па поўнаму запаўненьню броні падросткаў у адпаведнасьці з гэтым законам; праз органы Наркампрацы дабіцца выданьня пастановы аб большым аказаньні дапамогі органамі сацстраху падросткам па беспрацоўі, асабліва тым, якія зьяўляюцца галавою сям'і.

## 7. Камсамол і прафсаюзы

Работа камсамолу і прафсаюзаў за апошнія гады бязумоўна палепшылася, але наглядаюцца тэндэнцыі з боку асобных ЦП саюзу да ліквідаваньня інстытуту прадстаўнікоў камсамолу у прафсаюзах (Харчавікоў). Актыў з моладзі ў праф. арганізацыях значна вырас. Апошнія перавыбары мясцкому асабліва паказалі рост праф. актыву з моладзі. Зараз актыў з моладзі ў фабзаўмясцкомах і іх камісіях складае 9148 чал. альбо 18,1% па адносінам да агульнага ліку актыву. З 503 платных работнікаў у ФЗМК маюцца моладзі 14,7%. У складзе праф. упаўнаважаных 19,4%. Наогул увага моладзі да пытаньняў праф. працы павялічылася. Аднак трэба адзначыць, што ў практычнай рабоце некаторых саюзных арганізацый па працы сярод моладзі маецца шэраг недарэчнасьцяй, прафсаюзы часта выдзяляюць гэтую галіну работы ад агульна-саюзнай; зусім слаба пастаўлена масавая работа сярод рабочай моладзі. Наведваньне моладзьдзю сходаў рабочых слабае. Прафсаюзы часта не прыстасоўваюць сваю масавую работу да запытаньняў моладзі. Хоць прадстаўніцтва камсамолу ў прафсаюзах сябе поўнасьцю апраўдала, але ня гледзячы на гэта амаль што ўва ўсіх ЦП саюзу яшчэ ня створаны ўмовы для нармальнай работы прадстаўнікоў камсамолу ў сэнсе аслабаненьня на некалькі дзён ад работы на вытворчасьці, у аказаньні ім дзелавой таварыскай дапамогі і г. д.

## 8. Удзел моладзі ў рацыяналізацыі вытворчасьці

Камсамол прарабіў сур'ёзную работу ў галіне барацьбы з прагуламі, нядбайнымі адносінамі да работы, з разгільдзяйствам, бракам, барацьбу за рэжым эканоміі, за палепшаньне работы паасобных працэсаў вытворчасьці, за павялічэньне вытворчасьці працы, растлумачваючы моладзі разам з тым агульныя задачы партыі ў галіне гаспадарчага будаўніцтва. *І бязумоўна, калі мы па нашых практычных прапановах дасяглі многага ў галіне вышэйадзначанага,—то ў справе рацыяналізацыі прамысловасьці, удзелу ў работах вытворчых нарад, удзелу ў кіраваньні прамысловасьцю мы зрабілі мала.* І калі мы ў некаторых, арганізацыях маем добрыя прыклады ўдзелу ў вытворчым жыцьці,—то гэта яшчэ ня стала маемасьцю ўсяе рабочае моладзі. Аб тым, што мы маем, нам будуць гаварыць наступныя прыклады і факты: напрыклад, ячэйка ст. Рагачова МББ чыгункі ўнесла 40 прапаноў, з якіх 32 былі прыняты. На Гомельскім чыгуначным вузьле па ТЧ/3 Заходніх чыгунак 2 рабочых хлапцы адшукалі новы лягчэйшы спосаб праверкі трайнога клапану тормаза Вэстынгауза. На фанэрным заводзе камсамольцы прапанавалі павялічыць шкіў на трансмісіонным шчапленьні, што павялічыла колькасьць зваротаў і выпрацоўку прадукцыі. Камсамолец заводу Мэтпром № 3 у г. Віцебску ўзьняў пытаньне аб выкарыстоўваньні абрэзкаў жалеза, увядзеньне рэльсавых ваганэтак у двару цэха, аб штампоўцы гаек у гарачым відзе. На заводзе „Адзерыха“ камсамольцы ўнесьлі прапанову, у выніку чаго павялічылася выпрацоўка масла з 210 тысяч пудоў на 275 тысяч у год. Прыкладна па цэлым шэрагу прадпрыёмстваў значна павялічылася наведваньне камсамольцамі і беспартыйнай моладзьдзю вытворчых нарад і інтарэс да іх работы.

На абойнай ф-цы г. Менску шмат камсамольцаў займаюцца вышуканьнем і вельмі каштоўным, што палепшыць вытворчасьць. *Усё вышэйсказанае гаворыць аб тым, што рабочая моладзь на чале з камсамолам дабілася ў значнай меры гаспадарчых адносін да вытворчасьці, набыла вопыт такое работы, на аснове чаго, пры ўважлівым вучоце і кіраўніцтве ёю, магчымы далейшы расьцьвет нашага ўдзелу ў гаспадарчым будаўніцтве.* Гэта вялікі пачатак.

Ёсьць яшчэ маса фактаў адмоўнага парадку, вялікі % прагулаў, нездавальняючая работа ў вытворчых нарадах, неразуменьне асноў і сутнасьці сацыялістычнае рацыяналізацыі нашай прамысловасьці. Ёсьць выпадкі, што камсамольцы выступаюць супроць лініі партыі і прафсаюзаў у пытаньні рацыяналізацыі, яскравым прыкладам чаго можа быць ячэйка Шчацінай ф-кі ў Менску, якая выступіла супроць палепшаньня работы прадпрыёмства, заявіўшы, што палітыка партыі ў агуле і цалкам правідлова ў гэтых пытаньнях, але практычна прыстасаваць да ўмоў нашага прадпрыёмства мы ня можам. Ячэйка ў справе супроць рацыяналізацыі свайго прадпрыёмства пайшла яшчэ і далей, прыступіўшы да „абработкі“ рабочых у гэтым напрамку. Такія факты часьцей за ўсё сустракаюцца на прадпрыёмствах паўсаматужнага тыпу. З такімі зьявішчамі трэба весьці рашучую барацьбу, растлумачваючы яе памылковасьць і высьвятляючы лінію партыі.

На творчую работу камсамолу ў гэтай галіне нашай працы мелі свой адбітак цяжкасьці бягучага моманту і спэцыфічныя ўмовы БССР. Гэтыя цяжкасьці наступнага пэрыяду заключаліся, галоўным чынам у тым, што ішоў рост беспрацоўя за лік моладзі і падросткаў ня бyўшых у вытворчасьці.

Нязначна паляпшаліся культурна-бытавыя ўмовы рабочае моладзі і тое, што часта прыкмячаецца, недастатковая ўвага к высоўваемым рабочай моладзьдзю і ЛКСМ пытаньням працы і асабліва адукацыі рабочае моладзі з боку асобных гаспадарчых органаў. *Некаторыя з гаспадарнікаў падыходзілі да вырашэньня такіх пытаньняў, часта з вузкагаспадарчага інтарэсу сёньняшняга дня.*

Пасьпяховае выкананьне пастаўленых перад партыяй і камсамолам задач у галіне рацыяналізацыі вытворчасьці, у галіне сацыялістычнае арганізацыі працы і адукацыі рабочае моладзі, будзе залежыць ад прыкладнасьцяў камсамольца рабочага, ад яго працоўнага геразму, дысцыпліны, напружанай, дасканалай і рацыянальна-пастаўленай работы на сваім прадпрыёмстве.

Ва ўмовах Беларусі, дзе прамысловасьць слаба разьвіта па свайму тэхнічнаму ўзроўню, камсамолец павінен разьвіваць энэргію ў галіне яе рацыяналізацыі і пераабсталяваньню на новай высокай тэхнічнай базе.

Толькі тады мы здалеем выканаць задачы, пастаўленыя перад намі камуністычнай партыяй.

---

П. Пасюкевіч

# Некаторыя моманты работы заводзкага „трохкутніка“

Пастановы ЦК УсеКП(б) аб масавай рабоце на прадпрыёмстве і сакавіковага Пленуму ЦК КПБ вызначаюць цэлы шэраг найпрактычнейшых момантаў, якія нізавым організацыям застаецца толькі выконваць і добра сачыць за іх ажыцьцяўленьнем. Галоўны напрамак у масавай рабоце, які даюць вышэйпаказаныя пастановы,—тон, у якім павінна быць вытрымана масавая работа—гэта *спагадлівасьць і чуласьць к патрабаваньням і запытаньням рабочых*. Гэтай устаноўкай і ідэяй павінна быць працята ўся дзейнасьць кіруючага на прадпрыёмстве асяродка—заводзкага трохкутніка. Парт‘ячэйка, заводакіраўніцтва, фабзаўком шляхам устанавіўшыхся ў практыцы работы ўзаемаадносін паміж сабою і „падзелу працы“ ўнутры сябе, падыходзячы з розных бакоў да вырашэньня гэтай задачы, павінны „біць“ у адзін пункт, каб атрымаліся найбольш значныя вынікі, найлепшая спрацsecuredанасьць заводзкага трохкутніка. Звычайна, досыць часта думаюць, калі ў завадзкім трохкутніку няма супярэчнасьцяй паміж паасобнымі часткамі, дык справа ідзе добра. Многа ёсьць такіх выпадкаў, калі ўзаемаадносіны нормальныя, а праца па задавальненьню культурна-бытавых і іншых патрэб рабочых не пастаўлена добра, не дае належнага эфэкту, гэта значыць, што адсутнічае спрацованасьць у завадзкім трохкутніку.

Выбарачнае абсьледваньне работы заводзкіх трохкутнікаў, якое праведзена было ЦКК КП(б)Б паказвае, што яшчэ мала дасягнута ў сэнсе спрацованасьці іх, што цэлы шэраг практычных прапаноў ЦК УсеКП(б)Б і КП(б)Б выказаны ў лепшым выпадку часткова, а то і зусім яшчэ не праведзены ў жыцьцё.

Абсьледваньнем ахоплены былі наступныя прадпрыёмствы: Заходн. чыгунка (Менск); МББ чыг. (Віцебск)—Магілеў); ф-ка „Дзьвіна“ (Віцебск); Менская электростанцыя; „Домбаль“ (Барысаў); „Везувій“, „Дзьвігацель Рэвалюцыі“ (Гомель); скурзавод „Лекерта“ (Магілёў). Гэтыя прадпрыёмствы зьяўляюцца досыць буйнымі на БССР, ахопліваюць каля 6000 рабочых ( у сярэднім 615 чал. на адно) і таму матар‘ял атрыманы ў выніку абсьледваньня можна ў некаторай меры распаўсюдзіць і на іншыя прадпрыёмствы.

Разгледзім розныя галіны работы заводзкага трохкутніка.

* * *

*Як праходзяць агульныя сходы рабочых і якія пытаньні на іх абгаварваюцца?*

Вышэйпаказаныя пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б паказваюць на стараннасьць падбору пытаньняў для агульных сходаў, „лічачыся з жаданьнямі і запытаньнямі мас, не перагружаючы абвестак сходаў агульнымі пытаньнямі“.

Матар'яльна бытавыя пытаньні ў абвестках дню займаюць 32% усіх пытаньняў, што зьяўляецца, бязумоўна, дадатным момантам. Аднак, такая колькасьць гэтых пытаньняў тлумачыцца тым, што ў гэты пэрыяд ішло абгаварэньне і падрыхтоўка да перазаключэньня калектыўных умоў, калі натуральна, галоўным чынам, абгаварваюцца матар'яльна-бытавыя пытаньні (зарплата, расцэнкі, ахова працы і інш.).

Пытаньні культурнага абслугоўваньня рабочых абгаварваліся ўжо значна менш (11%).

Справаздачныя даклады гаспадарнікаў займаюць у агульным ліку пытаньняў 14%. Сюды належаць, галоўным чынам, агульныя даклады гаспадарнікаў аб становішчы гэтага прадпрыёмства. Яшчэ да гэтага часу не ўвайшло ў сыстэму працы інфармаваць рабочых аб усіх намячаемых гаспадарчых мерапрыёмствах і прапановах, асабліва па пытаньнях рацыяналізацыі вытворчасьці, а таксама аб рабоце паасобных цэхаў прадпрыёмства. Гэткія пытаньні на абсьледваных прадпрыёмствах займалі толькі 4% ці 16 пытаньняў з 379 на працягу больш году. Гэткае становішча трэба прызнаць наяўна нездавальняючым. Мала даць справаздачу рабочым, што зроблена, *а неабходна ўцягнуць іх у абгаварэньне, падвесьці пад шырокую крытыку ўсё тое, што намячаецца да ажыцьцяўленьня.*

Усё яшчэ насупроць пастановам парторганаў, значнае месца займаюць у абвестках дню агульных сходаў рабочых агульна-палітычныя пытаньні (17%), якія па сэнсу тых-жа пастаноў павінны пераносіцца ў клюбы і спэцыяльныя сходы па-за прадпрыёмствам. Характэрна адзначыць, што выступленьняў па гэткіх пытаньнях з боку рабочых вельмі мала. Гэтак па заводу „Домбаль“ (Н.-Барысаў) на 9-ці сходах, на якіх стаялі канкрэтныя пытаньні жыцьця прадпрыёмства, матар'яльна-бытавыя і справаздачы мясцовых арганізацый—выступала 89 рабочых. Калі-ж на пяці сходах стаялі пытаньні агульна-палітычныя, дык выступала ўсяго 3 чал.

Наступнае пытаньне—гэта як праводзіцца інфармацыя рабочых аб выкананьні пастаноў прынятых папярэднімі сходамі.

*Ні на адным з абсьледуемых прадпрыёмстваў гэта ня выконваецца.* Некаторыя заўкомы толькі наважыліся рабіць. Гэта ўжо бюракратычнае зьявішча, і выклікае яно правідловыя нараканьні рабочых: „гавары і рашай ўсё-адно нічога ня будзе зроблена“ (МББ—Магілёў).

### Як парт'ячэйкі работаюць у гэтым напрамку

Парт'ячэйкі на прадпрыёмствах як вядома зьяўляюцца вельмі маладымі. Членаў партыі няніжэй пяцігадовага стажу (13% з 1189 камуністых толькі 159). Гэтым у значнай меры можна тлумачыць і перагрузку партактыву (4-5-6 нагрузак) пры наліччы ненагружаных маладых таварышоў. У адносіне да агульнай колькасьці рабочых комуністых на гэтых прадпрыёмствах 24%. Гэта паказвае, што перад ячэйкамі яшчэ стаіць вялікая работа па адбору і ўцягненьню ў партыю рабочых. Аднак на справе парт'ячэйкі праяўляюць некаторую пасыўнасьць; нармальны прыцёк у партыю, калі ня лічыць Кастрычнікавага прызыву, вельмі нязначны.

З прычыны таго, што парт'ячэйкі ў большасьці сваёй маладыя, маецца цэлы шэраг фактаў праяў недысцыплінаванасьці і хвасьцізму, апошні ў пытаньнях матар'яльна-бытавога характару (тарыфная рэформа, перагляд норм расцэнак і г. д.), п'янства і некаторых іншых хваравітых зьявішч.

Большасьць парт‘ячэек на сваіх сходах абгаварваюць пытаньні агульнага характару і калі аб сваім прадпрыёмстве, дык таксама ў агульнай пастаноўцы (даклад гаспадарніка аб сваёй рабоце). Зусім слаба абгаварваюцца канкрэтныя пытаньні жыцьця прадпрыёмства, якія маюць вялікае значэньне ў рабоце і якія асабліва хвалююць рабочых (нормы расцэнак, працоўная дысцыпліна, паасобныя мерапрыёмствы па рацыяналізацыі). Заслабым абгаварэньнем канкрэтных пытаньняў жыцьця прадпрыёмства на ячэйках можна тлумачыць і недастатковую прысутнасьць беспартыйных рабочых (у сярэднім 9 чал. на адным сходзе) і зусім нязначныя выступленьні ў спрэчках беспартыйных (на тры сходы адно выступленьне).

Усё яшчэ практыкуецца вялікая колькасьць зачыненых сходаў (47%).

Ва ўсіх ячэйках вылучана суадпаведная колькасьць індывідуалаў і цэхаргаў, аднак сыстэматычнага інструктаваньня іх і належнай дапамогі ім ня ўчыняецца. На некаторых прадпрыёмствах (3-х з 9-ці) існуюць гурткі падрыхтоўкі агітпрапагандыстых, але пастаноўка работы ў іх такая, што ў большасьці заняткі вядуцца на агульныя тэмы—падрыхтоўка да рознага роду кампаній і мала пытаньняў бягучага жыцьця прадпрыёмства.

Групавая агітацыя, выкарыстоўваньне перапынкаў на палудзень, зьмен рабочых і г. д. практыкуецца толькі ў некаторых прадпрыёмствах—3-х і то не сыстэматычна. Зусім слаба вядзецца выхаваўчая работа ў тым напрамку, каб кожны партыец зьяўляўся агітатарам і прапагандыстым без афіцыйнага яго вылучэньня, каб ён так падрыхтоўваўся, што-б мог даваць здавальняючыя тлумачэньні па розных агульна-палітычных і канкрэтных вытворчых пытаньнях беспартыйным рабочым, якія зьвяртаюцца да яго. А ёсьць і такія выпадкі, калі беспартыйныя рабочыя адчуваюць, што партыец слаба падрыхтаваны, тады яму задаюць „падкавырыстыя“ запытаньні з мэтаю праверкі яго ведаў. Такому партыйцу цяжка весьці індывідуальную работу.

Ініцыятывы і практычных крокаў з боку партыйных, комсамольскіх арганізацый і асабліва паасобных камуністых у справе арганізацыі сярод рабочых работы па самаадукацыі і завочнаму абучэньню, вярбоўкі рабочых на розныя курсы і гурткі па ліквідацыі няпісьменнасьці і наогул падвышэньня пісьменнасьці,—асабліва не праяўляецца і гэтай справай амаль зусім не займаюцца. А між іншым вакол гэтага пытаньня ня толькі не завострана партыйна-грамадзкая думка, але па некаторых прадпрыёмствах няпісьменнасьць сярод рабочых нічым ня можа быць апраўдана, як напрыклад, па ф-цы „Дзьвіна“ (Віцебск), дзе няпісьменных налічваецца 23% усіх рабочых, ці 472 чал. Тут ужо зусім нядбайныя адносіны мяйсцовых арганізацый. І сапраўды камісія, якая абсьледвала гэту ф-ку, паведамляе, што „парт‘органы і праф. арганізацыі гэтаму пытаньню не аддавалі ўвагі“, што „пытаньне аб ліквідацыі няпісьменнасьці на фабкоме не абгаварвалася, а разглядалася ў парадку зацьверджаньня пратаколаў культкамісіі“.

* * *

*Як праходзіць абслугоўваньне рабочых па матар‘яльна-бытавых запатрабаваньнях?*

Абгаварэньне новага калдагавору ў гэтым годзе ў цэлым шэрагу прадпрыёмстваў, у сувязі з правядзеньнем тарыфнай рэформы, праходзіла ненармальна таму, што раней абгаварвалася праўная частка, а пасьля, праз даволі доўгі час тарыфная частка, пры гэтым апошняя не як праэкт, а як канчаткова афармлены дагавор, што адбілася на

актыўнасьці рабочых (Зах. чыг.) гэтак сама і на колькасьці лішніх канфліктаў („Домбаль“).

Буйных канфліктаў паміж адміністрацыяй і значнай групай рабочых за апошні час на абсьледуемых прадпрыёмствах ня было, калі ня лічыць нездавальненьня высока-аплачваемых груп рабочых, якія атрымалі некаторае зьніжэньне зарплаты. Наглядаецца значная колькасьць выпадкаў, калі адміністрацыя стварае канфлікты па пытаньнях досыць яскрава прадугледжаных рабочым законадаўствам—13% агульнага ліку канфліктаў на зав. „Домбаль“, што, бязумоўна, зьяўляецца ненармальным, складае ў рабочых думку аб лішніх „гаспадарскіх“ тэндэнцыях і г. д.

У пытаньнях аховы працы хаця і маюцца некаторыя аб'ектыўныя ўмовы, якія не даюць мажлівасьці правільна арганізаваць гэтую справу— паасобныя тэхнічныя мерапрыёмствы, неадпаведнасьць, непрыстасаванасьць памяшканьняў і інш., але маецца цэлы шэраг фактаў і нядбайных адносін да законадаўства аб працы ў галіне аховы. Тут назіраюцца два моманты. Папершае, дробязі, якія без асаблівых затрат маглі-б быць заліквідаваны і па другое, што калі інспэктарыяты працы прымаюць законныя меры супроць „парушыцеляў“, дык бываюць выпадкі, што партыйцаў бяруць пад абарону парт'ячэйкі (Зах. чыг.), што ўжо зусім няправільна. Нельга ставіць партыйцаў у прывілейнае становішча, а наадварот, трэба акрамя спагнаньняў па закону, прыцягваць іх яшчэ і да партадказнасьці.

Адносна абслугоўваньня бытавых умоў рабочых—маюцца недахопы ў галіне арганізацыі грамадзкага харчаваньня (адсутнасьць сталовых, адпаведных ларкоў ці каапэрацыйных крам блізка ад прадпрыёмстваў—„Дзьвігацель Рэвалюцыі“ і інш.).

Таксама зусім недастатковым трэба прызнаць мерапрыёмствы па палепшаньню бытавых умоў работніц. Толькі палова абсьледуемых прадпрыёмстваў маюць дзіцячыя сады, якія максымальна ахапляюць 50 чал. дзяцей на кожным прадпрыёмстве. Іншыя віды дапамогі (дзіцячыя яслі, дамы і г. д.) на прадпрыёмствах адсутнічаюць.

Удзел гарсаветаў у справе здавальненьня культурна-бытавых патрэб рабочых паасобных прадпрыёмстваў не адчуваецца. Гэта тлумачыцца тым, што гарсаветы пры справаздачах не падкрэсьліваюць, досыць часта не выдзяляюць усяго, што зроблена ў адносінах да данага прадпрыёмства. Дэпутаты гарсавету з прадпрыёмства слаба папулярызуюць працу гарсавету. Маецца станоўчы прыклад на зав. „Дзьвігацель Рэвалюцыі“ (Гомель), калі з дэпутатаў гарсавету арганізавана выканаўчая камісія, якая прымае рознага роду скаргі і заявы ад рабочых па камунальнаму абслугоўваньню і паказаныя пытаньні імкнецца вырашаць праз прэзыдыум гарсавету. Гэты прыклад трэба распаўсюдзіць і на іншыя прадпрыёмствы.

* * *

Бязумоўна, што правядзеньне ў належнай меры ўсіх гэтых мерапрыёмстваў, так як нам-бы хацелася, вельмі часта немагчыма па аб'ектыўных умовах, за адсутнасьцю дастатковых сродкаў і інш. Аднак складаць усё на аб'ектыўныя ўмовы, як гэта часта можна чуць, таксама нельга. Трэба „спрацована“ ўзяцца заводзкаму трохкутніку праводзіць дырэктывы партыі і час ад часу правяраць, што яшчэ ня выканана і паклапаціцца правесьці у жыцьцё.

К. Элькінд Бірыла

# Вынікі масавай праверкі патаненьня апарату і чарговыя задачы

## 1. Арганізацыя праверкі і ўдзел у ёй мас

Праверка выкананьня дырэктывы партыі аб зьніжэньні адм. гаспадарчых выдаткаў, арганізаваная РСІ і сіламі прафсаюзаў заслугоўвае асаблівай увагі па-першае, як першы вопыт шырокага прыцягненьня рабочых і служачых да непасрэднага кантролю над ажыцьцяўленьнем аднэй з важнейшых дырэктыў партыі, вопыт, патрабуючы дасканальнага вывучэньня і падагуленьня, па-другое, па выніках праверкі ўся партыя павінна ведаць, як ідзе справа патаненьня кошту апарату, якія канкрэтныя вынікі вялікай маруднай, часам няпрыкметнай работы па ўрэзцы нявытворчых выдаткаў, зьядаемых дзяржаўным апаратам. Няпрыкметнай, бо першая стадыя работы, складаньне каштарысаў на 1927-28 г., якімі павінна быць прадуглежана зьніжэньне выдаткаў, праходзіла габінэтным шляхам, амаль без усякай увагі з боку рабочых і служачых, а часам і шырокай партыйнай масы. Дзесьці пры ВСНГ пасядала камісія, якая вытварала ўсялякія маніпуляцыі над каштарысамі прадпрыёмстваў і ўстаноў, рэзала, зрэзвала, дабаўляла, хтосьці спрачаўся, хтосьці лаяўся, некаму дабаўлялі, а каму і ўбаўлялі. І ўся гэтая вазяніна з каштарысамі заставалася справай вяршка адміністратараў-гаспадарнікаў пры амаль што поўным адсутнічаньні інтарэсу і ўвагі з боку прафсаюзаў і савецкай грамадзкасьці. Зразумела, што гэткае становішча не гарантавала ад шэрагу памылак. Не выказваючы ніякай ініцыятывы ў галіне рацыяналізацыі апарату адміністрацыйныя-гаспадарчыя кадры ў большасьці ня лічылі магчымым мэханічна скарачаць выдаткі бяз зьмен у сыстэме і мэтадах работы апарату. Вось чаму жалезная неабходнасьць патрабавала ўтварэньня грамадзкай увагі вакол гэтага пытаньня, каб вывесьці справу патаненьня апарату на шлях шырокага грамадзкага руху. Адсюль дырэктыва ІІ-га пленуму ЦКК УсеКП(б) і прызыў да ўсіх рабочых і служачых „узяць на сябе праз нізавыя органы прафсаюзаў (фабкомы, мясцкомы, вытворчыя і экан. камісіі) непасрэдны кантроль над фактычным ажыцьцяўленьнем дырэктывы аб 20% скарачэньні выдаткаў“. Як гэтыя арганізацыі справіліся з сваёй задачай? Якія дасягненьні і недахопы ў гэтай працы? Што перашкаджае ажыцьцяўленьню рабочага кантролю праз вытворчыя і эканамічныя камісіі?

Але раней некалькі слоў аб арганізацыі праверкі. Прэзыдыум ЦКК КП(б)Б яшчэ 15|ІІІ—вынес пастанову па пытаньні аб прыцягненьні мас да ўдзелу ў праверцы выкананьня дырэктыў. Пастановаю прадугледжвалася: склíканьне агульных сходаў рабочых і служачых з пастаноўкай на іх дакладаў аб значэньні 20%-га зьніжэньня і інфармацыі адміністрацыі аб канкрэтным выкананьні дырэктыў ва ўстанове

ці прадпрыёмстве. Было параджана, каб гэтыя сходы выносілі пастановы з даручэньнем вытворчай нарадзе ці экан. камісіі дасканала праверыць фактычныя выдаткі за 1 паўгода і далажыць наступнаму агульнаму сходу аб выніках праверкі. Уся праверка была разьмяркована паміж РСІ, дзярж. фінкантролем і грамадзкімі арганізацыямі, прычым на дзяржфінкантроль была ўскладзена задача праверкі ня менш 50% установ па дзяржаўным і мясцовым бюджэце. Для праверкі РСІ было вылучана 20 гаспадарчых адзінак (5 трэстаў, 7 прадпрыёмстваў, 2 банкі, 2 каапэрац. цэнтры і інш.). Па лініі ЦСПСБ былі дадзены ўказаньні аб удзеле нізавых прафорганаў, але ўжо з першых крокаў ВСНГ выказаў на гэты раз залішнюю ініцыятыву, разаслаўшы абежнік з прапановай утварыць адміністрацыйныя камісіі „з прыцягненьнем прафсаюзаў, калі яны гэтага хочуць ці бяз іх пры адсутнасьці жаданьня“. Зразумела, што гэтая дырэктыва павінна была ўнесьці блытаніну на мясцох, паколькі яна стварала небясьпеку падмены масавага кантролю бюрократычным кантролем з боку ствараемых зьверху адміністрацыйных камісій. ВСНГ пасланы ў дагонку другі абежнік з прапановай адміністрацыі аказаць садзейнічаньне вытворч. і экан. камісіям у іх кантрольных функцыях; ён павінен быў папravіць памылку першага абежніка ад якога ўсё-ж такі шкода засталася. Кампанія па растлумачэньню значаньня зьніжэньня выдаткаў і задач праверкі была праведзена наогул здавальняюча, у большасьці ўстаноў і прадпрыёмстваў былі праведзены агульныя сходы ці пашыраныя вытворчыя нарады з дакладамі адміністрацыі аб выкананьні зьніжэньня ў 1-м паўгодзе. Усё-ж некаторыя акругі (Магілёў) не паставілі належным чынам кампанію па растлумачэньню. Даклады ня былі падрыхтаваны, гаспадарнікі толькі мімаходзь закранулі выкананьне каштарысу, зьбіваючыся на агульныя даклады аб становішчы прадпрыёмстваў. У выніку і спрэчкі з пытаньня аб 20% скарачэньні зьбіваліся на інш. пытаньні, якія цікавілі рабочых. Так, напрыклад, на сходзе рабочых Шклоўскай папяровай ф-кі „Спартак“ 10/IV—дырэктар ф-кі дакладваў пераважна аб гаспадарчым становішчы фабрыкі, аб будаўніцтве і толькі ўспамянуў аб каштарысе агульна-заводзкіх выдаткаў. Выступаўшыя рабочыя гаварылі выключна аб недахопах будаўніцтва, а рэзалюцыя адзначае толькі: „Заводакіраўніцтвам была заслаба зьвернута ўвага на скарачэньне накладных выдаткаў, што ў выніку дало не памяншэньне, а іх павялічэньне“—і прапануе—„Вытворчай камісіі праверыць не пазьней мая правядзеньне ў жыцьцё зьніжэньня накладных выдаткаў“.

Аналёгічны малюнак з дакладамі адміністрацыі меў мейсца амаль па ўсіх прадпрыёмствах і ўстановах Магілёўскай акругі, дзе была праяўлена залішняя пасьпешнасьць з правядзеньнем справаздачнай кампаніі. У Гомелі акруговая РСІ аб'яднала праверку 20% зьніжэньня з кампаніяй па праверцы зьніжэньня сабекошту па некаторых прадпрыёмствах (Запалк. ф-ка „Вэзуві“, Добруская папяровая ф-ка), што таксама адсунула пытаньне аб зьніжэньні агульна-завадзкіх выдаткаў на другі плян. У выніку пастаўленага НКРСІ нагляду за ходам і пастаноўкай масавага кантролю было адначасова выяўлена, што экан. вытв. часов. кантрольныя і інш. камісіі ня прыступаюць да праверкі, што ячэйкі КП(б)Б. і прафсаюзы не зьвяртаюць увагі на бязьдзейнасьць камісій і ня выступаюць арганізатарамі масавага кантролю. Было выяўлена, што некаторыя ЦП Саюзаў (скуранікаў) зусім ня далі па гэтаму поваду ніякіх дырэктыў фабзаўкомам. Аказалася, што і некаторыя РСІ супакоіліся на справаздачнай кампаніі, не ўстанавіўшы нагляду над работаю камісій, якія вылучаны агульнымі сходамі для праверкі фактычных выдаткаў. Толькі ў выніку прынятых мер праз

друк (інтэрвью з старшынёю ЦКК) праз ЦСПСБ і ЦП Саюзаў шляхам пасылкі ў акругі работнікаў у канцы мая і пачатку чэрвеня ўдалося раскачаць нізавыя арганізацыі.

Ацэньваючы зараз вынікі праверкі і ўдзел у ёй мас, можна з упэўненасьцю сказаць, што ў асноўным заклік партыі знайшоў жывы водгук у цэлым шэрагу арганізацый, узмацніў грамадзкую ўвагу па справе зьніжэньня выдаткаў, стварыў значны зрух у рабоце экан. і вытворч. камісій, падвысіў непасрэдны іх ўдзел і садзейнічаньне гаспадарнікам у развязьваньні задачы па патаненьню апарату. Можна ўказаць шэраг прыкладаў правільнай пастаноўкі грамадзкага кантролю, калі праверачныя камісіі давялі аналіз усяго каштарысу ўстановы (прадпрыёмства), абмеркавалі артыкул за артыкулам і намецілі канкрэтныя меры да больш эканомнага і мэтазгоднага выдаткаваньня сродкаў. Гэткія камісіі не абмяжоўваліся фармальнымі праверкамі выкананьня дырэктывы партыі, яны сур'ёзна падыйшлі да кожнай капейкі, далі шэраг дзелавых парад адміністрацыі. Вось некалькі прыкладаў. Экан. камісія ВСНГ у сваёй пастанове паказвае адміністрацыі, што нельга сумы, якія вызначаны на рамонт памяшканьня, выдаткоўваць на чай, вугаль і інш. дробныя выдаткі, што нельга штучна павялічваць выдаткі на „ўтрыманьне памяшканьня" за лік трэсту і тым самым парушаць бюджэтную дысцыпліну. Тая-ж экан. камісія паказвае на нямэтазгоднасьць утрыманьня выезду, выпіскі „Вялікай Савецкай Энцыклёпэдыі", у той час, калі няма самае неабходнае літаратуры для спэцыялістых, аналізуе „камандыровачныя" і дае раду менш „кататься" ў Маскву і часьцей наведваць прадпрыёмствы, часам зусім адарваныя і ад ВСНГ і ад трэстаў. Экан. камісія Харчтрэсту зазначае на шэраг нямэтазгодных (і нават незаконных) выдаткаў, як выплата 200 р. супрацоўніку за ўкрадзенае ў дарозе пальто і інш. Экан. камісія Западтрэсту (Гомель) таксама захапілася кампаніяй; азнаёмілася з каштарысам, выдаткамі і вынесла пастановы аб зьніжэньні камандыровачных, паштова-тэлеграфн. і тэлефонных выдаткаў. Часовая кантрольная камісія дражджавога заводу „Чырвоная Зорка" таксама намеціла шэраг мер па зьніжэньню выдаткаў (скарачэньне завадзкога транспарту, падсобных майстэрняў, рацыянальнае скарыстоўваньне электраэнэргіі і г. д.).

Але, нажаль, пераважная частка нізавых прафорганаў работала слаба, падыходзіла часта да справы фармальна і ў рашэньнях сваіх не давала ніякіх канкрэтных указаньняў; значная частка усім гэтым пытаньнем не цікавілася ці абмяжоўвалася павярхоўным абгаварэньнем лічбаў, прадстаўленых адміністрацыяй, без усялякай праверкі правільнасьці; некаторыя камісіі ня ведалі, як прыступіць да праверкі. Заўважвалася неразуменьне нават сярод кіруючых прафработнікаў па прычыне нясур'ёзных адносін да справы.

Асноўныя прычыны слабасьці ў рабоце шэрагу праверачных камісій у недастатковай арганізацыі праверкі (няўзгодненасьць паміж ВСНГ і ЦСПСБ паміж АСПС і РСІ на мясцох) у адсутнасьці належнай дапамогі з боку ЦП Саюзаў у практычнай рабоце экан. і вытв. камісій. Лепш была справа з Саюзам Савгандльслужачых, які правёў амаль па ўсіх акругах інструкцыйныя нарады. Другія-ж ЦП абмежаваліся толькі рассылкай абежнікаў да і то ў некаторых выпадках з вялікім спазьненьнем (скуранікі).

Недарма рабочыя на сходах праф. актыву скардзіліся, што можна карак скруціць на гэтых лічбах, калі ня мець дапамогі пры іх аналізу. Нават тыя вытворчыя камісіі, якія ўнасілі дзельныя прапановы па палепшаньню вытворчасьці, заблітыліся пры аналізе каштарысаў,

ня ведалі, як раз блытацца ў хітрай мэханіцы падзяленьня выдаткаў на „залежныя“ і „незалежныя“, „агульна-завадзкія“ і „цэхавыя“, як зразумець ўсе астатнія мудраваньні бухгальтэрыі. Калі зазначыць яшчэ на адсутнасьць яснасьці ў намэнклятуры рахункаў, у парадку аднясеньняў выдаткаў на тэй ці іншы артыкул, агульную складанасьць і часам і заблытанасьць (асабліва ў мясцовай прамысловасьці) бухгальтэрыі, можна сабе ўявіць, з якімі цяжкасьцямі сустрэліся рабочыя пры спробе ажыцьцяўленьня кантролю. Зразумела, што служачым, членам экан. камісіі было лягчэй падыйсьці да лічбаў і даваць тлумачэньні. Адсюль выцякае асноўны ўрок з першага вопыту масавага кантролю, што ў справе прыцягненьня рабочых да кантролю за выдаткаваньнем грошай прафсаюзам мала разасланць хоць-бы і дзелавы абежнік, а трэба паклапаціцца наконт пастаноўкі жывога кіраваньня экан. работай сваіх нізавых арганізацый. Мы яшчэ далёка ад простага, яснага і таннага вучоту на прадпрыёмствах, далёка ад зусім яснага каштарысу, якія рабочыя могуць бяз цяжкасьці праверыць. Жывое кіраваньне вытв. і экан. камісій, асабліва першых, павінна быць пастаўлена, яго зараз няма. Праверка паказала слабую актыўнасьць фабзаўмясцкомаў у пастаноўцы пытаньня аб праверцы, заслабае прыцягненьне шырокіх мас да абгаварэньня вынікаў. Як відаць, ня ўсюды яшчэ ўбілі ў галаву, што каб маса магла лепш кіраваць вытворчасьцю, ёй неабходна добра разумець яе, а гэта мэта дасягаецца толькі тады, калі жыцьцё прадпрыёмства пераводзіцца на мову лічбаў, калі кожны рабочы ведае, з чаго складаецца сабекошт прадукцыі, якую долю ў іх займае сыравіна, рабочая сіла, выдаткі на апарат. Між тым некаторыя фабзаўмясцкомцы (завод „Дрэваапрацоўвачнік“, ф-ка Папертрэсту) не знайшлі часу для скліканьня агульнага сходу з пастаноўкай дакладу аб выкананьні каштарысаў, а абмежаваліся разглядам пытаньня толькі на вузкіх пасяджэньнях і нарадах, забыўшы пра неабходнасьць шырэйшае папулярызацыі дырэктывы партыі і ўраду. Каштарыс і яго выкананьне павінны быць вядомы кожнаму рабочаму і пераведзены на зразумелую для яго мову. У гэтым неабходна асаблівая настойнасьць з боку фабзаўмясцкомаў і дапамога з боку прафсаюзаў.

Трэці вывад заключаецца ў тым, што, ня гледзячы на неаднаразовыя заклікі, напамінаньні і ўказаньні, большая частка нізавых профорганаў не займаецца справай рацыяналізацыі апарату, абмяжоўваецца больш размовамі, чым справай. Мы ня можам назваць ні воднага фабкому ці вытворчай нарады, якія рашуча паставілі пытаньне аб спрашчэньні, прыкладна, рахункаводзтва на прадпрыёмстве, няма нават спробы прымяненьня новых мэтадаў, слаба таксама ініцыятыва ОРУ (аб'яднаньне работнікаў вучоту) у гэтай галіне. ЦСПСБ і ЦП Савгандльслужачых ўжо даўно пара паставіць гэтую справу на практычныя рэйкі. Тая абставіна, што паасобныя ячэйкі КП(б)Б (Добрушская папяровая фабрыка) цэнтр цяжкасьці грамадзкага кантролю перанесьлі на партсходы, а не на і агульныя сходы рабочых, паказвае, што з боку ячэек ня было правільнага разуменьня мэтадаў масавай праверкі. Наогул трэба сказаць, што райкомы ў большай частцы парт. ячэек справай не кіравалі.

Трэба таксама адзначыць, што рэвіз. камісіі пры ўстановах і каапэрацыі недастаткова прыцягваліся к рабоце, а па некаторых акругах іх работа зусім не адчуваецца. Сэкцыя РСІ пры гарсаветах прыцягнута толькі ў Бабруйскай акрузе, а ў большасьці нэпасрэднага ўдзелу ня прымала.

Усё-ж можна сказаць, што па рэспубліцы мала маецца ўстаноў і прадпрыёмстваў, якія б у тэй ці іншай ступені ня былі закрануты

кампаніяй. Органы РСІ, прафсаюзы і інш. грамадзкія арганізацыі, маючыя багаты вопыт, павінны яго добра скарыстаць для лепшай падрыхтоўкі арганізацыі і правядзеньня наступнай праверкі па сканчэньні бягучага гаспадарчага году.

## II. Вынікі праверкі факт. выдаткаў за I паўгода 1927/28 г.

*(Ход выкананьня дырэктывы аб 20% зьніжэньні)*

Ніжэйнаступная зводная табліца дае нам малюнак выкананьня дырэктывы аб 20% зьніжэньні па паасобных тыпавых аб'ектах:

| | % па каштарысам | % факт. зьніжэньня |
|---|---|---|
| Дзяржбюджэтныя ўстановы | 24 | 22 |
| Прадастаўн. сындыкатаў | 32,7 | 30,9 |
| Сельска-гасп. каапэрацыя | 17,3 | 10,1 |
| Белкаапсаюз з адзяленьнямі | 12,5 | 4,0 |
| Райспаж. саюз | — | 9,9 |
| 443 спажыв. таварыствы | — | 6.1 |
| Дзяржбанк з філіяламі | 9,8 | 7,2 |
| Заходн. чыг. | 23,0 | 11,0 |
| 9 трэстаў ВСНГБ | 24,5 | 18,2 |
| Прадпрыёмствы ВСНГ | 18,4 | 5,4 |
| Мясцовая прамысловасьць | 14,2 | 9,5 |
| Дзяржстрах | 20,9 | 19,9 |

Найбольш добрае становішча са зьніжэньнем адмін.-кіраўн. выдаткаў па сетцы прадстаўніцтваў сындыкатаў (31%) па дзяржбюджэтных установах—22%, па апаратах трэстаў—18%, затым па сельскагасп. і спажывецкай каапэрацыі. На апошнім месцы стаяць: банкі, мясцовая і дзяржаўная прамысловасьць з яе агульна завадзкімі выдаткамі.

Аднак, трэба зазначыць, што ў пэўнай частцы прадпрыёмстваў агульназавадзкія выдаткі не адмяжованы належным чынам ад цэхавых, даўшых значны рост, у сувязі з ростам вытворчасьці, абсталяваньнем новых цэхаў, пашырэньнем ранейшых. Па тых-жа трэстах, дзе агульназавадзкія выдаткі выдзелены даволі правільна (прадпрыёмствы Папертрэсту), мы маем зьніжэньне да 20%.

Маючыяся нязначныя зьніжэньні па спажывецк. каапэрацыі залежалі часткова ад большага росту яе зваротаў (у БК Саюзе, напрыклад, на 87%, у сувязі з чым паменшыліся %% адносіны адмін.-кіраўнічых выдаткаў к звароту па ўсіх звеньнях спажывецк. сыстэмы, не перавышаючай цяпер норм С. П. А. у шэрагу арганізацый.

Недастатковае зьніжэньне па Дзяржбанку тлумачыцца пераходам да яго часткі апэрацый ліквідаванага Прамбанку.

Трэба чакаць, што ў 2-ім паўгодзе зьніжэньне будзе дасягнута ў большым разьмеры ў сувязі з сэзонасьцю 1 паўгоду, па першае, для

гандлёвага апарату, які ў гэту зіму перажыў цяжкасьці з загатоўкамі, выклікаўшымі ўзмоцненыя выдаткі, па другое, для некаторых выдаткаў, як апал, асьвятленьне, загатоўка канц. прыладаў. Акрамя таго значная частка прадпрыёмстваў і гандлёвых арганізацый прыступіла да зьніжэньня выдаткаў з некаторым спазьненьнем, у сувязі і з атрыманьнем разгляду каштарысаў. Але-ж па выніках I паўгоду апошні пленум ЦКК КП(б)Б (13—17/VII 28 г.) прызнаў некаторыя вучасткі (прадпрыёмствы) пагражаючымі ў адносінах выкананьня дырэктывы аб зьніжэньні.

За кошт якіх артыкулаў праходзіла зьніжэньне? Прычыны адступленьня ад каштарысаў?

Адносна дзяржбюджэтных установаў—даныя аб тым, за кошт якіх артыкулаў праведзена зьніжэньне, былі прадстаўлены дзяржфінкантролем пасьля зацьверджаньня каштарысаў і затым тут не падаюцца.

Па каапэрацыйнай сетцы зьніжэньне адбывалася пераважна па зарплаце адмін.-кіраўн. пэрсаналу і розных выдаткаў (зьезды і нарады, рэклямы і публікацыі, легкавы транспарт і г. д.). Аналёгічна праходзіла зьніжэньне па банках. Па апаратах трэстаў зьніжэньне адбывалася, галоўным чынам, па накладных выдатках на зарплату, рэклямах і публікацыях, часткова па зарплаце, канц. выдатках і ўтрыманьні памяшканьняў. Па агульназавадзкіх выдатках за кошт накладных выдаткаў на рабсілу, зарплаты, камандыровачных, канцэл. і друкарскіх выдаткаў і фонду прастояў. Усюды адзначаецца значнае зьніжэньне выдаткаў на публікацыі і рэклямы, зьезды і нарады, накладных выдаткаў на зарплату.

Амаль усюды далі перавышэньне паштова-тэл. і тэлеф. выдаткі па агульназавадзкіх акрамя таго бягучы рамонт і некаторыя разьдзелы артыкулу „Утрыманьне аховы памяшканьняў“ (Прам. міліцыя), па гандлёваму-ж апарату, часткова па апаратах некаторых трэстаў, вырасьлі выдаткі на камандыроўкі.

Асноўнымі прычынамі замалога зьніжэньня за 1-га паўгода трэба лічыць: 1) спазьненьне з правядзеньнем зьніжэньня, з прычыны позьняга зацьверджаньня каштарысаў; 2) адсутнасьць каштарыснай дысцыпліны; 3) слабасьць кантролю над выкананьнем каштарысаў на працягу паўгода. Перавышэньне ці недастатковае зьніжэньне паштова-тэлегр. выдаткаў тлумачыцца, акрамя таго, яшчэ і цяжкасьцямі з загатоўкамі, а для некаторых трэстаў (Харчтрэст) і з рэалізацыяй. Гэта садзейнічала таксама і пры падвышэньні камандыровачных выдаткаў на гандлёвы апарат; акрамя таго, дадатковы выдатак на камандыроўкі па трэстах выклікаўся будаўніцтвам (выезды на мейсцы і ў Маскву для ўзгадненьня праэктаў). Адыгралі сваю ролю таксама бясплянавасьць камандыровак, неапраўдваемыя затрымкі камандыруемых у Маскве.

Перавышэньне ці недастатковае зьніжэньне выдаткаў на бягучы рамонт па прадпрыёмствах тлумачыцца неналаджанасьцю рамонтных работ, з чым зьвязваецца і даражыня іх.

Адхіленьні ад каштарысаў залежалі таксама ад слабое прапрацованасьці апошніх, асабліва каштарысаў агульна-завадзкіх выдаткаў, з прычыны чаго мела мейсца з боку трэстаў і ВСНГБ часам мэханічнае зрэзваньне асыгнаваньняў там, дзе цяжка дабіцца зьніжэньня, пры наліччы, наадварот, вялікіх асыгнаваньняў там, дзе пасьля аказваецца эканомія. Асабліва кепска былі складзены каштарысы па прадпрыёмствах Мэталётрэсту. Мелі мейсца таксама і грубыя памылкі пры складаньні каштарысаў, так, напрыклад, у Белкаапсаюзе, дзе няправільна ўлічылі выдаткі мінулага году. Выпадкі няправільнага аднясеньня

адмін.-кіраўн. выдаткаў да апэрацыйных, агульназавадзкіх—да цэхавых, залежных—да незалежных і т. п.

Разасланая на мейсцы намэнклятура адмін.-гандлёвых і агульназавадзкіх выдаткаў унесла некаторую яснасьць ў разьдзяленьне выдаткаў у аднясеньне іх да тых ці іншых артыкулаў. Аднак, у большасьці выпадкаў арганізацыі давалі зьвесткі па тэй намэнклятуры, якая да гэтага часу была прынята ў іх.

Горш за ўсё становішча з агульназавадзкімі выдаткамі, дзе няма сталай інструкцыі аб разьмежаваньні агульназавадзкіх і цэхавых выдаткаў, аб парадку аднясеньня паасобных выдаткаў да тых ці іншых артыкулаў. Разнабой у інструкцыях па бухгальтарскім вучоце вельмі затрудняў кантроль і магчымасьць сапастаўленьня выдаткаў, не дазваляючы рабіць якія-небудзь арганізацыйныя вывады, паколькі ўсе такія адступленьні бухгальтарскі абгрунтоўваліся і насілі нявінны характар.

Мерапрыёмствы, неабходныя для больш поўнага выкананьня дырэктывы аб 20% зьніжэньні і магчымасьці далейшага скарачэньня выдаткаў.

Магчымасьці скарачэньня выдаткаў на апарат дзярж. і мясцов. бюджэту, амаль вычарпаны. Рацыяналізатарскія мерапрыёмствы ў адносінах іх зводзяцца да далейшага перагляду іх функцый, больш строгаму правядзеньню функцыянальнай сыстэмы, некатораму скарачэньню канцылярскага апарату, да спрашчэньня вучоту і справаздачнасьці і мэханізацыі работ у такіх установах, як стат. органы. Усё гэта не пазбаўляе неабходнасьці ў больш эканомным выдаткаваньні сродкаў на камандыроўкі і на транспарт.

Таксама пытаньне аб скарачэньні гандлёвага апарату цалкам ўпіраецца ў спрашчэньне тавараправодзячай сеткі і разьвіцьцё гандлёвай тэхнікі. Паколькі звароты і па каапэратыўных і па дзярж. гандлёвых арганізацыях паказваюць значны рост, пастолькі стаіць пытаньне ня гэтак аб скарачэньні апарату, колькі аб стабілізацыі яго ва ўмовах павялічэньня нагрузкі, што патрабуе далейшага скарыстоўваньня ўсіх удасканаленьняў гандлёвай тэхнікі. У прыватнасьці ставіцца пытаньне аб далейшым перараскладаньні функцый прадстаўніцтва сындыкатаў на мясцовыя таргі і каапэрацыю і аб цэнтралізацыі складзкой гаспадаркі (канкрэтна ў БССР НКРСІ ўжо паставіў пытаньне аб перадачы функцый Мэталёскладу Белпайгандлю).

Праверка паказала, што трэсты могуць укласьціся ў каштарысы, вызначаныя ім на гэты год і што на наступны год патрэбы ў павялічэньні іх выдаткаў няма. У далейшым маецца магчымасьць пры стабілізацыі інжынэрна-тэхнічнага складу некалькі скараціць камэрцыйны апарат трэстаў, не забываючы, што функцыі рэалізацыі іх прадукцыі, часта функцыі снабжэньня, бяруць на сабе ўсё ў большай меры Сындыкаты. Камэрцыйным і рахункаводным апаратам вычэрпваюцца магчымасьці зьніжэньня выдаткаў на зарплату па трэстах, застаецца дамагчыся яшчэ памяншэньня камандыровачных, канц. і п/т. выдаткаў. Тут значную ролю павінна адыграць выканьне загаду ВСНГ аб наданьні большае самастойнасьці прадпрыёмствам.

Магчымасьці зьніжэньня агульназавадзкіх выдаткаў ня вычарпаны, асабліва па буйных прадпрыёмствах. Тут таксама стаіць пытаньне аб спрашчэньні сыстэмы і форм вучоту і справаздачнасьці, аб адпаведнай сьціслаcьці рахункаводнага апарату, аб наданьні прадпрыёмствам больш самастойнасьці у мэтах памяншэньня перапіскі з трэстамі, аб далейшым зьмяншэньні камандыровачных, паштова-тэлегр. і т. н. розных выдаткаў. У мэтах палепшаньня кантролю за агульна-

завадзкімі выдаткамі неабходна, каб ВСНГ СССР сумесна з НКРСІ выдаў Інструкцыю аб парадку аднясеньня выдаткаў к агульна-завадзкім і цэхавым, і выпрацаваў спрошчаную адзіную намэнклятуру.

З агульных пытаньняў, якія датычацца ўсяго апарату ў цэлым, выдзяляюцца пытаньні спрашчэньня рахункаводнага апарату, памен-шаньня выдаткаў камандыровачных, п/т.

Магчымасьці скарачэньня выдаткаў на рахункаводна-бухгальтарскі апарат зьвязваюцца з пераходам на формы картачна-капіравальнага вучоту (капірвучот), які да гэтага часу ўведзен толькі ў адзіночных установах.

Натуральнае імкненьне гаспадарнікаў захаваць пры скарачэньні найбольш кваліфікаваных работнікаў бухгальтэрыі прывяло к таму, што ў шэрагу ўстаноў і прадпрыёмстваў рахункаводны апарат складаецца пераважна з бухгальтароў, пры невялікай колькасьці, часам нават адсутнасьці рахункаводаў. А тым часам маецца лішка кваліфікаванага бухгальтарскага пэрсаналу (Галоўбухі, нам. галоўбухаў, старш. бухгальтары), са спэцстаўкамі (ад 200 да 300 р.), гэтая абставіна ставіць пытаньне аб скарачэньні (прыкладна, да 2-х чалавек) колькасьці бухгальтароў, якія атрымоўваюць спэцстаўкі, аб устанаўленьні адпаведна падзяленьню працы нейкай прапорцыі між колькасьцю бухгальтароў і рахункаводаў. Стракатасьць у стаўках працаўнікоў рахунковага (часткаю і канц.) апарату па розных гаспадарчых арганізацыях высоўвае пытаньне аб прывядзеньні цьвёрдых пасадавых ставак, г. зн. аб дзяржнармаваньні апошніх. Гэтае мерапрыёмства пажадана правесьці ў Саюзным маштабе, паколькі больш-ці менш значная розьніца, асабліва ў аплаце спэцыялістых, між рэспублікамі і валасьцямі, можа прывесьці да міграцыі апошніх у мясцовасьці з больш высокай аплатай.

У мэтах зьніжэньня камандыровачных выдаткаў неабходна: 1) асоб з разьезднай работай (інспэктары, рэвізоры і г, д.) перавесьці на цьвёрдыя стаўкі без аплаты сутачных і з аплатай толькі фактычных шляхавых выдаткаў; 2) устанавіць большую плянавасьць у камандыроўках і строга праводзіць правілы па кантролю за работай камандыруемых (візы кароткія справаздачы); 3) устанавіць адказнасьць цэнтральных устаноў (Масква, Менск) аб нямэтазгодную затрымку камандыруемых з месц па выкліку з цэнтру.

З тэю-ж мэтаю па паштова-тэлегр. выдатках неабходна: 1) паскорыць увядзеньне ходу, дзе тэлегр. выдаткі займаюць вялікае мейсца; 2) устанавіць адказнасьць паасобных асоб за ход выдаткаваньня сродкаў па прызначэньні.

Па скарачэньню выдаткаў з пераводам грошай фэльдсувязьзю (у мясцох,- дзе няма банкаў), неабходна, каб гаспадарчыя органы сталі на шлях прыватных згод з каапэрацыяй, якая перасылае грошы ў зваротным напрамку.

Улічваючы значэньне прыцягненьня да адказнасьці асоб, якія вінаваты ў пасыўных адносінах да выкананьня дырэктывы аб зьніжэньні, НКРСІ і Акр. РСІ ўжо вынесьлі шэраг вымоў і інш. спагнаньняў некаторым гаспадарнікам (Харчтрэст, Запалк. фабрыка „Вэзуві“ і інш.).

Нарэшце, у адносінах да ўсіх прадпрыёмстваў і ўстаноў ставіцца пытаньне аб устанаўленьні адказнасьці за ход выкананьня каштарысу і на галоўных бухгальтароў. Рашаючае значэньне мае ўзмацненьне рацыяналізатарскіх ячэек (ТНБ) і работы ў мясцовых грамадзкіх арганізацыях (Эканом. вытворчыя і кантр. камісіі) па ўздыму самадзей-

насьці рабочых і служачых вакол справы патаненьня апарату, па кантролю за выкананьнем дырэктывы аб максымальным зьмяншэньні адмін. кіраўн. выдаткаў.

Ва ўмовах, калі робіцца немагчымым правядзеньне мэханічнага зрэзваньня каштарысаў і штатаў, калі далейшае зьніжэньне шчыльна зьвязваецца з рацыяналізацыяй, якая патрабуе дэталёвага вывучэньня работы ўстаноў ці прадпрыёмстваў, задачай органаў РСІ зьяўляецца ўстанаўленьне яшчэ больш шчыльнай сувязі з мясцовымі і рацыяналізатарскімі ячэйкамі і з ўсёй масай рабочых і служачых—для таго, каб праводзіць свае мерапрыёмствы, апіраючыся на вопыт і думку рацыяналізатарскіх ячэек, грамадзкіх арганізацый і ўсяе масы рабочых і служачых.

---

# НАША ТРЫБУНА

А. Лук'янчык

## Увага калгаснаму будаўніцтву

*(Да вынікаў 2 зьезду калгасаў Менскае акругі)*

Галоўным пытаньнем на зьезьдзе была праверка, як да практычнай працы калектыўнага будаўніцтва, прыстасаваны пастановы XV партыйнага зьезду і ЦК КП(б)Б.

Дэлегаты зьезду ў ліку 105 чалавек, якія прадстаўлялі сабою 126 калгасаў з насельніцтвам 3.439 чалавек, усе адзначылі, што калектыўны рух стаў сапраўдна масавым рухам батрацкай і бядняцка-серадняцкай часткі сялянства, з яскрава выражаным клясавым характарам барацьбы, супроць кулака за новае і лепшае жыцьцё батрака, бедняка і серадняка праз калгасы. Зьезд адзначыў, што толькі калектыўная вытворчасьць вызваляе іх ад эксплёатацыі і залежнасьці ад кулацтва.

Погляд будаўнікоў калектывізму сьведчыць, што пастанова XV партыйнага зьезду ўнесла сьвежы струмень ў пашырэньне калектыўнага будаўніцтва, узмацніла іх эканамічнае і гаспадарчае становішча, і павялічыла аўтарытэт калгасаў на вачох вакольнічага сялянства.

Дынаміка росту калектыўнага руху на Меншчыне з 1921 г. наступная:

| Год | Камуны | Арцеляў | Т-в на агул. апрацоўцы зямлі | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| 1921 | 5 | 3 | — | 8 |
| 1922 | 1 | 4 | — | 13 |
| 1923 | 1 | — | — | 14 |
| 1924 | 1 | 7 | — | 22 |
| 1925 | 3 | 20 | 1 | 45 |
| 1926 | 1 | 1 | — | 47 |
| 1927 | — | 1 | — | 48 |
| 1928 на 1/II | 1 | 67 | 9 | — |
| Усяго . . | 13 | 103 | 10 | 126 |

Агульная плошча зямлі пад калгасамі да 8000 гэктараў. Як паказвае вышэйшая табліца, дык лік калгасаў узрастае на 142,5% у 1928 г.

Гэта тлумачыцца тым, што 27-28 год мае каранны пералом у кіраваньні з боку партыі і савецкіх органаў.

Адзначаючы колькасны ўзрост калгасаў, як здавальняючы, неабходна спыніць увагу на якасьці ўзросту. У гэтым мы маем значныя недахопы і наш плян арганізацыі новых калгасаў, па іх плошчы і насельніцтву выкананы толькі на 65%; маюцца калгасы дробныя, як па плошчы (да 15 гэк.), так і па насельніцтву (3 сям'і).

Гэтыя недахопы сьведчаць, што з боку райкомаў КПБ, і асабліва сельскіх і саўгаскіх ячэек партыі, ня ўсё зроблена. Заслаба прыцягнуты да арганізацыі калгасаў грамадзянскія і савецкія органы, а ў значнай частцы і самі ячэйкі ня прымаюць удзелу ў арганізацыі, з другога боку мала зьвяртаюць увагі на якасьць, а гоняцца за колькасьцю.

Насельніцтва калгасаў па яго сацыяльнаму складу, больш менш здавальняючае: батракоў і беднякоў 74,9%, сераднякоў 16,5% і заможных 8,6%. Па пісьменнасьці: толькі 40% пісьменных. Па партыйнасьці, па няпоўных зьвестках, маецца членаў і кандыдатаў прыблізна 3% і 2,7% камсамольцаў.

Адзначаныя зьвесткі асабліва павінны зьвярнуць увагу партыі і кіруючых органаў на ўзмацненьне гэтай працы. Райкому партыі і камсамолу трэба прыблізіць сваю працу да калгасу, трэба павялічыць процант партыйцаў і камсамолу за лік насельніцтва калгасаў. У кожным калгасе неабходна з'арганізаваць ячэйку, або кандыдацкую групу. Калгас павінен стаць сапраўды палітычным асяродзьдзем вёскі.

Нацыянальны рух калгаснага будаўніцтва з кожным годам пашыраецца. На 1/VI 28 г. з'арганізавана: яўрэйскіх—49, польскіх—4,—42% агульнага ліку калгасаў.

Пражыткі мінулага, калі яўрэя да зямлі не дапушчалі, калі ён быў у загоне, і прымушаны быў падтрымліваць сваё жыцьцё гандлярствам, складае асабліва цяжкія ўмовы для разьвіцьця калгаснага руху сярод нацыянальных меншасьцяў. Разам з гэтым трэба сказаць, што не заўсёды пры арганізацыі нацыянальнага калгасу, мясцовыя органы ставяць і разглядаюць усебакова пытаньне, каб падаць належную дапамогу і матар'яльна і маральна. Пры адсутнасьці такога падыходу, мы маем шмат выпадкаў, калі яўрэйскія калгасы хутка развальваюцца частка з іх пачынае адыходзіць ад сельскае гаспадаркі, а частка прымаецца і за гандлярства. Усё гэта спрыяе ўтварэньню нездаровых адносін да яўрэйскіх калгасаў з боку ваколічнага насельніцтва, складае няўпэўненасьць у некаторай частцы калгасаў, якія шчыра ўзяліся за пабудову калгасу ўласнай працай.

Заўважаныя недахопы неабходна зьнішчыць, у першую-ж чаргу трэба ўзмацніць нацыянальны рух калгаснага будаўніцтва, больш адказнасьці за гэтую работу ўскласьці на сельскія ячэйкі і с.-саветы.

Дзяржаўнаму выдавецтву і калгассэкцыі прапрацаваць парадак выданьня папулярнай літаратуры па калгаснаму будаўніцтву, выданьне статуту на нацыянальных мовах. Разам з гэтым калгассэкцыі трэба прапрацаваць пытаньне, як павінна весьціся рахункаводзтва ў нацыянальных калгасах.

Плянавае заданьне арганізацыі новых калгасаў, як паказана ўжо вышэй, хоць і з недахопамі, але праходзіць здавальняюча. З агульнага ліку 77 новаарганізаваных калгасаў упяршыню ў гэтым годзе з'арганізавана 27 калгасаў на працоўнай сялянскай зямлі.

Між іншым, пытаньне аб арганізацыі калгасаў на зямлі працоўнага сялянскага карыстаньня, партыйныя і савецкія органы на месцы, ня ўсюды абмеркавалі, не папулярызавалі сярод сялянства. Зараз, калі падышлі да ўзбуйненьня калгасаў, калі зямля дзяржфонду ўжо ў боль-

шасьці вычарпана—пытаньне аб прыцягненьні зямлі працоўнага карыстаньня, пад калгасы павінна стаць перад сельскай ячэйкай і раёнам аднэй з галоўных задач.

Эканамічны ўзрост калгасаў відавочна паляпшаецца. Асноўныя капіталы павялічаны супроць 26-27 гасп. году на 16,9%, а валавы прыбытак дасягае 665.506 руб. ці павялічэньня на 15,8%. Павялічылася і цягавая сіла. Каштоўнасьць машын і прыладаў складае ў агульным ліку 63.086 руб., у сярэднім 19,8 руб. на гэктар, супроць паасобных сялянскіх гаспадарак—17,4 руб. на гэктар. Гэта сьведчыць аб ужываньні больш складаных машын у калгасах. Прадукцыйнай рагатай жывёлы налічваецца 2798 галоў, галоўным чынам з мяйсцовае палепшанае пароды. Удой дасягае 1.280 кілёграм на карову ў год. Прыбытак ад жывёлагадоўлі дае толькі 20%, у той час як ад паляводзтва атрымоўваецца 50%. Трэба сказаць, што галоўная крыніца прыбытку: жывёлагадоўля і тэхнічныя прадпрыёмствы не займаюць адпаведнага месца ў агульным прыбытку калгасаў. У гаспадарчых і вытворчых плянах калгасаў, а таксама ў плянах кіруючых органаў, гэтая галіна гаспадаркі асабліва павінна быць узмоцнена.

Таварнасьць і рыначныя звароты калгасаў павялічваюцца і дасягаюць па продажу сельска-гаспадарчай прадукцыі 26,1%, а па закупцы розных сельска-гаспадарчых машын і тавараў 17,2% да валавой прадукцыі. Узрост таварнасьці калгасаў і рыначныя звароты, далёка недастатковы і нездавальняюць правідловага разьвіцьця гаспадаркі. Ураджайнасьць калгасаў штогод павялічваецца і ўжо па значнай частцы калгасаў і па асобных культурах перавышае сялянскія; напрыклад: жыта 110 пуд. з дзесяціны, ячмень 90 пуд., бульба 1000 п. Мінулы 26-27 гасп. год калгасы скончылі з прыбыткам за выключэньнем толькі 7 гаспадарак.

Задаваленьне крэдытамі калгасаў значна пашырылася. У 27—28 гасп. годзе выдана ўжо крэдытаў на суму 193.500 руб. Мінулы пэрыяд калектыўнага будаўніцтва больш-менш выяўляе дасягненьні, недахопы і практычны вопыт як у далейшым весьці працу.

Зьезд адзначыў, што калектыўнае будаўніцтва ня ўсюды працякала ў належных умовах, не заўсёды калектыўны рух сваечасова адтрымліваў дапамогу з боку партыйных, савецкіх, каапэратыўных і грамадзянскіх мяйсцовых устаноў. У паасобных выпадках маюцца такія факты, калі РВК, каб павялічыць свой бюджэт, парушаюць дырэктывы партыі і ўлады і замест дапамогі калгасам інагды шкодзіць. Вось прыклад: будынкі дзяржаўнай маемасьці на тэрыторыі калгасу не перадаюць калгасам, а прадаюць; сенажаці і поле, прылягаючае да калгасу, не перадаюць апошняму, а здаюць у арэнду. Маюцца і такія выпадкі, калі РВК забірае лесаматарыял падрыхтованы калгасам з лесу свае ўсадзьбы.

Частка недахопаў, якія падкрэсьлены, ўжо праходзяць на вачох райкомаў КП(б)Б. Апошнія лічаць звычайным і ня спыняюць неправідловых адносін РВК да калгасаў. Усё гэта затрымлівае эканамічны ўзрост калгасаў. Арганізацыйна-вытворчае і агранамічнае кіраваньне калгасамі з боку зямельных органаў і раённай аграноміі зьяўляецца недастатковым, а ў значнай частцы зусім адсутнічае.

Сацыялістычны сэктар у вёсцы—калгас—саўгас, павінен быць першым барацьбітом за ўзмацненьне сельска-гаспадарчай каапэрацыі, за поўнае здаваленьне сел.-гас. таварамі калгасу выключна праз сел.-гас. каапэрацыю, з другога боку збыт усёй с.-г. прадукцыі калгасаў

павіненісьці выключна праз сел.-гас. каапэрацыю. На практыцы мы гэтага не наглядаем.

Па маючыхся зьвестках, калгасамі прадана сельска-гаспадарчай прадукцыі на 97742 руб., з гэтай сумы праз прыватны рынак прадана тавараў 40%. У той жа час куплена сельска-гаспадарчых машын і тавараў на 54.670 руб.; таксама праз прыватны рынак 35,5%. Палітыка партыі і савецкай улады па барацьбе з прыватнікамі, калгасамі ня выканана. Партыйным органам і Белсельсаюзу неабходна паставіць так справу, каб калгасы парвалі ўсякую сувязь з прыватным рынкам; трэба, каб райкомы партыі папярэдня прасачылі, як калгасы забясьпечваюць збыт сваіх сельска-гаспадарчых тавараў, а таксама іх плян, што яны купляюць і адкуль.

Палітычна-грамадзкая і культурная работа калгасаў пакуль што ў самым загоне, як з боку самых калгасаў, так і з боку кіруючых органаў. Органы Наркамасьветы ў культурнае жыцьцё насельніцтва калгасаў не заглядваюць, спадзяюцца на савет, які за свае сродкі зробіць усё, а савет ціха маўчыць, чакае, пакуль „дабраміласьцівы" інспэктар загляне ў калгас і пакажа, як заснаваць культработу.

Клюбаў і чырвоных куткоў у калгасах маецца 16, хат-чытален 3, бібліатэк 10, пры якіх з'арганізавана 8 гурткоў. Бязумоўна колькасьць культустаноў зусім малая і больш як 50% калгасаў зусім ня маюць іх. Адносна выпіскі газэт, бібліятэк і выданьня насьценных газэт, тут зусім дрэнна. Значная колькасьць калгасаў ня мае ніводнай газэты. Бібліятэкі не адпавядаюць свайму назначэньню як па характару кніг, так і па колькаснаму складу (ёсьць бібліятэкі з 5 кніг— Лагойскі раён).

Часамі рэлігійны дурман душыць калгасы, пакідае свой адбітак на вытворчасьці. У сацыялістычным сэктары калгасаў расьце моладзь часам з ног да галавы зьвязаная рэлігійным путам. У паасобных выпадках, у яўрэйскіх калгасах можна сустрэцца і з такім зьявішчам, калі ўдзень рэлігійнага сьвята не бяруцца за працу і бывае нават што даглядзець жывёлы няма каму. Маюцца і камсамольцы, якія пад уплывам рэлігійных бацькоў у суботу баяцца сесьці нават на воз.

Культурную работу трэба паставіць так, каб адзін на аднаго не спадзяваліся, а кожны, што да яго тычыцца, павінен рабіць. Неабходна па лініі Наркамасьветы і Агітпропа ў сваёй кіруючай рабоце ўзяць у рукі калгас; заснаваць культурныя ўстановы: клюбы, чырвоны куток, хату-чытальню, бібліятэку, школы няпісьменнасьці і іншае; забясьпечыць за лік палітпрасьвету бібліятэкамі, на агульнай падставе; калгас-сэкцыі распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы ў часьці разьвіцьця самадзейнасьці большага і абавязковага пералічэньня проценту ад прыбыткаў на культработу; прыступіць к радыёфікацыі калгасаў, і падумаць, дзе можна прыстасаваць кіно-перасоўку. Наогул культработу пабудаваць так, каб калгас зьяўляўся сапраўдным перадавіком калектыўнага руху і новага жыцьця вёскі. Камсамолу неабходна пабудаваць сваю работу так, каб ні воднага калгасу не засталося без камсамольскай ячэйкі ці піянэр-атраду. Ува ўсёй культурнай рабоце ўзяць ухіл на анты-рэлігійную прапаганду.

Арганізацыя працы і форма яе аплаты ў калгасах, пакуль што ня маюць яснасьці, па прычыне чаго часта сьціраецца клясавая лінія. І нарэшце, справа даходзіць да таго, што блізка 5% калгасаў ўжо фактычна зьяўляюцца не калгасамі, а нейкімі таварыствамі, у якіх амаль поўнасьцю ўжываецца наёмная праца—батракі ня толькі ў часе гарачае пары, а на сэзон, на год. Нават маюцца выпадкі калі паасобны член арцелі мае батрачку на цэлы год. Ставіцца пытаньне: якая-ж розь-

ніца паміж такім членам арцелі і кулаком? Здаецца, ніякай. Вось на што павінны зьвярнуць увагу мясцовыя парторганы.—На сацыялістычны адбітак жыцьця калгасу, а не на яго шыльду.

Прызнаючы неабходным арганізацыі працы ў калгасах такім парадкам, каб усе галіны гаспадаркі абрабляліся членамі і насельніцтвам калгасаў і канчаткова было-б зьнішчана ўжываньне найму батракоў, батрачак і пастухоў, за выключэньне кваліфікаванай сілы, якое калгас ня мае, штодзённых рабочых у гарачую пару, трэба павесьці зараз-жа адпаведную работу. У зьвязку з гэтым павінна аплата працы праводзіцца па колькасьці і якасьці затрачанае працы; гэта будзе спрыяць павялічэньню жанчын і моладзі ў складзе членаў калгасу, якія да апошняга часу ў сваёй большасьці зьяўляюцца батракамі, а ня членамі.

Павялічэньне аплаты працы ёсьць стымул да ўздыму вытворчасьці. Але пры вызначэньні гэтае зарплаты трэба заўсёды мець на ўвазе ў першую чаргу запазычанасьць і павялічэньне асноўнага непадзельнага капіталу. Неабходна ўзяць курс на большае ўцягненьне батракоў і беднаты ў калгасы. Для гэтага трэба ўстанавіць такі разьмер паю, які даваў-бы магчымасьць уступіць бедняку, аднак з тэй умоваю, каб можна было адразу пачаць гаспадарыць. Батрацтву і моладзі, якія нічога ня маюць, трэба даваць рассрочку. Пай і ўзносы павінны выключна ўносіцца ад працаздольнага члена з узросту ад 16 гадоў. Усе іншыя формы ўнясеньня паёў неабходна адхіліць. Пры гэтым ня трэба забываць аб павялічэньні непадзельнага капіталу, які штогод павінен складацца з адлічэньня ад чыстага прыбытку ў памеры прыкладна: 10—25% і заставацца маемасьцю калгасу. Такое вырашэньне пытаньня зацікавіць насельніцтва калгасу спыніць цякучасьць у складзе, стварыць добрыя ўмовы для прыёму ў калгасы батрацтва і беднаты.

Падрыхтоўка кіраўнікоў калгасаў абавязкова павінна быць узмоцнена ў такім напрамку, каб у 1929 годзе кожны калгас прапусьціў праз курсы ня менш 2 чал.

Пры падрыхтоўцы кіраўнікоў асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на яўрэйскія калгасы і на падрыхтоўку жанчын, якія ў большасьці заціраюцца, якія ня маюць яшчэ ні дзіцячых пляцовак ні ясьляў, работа якіх ня вывучана, якімі не пацікавіўся ў сваёй рабоце Жанаддзел.

Падкрэсьліваючы шэраг момантаў запраўднага становішча калгасаў сягоньняшняга дню ў калектыўным будаўніцтве, неабходна пад ухілам здаровае самакрытыкі, зацікаўленым органам і членам калгасаў прыступіць да зьнішчэньня адпаведных недахопаў, павесьці барацьбу з скрыўленьнямі лініі ў калектыўным руху і замкненасьцю калгасаў. Павялічыць самадзейнасьць насельніцтва калгасаў, уліць яе ў грамадзянскае жыцьцё вёскі. „Калгасы перавярнуць на справе ва ўзорныя, буйныя гаспадаркі сацыялістычнага тыпу, пры аднačасовым павялічэньні з боку калгасаў агранамічнае дапамогі сялянскім, бядняцкім і серадняцкім гаспадаркам". Так сказаў XV партзьезд і гэта трэба выканаць. І толькі пасьля гэтага мы можам калектывізаваць усю вёску, толькі ясна і правільна паставіўшы пытаньне і практычна вырашыўшы яго.

# НА МЯСЦОХ

Х. М. Раскин

## Опыт проведения курсов подготовки пропагандистов в районе за зимний учебный период

*(Лепельский район, Полоцкого округа)*

Практическая работа партийного просвещения показала, что лучшим пропагандистом-руководом может быть хорошо знающий местную жизнь, местную среду, из нее выросший, т. е. местный рабочий, местный передовой крестьянин.

Исходя из этого, Лепельский районный Комитет партии стал на точку зрения организации в течение зимнего периода курсов-пропагандистов, задачи которых можно формулировать резолюцией, принятой райкомом: „в целях проведения директив партии и Комсомола о повышении идейного качества нашей пропагандистской работы, Лепельский райком КПБ ставит себе задачей заранее подобрать и подготовить местных пропагандистов для обслуживания партийных и комсомольских политшкол и кружков района. Исходя из того, что в районе имеется соответствующий кадр пропагандистов, смогущих проводить подготовку новых пропагандистских сил, райком организовывает 5-ти месячные курсы пропагандистов".

Состав курсов вербовался из наиболее развитых слушателей нормальной и сокращенной школ, из некоторых развитых активистов и выдержанных товарищей местной партийной и комсомольской организации, которые больше бывают в районном центре и меньше бывают на районе. Всего слушателей было с начала учебного года 14 человек, из них: 1 исключен за непосещаемость, 2 вообще выбыли из организации и 1 не окончил в виду большого пропуска занятий, всего занималось до самого окончания курса 10 чел. Социальный состав слушателей: рабочих—4, крестьян—4, служащих—2 чел. Партийный состав слушателей: с 1919 по 1927 год пребывания в партии:—6 чел. кандидатов—3 из которых 1 октябрьского набора и 2 из комсомольского актива и 1 комсомолец. Возрастной состав: от 20—27 лет—7 человек, от 32—24 лет—2 чел. и 1 тов. 47 лет. Все слушатели несли общественную нагрузку: агитпропы, члены райкома партии и комсомола, члены профсоюзных органов, члены горсовета, ревкомиссии, секретарь ячейки и др. Пять человек еще до курсов руководили школами политграмоты. Такова общая характеристика состава слушателей.

### Программно-теоретическая часть

В программу курсов входила проработка следующих циклов, расчитанных на указываемые ниже часы:

1. Основные вопросы полит-экономии . . . 40 часов.
2. История партии . . . . . . . 17 часов.

3. Основные вопросы Ленинизма . . . . . 31 час.
4. Основные вопросы экономполитики . . . 14 часов.
5. Методика парт-просвещения . . . . . 10 часов.
6. История Комсомола . . . . . . 8 часов.

Итого . . 120 часов.

Исходя из этой программы, курсанты работали 2 раза в неделю по 3 часа, но практика работы показала, что курсанты не успевают проработать материал и руководители не укладываются в отведенные часы для проработки той или иной темы, потому на собрании курсанты решили добавить один день учебы, т. е. заниматься 3 раза в неделю по 4 часа в день, ибо для прохождения программы потребовалось еще 70 часов. В итоге было затрачено 190 часов, из которых 113 ч. были отведены на самостоятельные работы слушателей и 77 на конференции. Предметы прорабатывались, примерно, в таком порядке: сначала прорабатывались только два предмета, полит-экономия и истории Партии, по окончании которых проходили Ленинизм, экономполитику и методику. Первыми 2 циклами руководили Секретарь и АПО райкома, остальными предметами один товарищ (член пропгруппы). Занятия происходили от 6 до 9—10 часов вечера лабораторным методом и вообще курс был взят на самостоятельную работу слушателей: читка, составление выписок, конспектов и т. д. по заранее отпечатанному и заранее розданному слушателям заданию. Самостоятельная работа слушателей преимущественно происходила в помещении курсов, куда учащиеся приносили с собою подобранную литературу. Необходимо отметить, что в начале работы ощущался недостаток литературы, ибо окружком для курсов учебников не отпустил. Райком раздобыл кое-какие средства для литературы, что несколько улучшило положение. Книжный недостаток был ликвидирован еще тем, что слушатели стали сами закупать библиотечки, необходимые каждому пропагандисту в размере 7—9 книг. Подготовка к занятиям очень часто проходила коллективно, группами в 2—3 человека, в виду недостатка литературы. Количество страниц, даваемых для проработки, колебалось от 5—7 в час, для полит-экономии это количество страниц было для некоторых затруднительно проработать. В общем самостоятельная проработка давала достаточный материал для конференции, которые проходили в большинстве случаев оживленно и интересно. Теоретические вопросы изучались не только в общей, принципиальной постановке вопроса, но увязывались, по возможности, с современностью с конкретными задачами в работе района. Например, при проработке темы: „Учение Ленина о диктатуре пролетариата и государстве", на занятиях был всесторонне обсужден вопрос о перевыборах советов в районе за 3 года по диаграммам, сопоставляя достижения и недостатки работы. Второе, при проработке различных вопросов эконом-политики: о политике в области промышленности, с.-хозяйства, торговли, финансов, кредита и др. на занятия были приглашены председатель кустарно-промысловой кооперации, председатель с.-х и кредитного т-ва, директор коммунального треста и др., которые делали 15—20 минутные доклады о состоянии своего учреждения, предприятия или организации, после чего курсанты, имея теоретическую подготовку, могли подойти к обсуждению того или иного вопроса связывая его с конкретной действительностью. Интересно отметить еще один—очень важный факт: при изучении аграрно-крестьянской проблемы и политики партии в области сельского хозяйства слушатели в выходной день выехали в деревню с целью обследования и изучения дифференциации деревни в районе. В общем теоретическая проработка курса (была

усвоена) удовлетворительно. Необходимо заметить, что некоторые темы из полит-экономии были для слушателей чрезвычайно трудны, но в общем вызвали большой интерес.

## Выпуск и результаты курсов

По окончании работы курсов была проведена коллективная оценка слушателями каждого курсанта с точки зрения результатов, которая дала ему учеба и пригодности его к той или иной пропагандистской работе. В результате райком выделил все 100% слушателей курсов на пропагандистскую работу, из них: 1-го—руководом в среднюю ступень, 3-х—руководами в единую партшколу, 1-го—обществоведом в школу рабочей молодежи, 2-х—руководами комсомольских политшкол и семинарием, 1-го—руководом кружка текущей политики и 1-го—семинарием пионеров. Учебный год был закончен организацией выставки работы на вечере, посвященном итогам всех видов парт-учебы.

## Недостатки

1. Недостаточная вербовка слушателей.
2. Не было должного внимания со стороны райкома к курсантам в смысле разгрузки их от излишних, партийных, общественных обязанностей.
3. Курсы не успели дать курсантам практические навыки, в виду того, что во время прохождения методики, школы и кружки уже закончили свою работу.
4. Не было достаточного количества литературы, что отражалось на занятиях.

## Выводы:

Работа по проведению курсов в округе и районе должна итти таким путем с такой же теоретической программой, с добавлением только отдельных тем истмата и вопросов текущей политики. В области организации рабочих пропагандистов в округе и районе нужно иметь в виду:

1. Курсы проводить в течение зимнего учебного периода.
2. АПО окружкома должен в 2, 3-х районах (в зависимости от пропагандистских сил) послать квалифицированных пропагандистов с целью в течение года подготовить на месте пропагандистов.
3. Учебу на курсах считать основной партийной нагрузкой и не отрывать курсантов во время учебы на другие работы.
4. Требования, которые должны быть пред'явлены к отбору курсантов, должны быть, примерно, следующие:

общеобразовательная подготовка, теоретическое развитие, партийный стаж, партийное прошлое, опыт классовой борьбы, опыт активной общественной работы, авторитетность, производственный стаж.

Тщательная материально-организационная подготовка курсов: помещение, подбор литературы, сосредоточение ее на курсах, организовать дело печатания заданий для каждого слушателя и, вообще, все устранить заранее, что могло бы мешать продуктивности работы на курсах.

Итоги работы курсов в районе показали, что курсы пропагандистов должны быть включены в общую сеть партийного просвещения округа.

Б. Шпітальнік

# Што паказала абсьледваньне вытворчых ячэек

*(Мазыр)*

Акругкомам КП(б)Б было праведзена абсьледваньне работы 6 вытворчых ячэек у мэтах праверкі выкананьня імі дырэктыў ЦК і АК КПБ па асноўных пытаньнях партработы (кіраўніцтва гаспадарчай дзейнасьцю, разгортваньне масавай работы на прадпрыемствах і г. д.).

Не гаворачы ўжо аб тым, што абсьледваньне было праведзена своечасова,—яно дае багаты матар'ял, каб яго падагуліць, зрабіць адпаведныя вынікі і распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы аб далейшай работы вытворчых партячэек.

Становішча работы гэтых ячэек па асобных галінах характарызуецца наступным.

## Кіраўніцтва гаспадарчай дзейнасьцю

Бяспрэчным зьяўляецца тое, што рашэньні XI зьезду КПБ і XV зьезду УсеКП атрымалі сваё практычнае праламленьне ў дзейнасьці вытворчых партыйных ячэек. Няма тае вытворчай ячэйкі, якая-б у працягу апошняга часу не займалася пытаньнямі рацыяналізацыі вытворчасьці патаненьня кошту прадукцыі, рэжыму эканоміі і г. д. Пытаньне вытворчасьці настолькі ўнядрылася ў рабоце ячэек і кожнага партыйца на вытворчасьці, што калі і ня ставіцца спэцыяльнае пытаньне (на сходзе ячэйкі) гаспадарчага характару, дык мімаволі яно пераплятаецца іншымі прафсаюзнымі, партыйнымі пытаньнямі, што бязумоўна зьяўляецца дасягненьнем. На гэты момант зьвярнуў вялікую ўвагу т. Кнорын у сваёй справаздачы на XI партыйным зьезьдзе, сказаўшы— „Таму я лічу, што пытаньне аб узьняцьці эканамічнае думкі членаў нашае партыі, аб узьняці зацікаўленасьці да пастаноўкі эканамічных пытаньняў зьяўляецца адным з важных пытаньняў, на якое нам неабходна зьвярнуць увагу“—(стэн. справаздача XI зьезду КПБ, стар. 114).

Як практычна праламіліся гэтыя дырэктывы ў жыцьці? Па лініі рацыяналізацыі вытворчасьці: нельга тут дэмонстраваць шэрагам вялікіх дасягненьняў таму, што асноўнай перашкодай у рабоце па рацыяналізацыі ва ўмовах Мазыршчыны зьяўляецца нізкая тэхнічная база, аднак прымаюцца меры да правядзеньня магчымых мерапрыемстваў, так, напрыклад: па фанэрнай вытворчасьці на заводзе „Зьвязда“ ўстанаўляецца новы лёкамабіль у 150 сіл і новы заграгічны варстат; на фабрыцы „Чырвоны Кастрычнік“ намечана ўстанавіць 2—новыя заграгічныя варстаты. Па лесапільнай вытворчасьці: на заводзе „Труд“ праведзена мэханізацыя ў перадачы сыравіны; на заводзе „Пралятары“ ўстанаўляецца новая лесапільная рама (заграгічная).

За прайшоўшае паўгодзьдзе мы мелі некаторае пашырэньне існуючых прадпрыёмстваў, так: фабрыка „Чарвоны Кастрычнік“ пераведзена на 3 зьмены; па камунальнаму трэсту значна пашырылася фабрыка цукерак, якая павялічыла выпуск прадукцыі на 330% і пільня на 206,5%.

Посьпехі па гэтых галінах не абыйшліся без актыўнага ўдзелу і кіраўніцтва з боку партячэек, усё-ж трэба адзначыць, значны недахоп некаторых ячэекпа кіраўніцтву гаспадарчай працай; частка ячэек і дагэтуль яшчэ займаюцца заслухоўваньнем *агульных дакладаў* кіраўнікоў прадпрыёмстваў і невыстарчальна займаюцца прапрацоўкай паасобных пытаньняў, з прычыны чаго яны часта абмінаюць шэраг важнейшых пытаньняў.

Да такога роду пытаньняў невыстарчальна прапрацаваных і абдуманых партячэйкамі трэба аднесьці пытаньне зьніжэньня сабекошту прадукцыі прамысловасьці. Так, на фабрыцы цукерак, дзякуючы некатораму пераабсталяваньню, маецца зьніжэньне сабекошту прадукцыі за першае паўгодзьдзе 27/28 г. на 7,8%, па фанэрнай вытворчасьці паніжэньне сабекошту аднаго куб. мэтра на 1,85% (ня гледзячы аднак на патаненьне каштоўнасьці сыравіны на 6%), па скурфабрыкатах (боты-выцяжкі) на 1,5%—у тэй час, як па цэлым шэрагу прадрыёмстваў маецца зусім адваротнае зьявішча, так напрыклад: па камтрэсту выпрацоўка падаражэла на 11,2% (як раз тая прадукцыя, якая павінна ісьці ў вёску), па пільні камбінатаўскай падаражэньне на 14,8%; павялічэньне выдатку альбуміну на фанэру ў параўнаньні з мінулым на 18,51%, падаражэньне запакоўкі фанэры на 8,72%, па пільнях „Лесбела“ падаражэньне прадукцыі (без сыравіны) на 10,77%.

Пададзеныя даныя гавораць аб тым, што у гэтай галіне ёсьць шэраг ляпсусаў і недахопаў. Тут ёсьць, праўда, аб'ектыўныя прычыны (паношанасьць абсталяваньня, дрэнная якасьць сыравіны, альбуміну, упакоўка фанэры шынай замест вяроўкі няпоўная нагрузка бачарнай вытворчасьці і г. д.), але трэба адзначыць, што некаторыя партячэйкі гэтаму пытаньню аддалі мала ўвагі.

## Пытаньні масавай работы

Гаварыць аб рабоце вытворчых ячэек мы павінны таксама па ступені ўцягненьня шырокіх рабочых мас у справу сацыялістычнага будаўніцтва, па ступені падняцьця зацікаўленасьці рабочых гэтым.

Асноўным памернікам можа быць тут кіраўніцтва (з боку партячэек) дзейнасьцю вытворчых камісій і нарад. Што мы назіраем на гэтым вучастку.

Удзел рабочых за апошнія часы палепшыўся, у сярэднім абхоп рабочых вытворчымі нарадамі складае 56%. Выкананьне пастаноў вытворчых нарад дасягае 60—65%; нарады займаюцца не адцягненымі, а рэальнымі пытаньнямі; бяда ў тым, што значная частка гэтых пастаноў ня выконваецца, бо намечанае мерапрыемства патрабуе вялікіх сродкаў, альбо таму, што выкананьне іх затрымліваецца ў цэнтры.

Паасобна ў ячэйках гэтая справа абстаіць так: на фабрыцы „Чырвоны Кастрычнік“—камісія працуе плянава, за 4 месяцы правяла 9 пасяджэньняў і 8 вытворчых нарад, у сярэднім на нарадах прысутнічала 53 чал. Большасьць пастаноў гаворыць аб капітальным рамонце і пераабсталяваньні фабрыкі. Пастановы выконваюцца з вялікім спазьненьнем і невыстарчальна, чаму рабочыя і наракаюць на адміністрацыю.

Па ячэйцы станцыі Калінкавічы—за гэты пэрыяд быў на сходзе ячэйкі заслухан даклад па рабоце вытворчай нарады. У рабоце нарад, няма плянавасьці, належнай сыстэмы ў падрыхтоўцы пытаньняў, пытаньні больш важнага зьместу высоўваюцца выпадкова.

Па заводу „Труд"—нерэгулярна і няплянава склікаюцца вытворчыя нарады, нідзе не стаяла спэцыяльнае пытаньне аб рацыяналізацыі вытворчасьці. Усе прапановы вытворчых нарад выкананы на 100%.

Па заводу „Пралятары"—Рабочыя не асабліва цікавяцца работай вытворчых нарад у сувязі з слабай падрыхтоўкай пытаньняў (на некалькі гадзін абгаварваюць пытаньне і ў канцы канцоў пераносяць на другі раз) і невыстарчальным выкананьнем пастаноў.

Вось кароткая характарыстыка становішча гэтай галіны. У паасобных прадпрыёмствах, якая яскрава гаворыць, што ня ўсюды аднальковая ўвага была аддадзена гэтаму пытаньню і там, дзе адзін бок добры (поўнае выкананьне пастаноў), там другі кульгае. Наогул асноўны вывад можна зрабіць наступны: партячэйкі стала не займаліся гэтым пытаньнем, глыбока не вывучалі прычыны слабае працы, некаторыя нават ня лічылі неабходным заслухаць даклад аб становішчы яе.

Дырэктывы ЦК і АК аб масавай рабоце ў ячэйках адбіліся заслаба—беспартыйны рабочы актыў у значнай ступені пакінуты сам на сябе, ячэйкі не праводзяць спэцыяльнай працы з ім. У асобных ячэйках мы знаходзім наступныя характарыстыкі абсьледаваценяй:—па заводу „Пралятары"—„...У практыцы работы ячэйкі ня ўжываўся мэтад падрыхтоўкі партыйцаў для вядзеньня работы сярод беспартыйных рабочых. Між іншым, былі выпадкі, калі партыйцы на агульных сходах рабочых выступалі неарганізавана. Ячэйкай быў створаны інстытут цэхоргаў, але ніякай працы з імі не праводзіла, і цэхоргі ня ведаюць сваіх задач".

У матар'ялах ячэйкі „Чырвоны Кастрычнік"—„...Індывідуальная апрацоўка беспартыйных рабочых не праводзіцца. Партячэйка лічыць, што гэтая форма работы ня можа прывіцца ва ўмовах прадпрыёмства, а годна толькі для вёскі".

Трэба адзначыць, што адным з балючых момантаў дагэтуль зьяўляецца перагрузка рабочых агульнымі сходамі (на асобных прадпрыёмствах у сярэднім на месяц было па 2—3 сходы), што, бязумоўна адбіваецца на актыўнасьці і зацікаўленасьці ў наведваньні гэтых сходаў, і другі недахоп—гэта няўменьне яшчэ ўвязаць масавую работу з культурнай. Слабае разгортваньне яе мае свой адбітак і на рабоце працы партячэек, аб чым скажам ніжэй.

Некалькі яшчэ слоў аб кіраўніцтве і пастаноўцы культработы сярод членаў саюзаў.

Пры ўсіх прадпрыёмствах маюцца клюбы, апошнія слаба прыстасованы для абслугоўваньня рабочых (мала пакояў, невялікае абсталяваньне і г. д.); пры большасьці клюбаў маецца кіно і радыё.

Клюбы слаба прыстасоўваюцца да агульнай работы прадпрыёмства (вытворчая прапаганда, культура ў быце і г. д.) і амаль зусім не адбілі задачы барацьбы за канкрэтнае пытаньне культурнай рэвалюцыі (барацьба з п'янствам, з рэлігійнасьцю, няпісьменнасьцю і г. д.).

На прадпрыёмствах сустракаемся з адсутнасьцю падрыхтованых сіл для вядзеньня культурнай і клюбнай работы, аднак гэтым нельга сказаць, што ячэйкамі і фабзавкомамі прыняты выстарчальныя меры да стварэньня клюбнага актыву і наогул да паляпшэньня клюбнай работы.

А між іншым на фабрыках і заводах назіраем п'янства, рэлігійнасьць, няпісьменнасьць і іншыя хвараватыя моманты. Ці вычарпаны

партячэйкамі і прафячэйкамі ўсе магчымасьці да ўзмацненьня барацьбы з гэтым?—бязумоўна, не, нават наадварот—тут праяўлена слабасьць. Некаторыя ячэйкі, напрыклад, чакаюць, каб ім адкуль-небудзь прыслалі клюбных платных работнікаў.

## Пытаньні ўнутры-партыйнай работы

Ва] ўнутры-партыйнай працы ячэек трэба адзначыць устанаўленьне строгае плянавасьці ў рабоце, складаньне больш рэальных пляпаў—адсюль большае выкананьне іх і прадугледжваньне асноўных пытаньняў на падставе дырэктыў вышэйшых парторганаў.

Станоўчым момантам зьяўляецца тое, што ў падрыхтоўцы пытаньняў да пасяджэньняў бюро ці да агульных сходаў ячэек прыцягваецца значная колькасьць партыйцаў. Гэта ажыцьцяўляецца шляхам вылучэньня, ці, стварэньня часовых камісій (з 3-ці, 5 таварышоў) для абсьледаваньня і прапрацоўкі шэрагу важнэйшых пытаньняў. Гэта спрыяе большай апрацоўцы партыйцаў, уцягненьню радавых членаў у практычную партработу і падняцьцю актыўнасьці партмасы.

На заводзе „Пралятары“ ячэйка мала практыкавала мэтад вылучэньня часовых камісій, вынікам чаго пры абсьледваньні выявілася: слабая падрыхтоўка пытаньняў, слабая актыўнасьць на сходах і нараканьні паасобных партыйцаў на тое, што іх мала ўцягваюць.

Вышэйадзначанае аб невыстарчальнай разгарнутасьці масавай работы на прадпрыёмствах, слабае выкарыстаньне формаў і мэтадаў вядзеньня яе (партаргі, індывідуалы, апрацоўка беспартыйнага актыву і г. д.) меў свой адбітак і на росьце вытворчых партячэек за лік рабочых, асабліва кваліфікаваных, дарослых. Партячэйкі за гэты пэрыяд узрасьлі і значна, так, напрыклад: ячэйка „Чырвоны Кастрычнік“ за 6 месяцаў з 74 узрасла да 83 чал.; ячэйка „Пралятары“ ўзрасла на 9 чал.; ячэйка ст. Калінкавічы—на 22 чал. і г. д., але рост гэты ў пераважнай сваёй большасьці быў за лік кастрычнікавага заклiку, і ў шэрагу ячэек назіраліся і назіраюцца моманты, калі 3-4 месяцы да і ўвесь час пасьля кастрычнікавага заклiку ня было і няма росту; гэта гаворыць аб адсутнасьці сталага і сыстэматычнага ўцягненьня рабочых у партыю.

У маральным становішчы ячэек трэба адзначыць здавальняючае ў асноўным становішча, рост палітычнай сьвядомасьці партыйцаў, большая прыкладнасьць на вытворчасьці, зьмяншэньне неэтычных, антыпартыйных паступкаў,—адсюль значнае ўзмацненьне аўтарытэту партячэек сярод рабочых, рост давер'я з боку рабочых да ячэек і асобных партыйцаў.

З паасобнымі і досыць рэдкімі балячкамі неэтычнасьці ячэйкамі і АКК вядзецца суровая барацьба; але ў гэтым напрамку партячэйкам неабходна зьвярнуць сур'ёзьнейшую ўвагу на падняцьце культурнага ўзроўню і агульнай пісьменнасьці адсталых партыйцаў, бо ў асобных ячэйках мы яшчэ сустракаемся з наліччам няпісьменных (у яч. „Чырвоны Кастрычнік“ ёсьць зусім няпісьменных партыйцаў—3, малапісьменных—9 ч.). Трэба таксама, каб ячэйкі пачалі больш цікавіцца асабістым жыцьцём кожнага свайго члена, дапамагаючы ў перавыхаваньні як іх самых, так і акружаючае іх адсталае і падчас рэлігійнае сям'і.

Усе недахопы ў рабоце ячэек павінны быць абгавораны партыйнай масай у мэтах калектыўнага і больш хутчэйшага іх зьнішчэньня.

М. Шапиро

# Как ведется работа с беспартийным рабочим активом

*(Борисов)*

Борисовский горком КП(б)Б провел обследование состояния беспартийного рабочего актива и степень охвата его партийным воспитанием и влиянием.

Обследование охватило почти все партийные ячейки города (17 ячеек, из общего числа 19). Учтено по всем этим ячейкам—1195 человек активистов, что составляет—17% к общему числу членов профсоюзов.

Несколько цифр ярко характеризируют лицо этого беспартийного актива. По возрасту—19% молодежи до 23-х лет, остальные более взрослые и даже пожилые рабочие. По производственному стажу—36% имеют производственный стаж до 5-ти лет, а остальные больше 5-ти лет. Женщины в беспартийном активе составляют—29%, что соответствует общему удельному весу работниц в производстве.

Все это показывает, что слой беспартийного актива фактически представляет из себя основное ядро рабочих, тесно связанное с производством, живущие фактически интересами своего предприятия.

Несколько иная картина рисуется при взгляде на распределение беспартийного актива по отдельным областям общественной работы. 56% беспартийного актива втянуто в разные отрасли профработы, 4%—в работу горсовета, 6%—в работу кооперации, 7%—в работу ОСОавиахима, 6%—в МОПР'овскую работу, 3%—в работу шефобщества, а остальной актив в более малом количестве распределяется между остальными видами работы (народные заседатели, страхкасса и прочие).

Такое распределение показывает недостаточное вовлечение беспартийного актива в работу горсовета, кооперации и общественных организаций. Это приводит к тому, что на отдельных предприятиях в работу шефобщества, МОПР'а, горсовета и т. п. беспартийный актив совершенно не втянут и вся работа проводится только партийцами.

Основная цель обследования состояла в выяснении вопроса, насколько наличный беспартийный актив охвачен партийным влиянием и воспитанием. Тут выявлена весьма безотрадная картина.

Регулярно посещает открытые собрания партячеек и обучается в сети партпросвещения—190 человек или 15% всего беспартийного актива. Если сюда прибавить некоторое количество активистов, которое поддерживает индивидуальную связь с отдельными членами партии, но не посещающих регулярно собраний ячеек, тогда получаем приблизительно 20% беспартийного актива, охваченных более или менее систематически партийным воспитанием и влиянием. Остальные 80% актива, повидимому, весьма мало затронуты партийным влиянием. Что это может привести к весьма серьезным последствиям, ясно без особых доказательств.

Что же мешает беспартийному активу регулярно посещать открытые партсобрания?

Первая причина то, что зачастую повестка дня открытых собраний подбирается неудачно и слабо заинтересовывает рабочего-активиста. Другая причина—слишком частые закрытые собрания партячеек. Например, на собрании партколлектива стеклозавода имени „Домбаля" один из партийцев рассказывает: „Когда приглашаешь беспартийного на собрание ячейки, он отвечает: Пробовал я раз ходить, так меня выставили, сказали—беспартийный,—уходи; что же я дурак ходить, чтобы меня выгоняли".

Кроме того, многие ячейки ограничиваются вывешиванием об'явлений за час, два до собрания. Беспартийный активист часто заранее распределяет свое время и, узнав о собрании поздно, не может его посетить, ибо время это уже занято.

Есть в этом отношении положительный опыт. Так ячейка завода „Коминтерн" и ф-ки „Красная Березина" приглашает активистов на открытые партсобрания специальными повестками и устными приглашениями партактива. Еще некоторые ячейки применяют устные индивидуальные приглашения, но большинство ячеек ограничивается вывешиванием об'явлений, а бывает обходится и без этого. Секретарь одной из цехячеек заявил на собрании: „Если беспартийный интересуется партией, он сам должен искать и находить партийные собрания".

Отсюда понятно, что среди части (и не малой части) беспартийного актива чувствуется некоторое отчуждение от партии. Многие партячейки почти ничего не делают для уничтожения этого явления. Интересный опыт в этом отношении проделала ячейка завода „Коминтерн". После обсуждения на рабочих собраниях вопроса о колдоговоре пошли разговоры среди рабочих: „Почему это партячейка руководит этим делом? Зачем вмешивается ячейка в заключение колдоговора" и т. п. „Уловив такие настроения, ячейка созвала специальное совещание беспартийного актива, где был поставлен вопрос „Работа ячейки на предприятии и методы партруководства общественной жизнью". Это совещание привлекло 75 человек из беспартийного рабочего актива. Прошло оно чрезвычайно активно и беспартактив выражал удовлетворение полученными раз'яснениями, а в результате почти все участники совещания стали регулярно посещать открытые собрания ячеек.

Ячейка спичечной ф-ки „Красная Березина" практиковала специальные совещания беспартийного актива для раз'яснения вопросов партдискуссии, хода и итогов XV партс'езда, а также итогов Пленума ЦК и ЦКК. Этот опыт получился довольно удачный, но беда в том, что он не получил распространения в других партячейках.

Еще нужно остановиться на вопросе о росте парторганизаций, за счет беспартийного актива. Нужно отметить, что вообще этот рост происходит несистематически, а скачками—Октябрьский призыв, вступление в партию работниц, в связи с 8-ым мартом и т. п. Проведенный подсчет в некоторых ячейках показывает, что рост ячейки только на 25—30% идет за счет беспартийного актива, а больше ячейки растут за счет рабочих, которые не считались активом. Это говорит о некотором случайном характере роста и безусловно свидетельствует об опасности засорения парторганизации случайным, непроверенным на общественной работе элементом.

На основании всех этих материалов, горком разработал ряд мер по усилению воспитательной работы с беспартактивом и по приближению его к партийным ячейкам.

